

# ЗОРКІ НАД ПАЛІГОНАМ

АПОВЕСЦЬ

Баявыя машыны ішлі ўсю ноч. Роўна і цяжка гулі маторы. Кволым святлом, як светлячкі, жылі на брані, вільготнай ад расы, зялёныя агеньчыкі. Пагруквалі гусеніцы. Здавалася, калона знарок прыцішана вуркоча маторамі і слаба пагруквае гусеніцамі, каб не надта парушаць густую цішыню цёмнае раннявосеньскае ночы. Калона быццам заблудзілася, прапала між незнаёмых узлескаў, узгоркаў, пустых, перааараных на зіму палёў. Калі і паказвалася недзе збоч вёска,

цёмная, ціхая, з рэдкімі белымі плямамі святла пад ліхтарамі дзе-небудзь ля фермаў ці ля калгасных майстэрняў, то і яна не магла ўгледзець калону — гул матораў і пагрукванне гусеніц усё роўна як наплывалі здалёку.

А калона стамілася. Густым потам лягла на браню раса, і сцякала ра́гамі, як кроплі па аконным шкле ў дождж. Гледзячы збоку, можна было нават падумаць, што гэтая браніраваная армада ідзе сама па сабе, што не засталося ў ёй ніводнага чалавека. Самі, невядома куды і чаго, пагрозліва ідуць машыны, злучыўшыся ў нейкую фантастычную жалезную істоту.

Але так магло здацца збоку, і чалавеку, які нічога не ведае пра вайсковае жыццё. Унутры калоны, за халоднаю бранёю, было цёпла, утульна, няярка свяціліся ліхтары, прытуліўшыся чалавек да чалавека, спала ў дэсантных адсеках пяхота, абняўшы сваю зброю. І машыны на ямах нібы люлялі, закалыхвалі людзей.

Яркім зялёным святлом свяціліся на шчытку кіравання прыборы, і гэты зеленаваты водбліск лажыўся на твар механіка, на рукі, якія трымалі штурвал.

І акрамя механіка ў кожнай машыне не спаў яшчэ камандзір. Ягоная постаць пагойдвалася ў люку. Часам, калі збоч праплывала вёска ці калі выходзілі на ўзлесак або міналі адметную чым-небудзь мясцовасць, камандзір на некалькі хвілін апускаўся пад браню, на сваё камандзірскае сядзенне, правяраў па карце, на якой быў накрэслены маршрут, ці правільна ідзе калона, вызначаў, дзе яна знаходзіцца.

Потым камандзір зноў займаў сваё месца ў люку, углядаўся ў начную цемень, слухаў прывычнае патрэскванне і слабае гудзенне ў навушніках танкашлема. Радыёсувязь, нібыта жывое, нябачнае нервовае валаконца, звязвала ўсю калону. У любую секунду маглі пачуцца пазыўныя, кароткія, зразумелыя каманды — і

ажыла б імгнення калона, знікла б і прытаілася ў лесе або рассыпалася па полі ў грозную баявую лінію...

Лейтэнант Карповіч ужо не адчуваў стомленасці і, здавалася, не хацеў і спаць. Цяпер ён мог бясконца, усё жыццё вось гэтак жа стаяць у люку на сваім камандзірскім месцы, гатовы выканаць любую каманду.

Карповічу здавалася, што і з гэтымі баявымі машынамі, і з салдатамі, якія спалі ў дэсантных адсеках, звязана ўсё яго жыццё. Быццам даўным-даўно ён ведае кожнага, быццам нічога больш і не рабіў у жыцці і ні пра што іншае не марыў. Не было ні інстытута, ні любімае геаграфіі, якая так спатрэбілася яму на вайсковай службе, ні мараў пра падарожжы з экспедыцыямі па ўсёй краіне, па ўсім свеце... Цяпер нават дзіўна, што не хацелася яму ісці на службу, што на першым часе здавалася, нібыта ўсё ягонае жыццё перавярнулася ўверх нагамі, калі на размеркаванні даведаўся, што патрэбна ісці ў войска...

Як гэта было, здавалася, і даўно, і няпраўда!..

Лейтэнант Карповіч ведаў, што хутка скончыцца марш, што баявыя машыны адна за адною паволі знікнуць за металічнымі варотамі парка. І калі пачнецца дзень, ужо нельга будзе нідзе адшукаць тую таямнічую і грозную калону, якая ішла па зямлі ўсю ноч. І ўдзень не будзе і гэтага стомленага, змучанага не аднымі бяссоннымі суткамі, запыленага лейтэнанта — камандзіра мотастралковага ўзвода Карповіча. Між людзей з'явіцца чысценька апрануты, паголены і падцягнуты лейтэнанцік у наглянцаваных хромавых ботах. І ніхто, гледзячы на яго, і не падумае нават, што зусім нядаўна гэты лейтэнанцік вёў па лясах і палях грозныя баявыя машыны, а калі праязджалі паўз вёскі, лейтэнанту хацелася, каб бачылі яго, каб пазайздросцілі таму, як вольна пагойдваецца ён у люку...

Цяпер, успомніўшы першыя дні вучэнняў і тое, як ён красаваўся ў люку, Карповіч толькі ўсміхнуўся. За

апошнія два месяцы, і асабліва за дні вучэнняў, прайшла нейкая незвычайная, вялікая паласа ў ягоным жыцці. І з аднаго боку яе стаяў цяперашні пяхотны лейтэнант, а з другрога боку — студэнт-географ, у будучым вялікі падарожнік, сярдзіты і незадаволены, што яго адрываюць ад любімага занятку...

Карповіч усміхнуўся.

## РАЗДЗЕЛ 1

— Яшчэ раз кругом, таварыш лейтэнант! — камандаваў прапаршчык, стоячы за дзвюма скрынкамі, пакладзенымі адна на адну, быццам за прылаўкам.— Як знарок на вас пашыта. Здымайце.

Карповіч паслухмяна раздзяваўся і складаў адзенне на плашч-палатку, якая была разаслана на падлозе.

Прапаршчык скоса ўважліва глядзеў на Карповіча, які ў адных трусах і майцы стаяў на краёчку плашч-палаткі.

— А цяпер палявую форму адзеньце, калі ласка, таварыш лейтэнант.

Прапаршчык падаў форму і пераможна глядзеў на афіцэра, пакуль той адзяваўся. Прапаршчык быў перакананы, што і цяпер ён не памыліўся, што форма будзе якраз на гэтага шчупленькага лейтэнанціка, які спачатку нават саромеўся раздзявацца перад ім, ды і зараз адчувае сябе не зусім ёмка. Ён забярэ, што яму ні дай, не будзе абавязкова мераць адзенне. Але Палікарчык не мог дапусціцца да таго, каб хто-небудзь, гледзячы на лейтэнанта, на якім форма вісіць як на калу, запытаўся і пачуў, што такую амуніцыю выдаваў ён, стары служака Палікарчык.

І таму прапаршчык Палікарчык аж скрывіўся, калі ўбачыў, што штаны даўгаватыя на лейтэнанта, і Карпо-

вічу здалося, што ў прапаршчыка неспадзеўкі разбалеўся зуб.

— Здымайце, здымайце штаны! — замахаў рукою прапаршчык.

Карповіч хуценька сцягнуў штаны, не разумеючы, чаму так падганяе яго прапаршчык. Штаны, здавалася, былі якраз на яго.

Карповічу паказалася спачатку, што гэты круглатвары, з вясёлымі прыплюшчанымі вачыма прапаршчык пацяшаецца з яго. Карповіч чуў, што старослужачыя любяць пажартаваць з навічка, які не зусім ведае лад армейскага жыцця. Таму прапаршчык і прымусіў яго раздзявацца да трусоў, паставіў перад сабою і прымушае прымяраць то адны штаны, то другія, нібы ён, Карповіч, не афіцэр, а нейкая модніца. Урэшце ён, Карповіч, старэйшы па званні і можа загадаць гэтаму прапаршчыку... Але, стоячы ў трусах, было неяк няёмка камандаваць, не было камандзірскага выгляду і аўтарытэту.

— О, зараз іншая гамонка! Цяпер боты абувайце.

Прапаршчык падаў хромавыя боты і анучы, ухвальна ківаў галавою, гледзячы, як накручвае іх на нагу Карповіч.

— Правільна, па-салдацку. Так ніколі ног не парэжаш,— пахваліў прапаршчык.— Цяпер вам яшчэ папругу...

Прапаршчык выйшаў з-за свайго «прылаўка», падаў Карповічу папругу, дапамог прапхнуць рэмень партупеі пад пагон.

— Гатоў афіцэр, як карцінка! — шчыра ўсміхнуўся прапаршчык, лёгенька прыстукнуў рукою па скрынцы. І нешта адарвалася ў душы ў Карповіча.

Быццам на незнаёмага чалавека, паглядзеў Карповіч на сваё адлюстраванне ў старым трумо, якое стаяла тут, у складзе адзення, і перад якім, мабыць, прайшлі тысячы людзей. З трумо глядзеў на нядаўняга студэн-

та крыху разгублены ладнаваты лейтэнант у палявой форме з зялёнымі зорачкамі на пагонах.

— Вось і ўсё, лейтэнант,— як прачытаўшы ягоныя думкі, сказаў прапаршчык. Прыжмураныя ягоныя вочы глядзелі на Карповіча журботна і зычліва.

Карповіч зразумеў, што прапаршчык і не збіраўся жартаваць з яго, і зрабілася няёмка.

Прапаршчык усміхнуўся Карповічу кволаю ўсмешкаю і растлумачыў:

— Я, браце, так некалі хацеў афіцэрам стаць!..

Ён махнуў рукою, не скончыў гаварыць, нагнуўся, дастаў шпулю шпагату і падаў Карповічу:

— Бярыце, таварыш лейтэнант, звязвайце форму.

Карповіч узяў шпагат і здзіўлена глядзеў на гару адзення, якая высілася на плашч-палатцы: паўсядзённая форма, зімовая, шынель, «хэбэ», боты, чаравікі, парадная форма, рубашкі, гальштукі, плашч-паліто...

Прапаршчык, нагнуўшыся, нешта перабіраў у адной са скрынак, шамацеў накладнымі з тоненькае паперы. На гэтакіх жа накладных была выпісана форма і Карповічу.

Карповіч разумеў, што прапаршчык і цяпер шкадуе, што не змог стаць афіцэрам. Мабыць, гэта была ягоная мара. А чалавек у жыцці мацней за ўсё шкадуе і не можа забыцца пра тую мару юнацтва, якая не здзейснілася.

Карповіч абышоў вакол палаткі, не ведаючы, як прыступіцца да формы.

Прапаршчык паглядзеў на яго, падышоў, стаў на калені, паскладаў паасобку кожную форму, пазвязваў яе шпагатам, акуратна склаў на плашч-палатцы і звязаў яе за рагі. Атрымаўся ладны вандзэлак.

Карповіч глядзеў на ўмелыя, спрытныя рухі прапаршчыкавых рук, на якіх засталіся страшныя сляды, якія пакідае агонь на чалавечым целе. Гэтакі ж самы след агню быў і на твары, і на шыі.

— Вы ваявалі, таварыш прапаршчык? — запытаўся Карповіч.

Прапаршчык нічога не адказаў, дастаў з кішэні ножык, адрэзаў шпагат, устаў:

— Мала ваяваў. У другім баі гарэў у самаходцы... Пакуль вылечыўся, вайна скончылася. Ну, ні пуху ні пер'я, таварыш лейтэнант!

Прапаршчык моцна паціснуў руку Карповічу, зноў усміхнуўся прыжмуранымі вачыма весела і бесклапотна.

Карповіч паспрабаваў падняць клунак са сваім афіцэрскім дабром. Ён быў не з лёгенькіх.

— Цяжкая афіцэрская ноша, га, лейтэнант? Цяжкая. Наце аловак, падпішыце плашч-палатку. Схадзіце ў роту, вазьміце ў дапамогу салдатаў. У нас у адзіночку нельга. У адзіночку можна толькі сесіі здаваць...

Карповіч выйшаў са склада з палявою афіцэрскаю сумкаю ў руцэ. Востра, як і на складзе, пахла новым адзеннем. І гэты пах, пах вайсковага адзення, назаўсёды цяпер, здавалася, быў з ім.

А сонца свяціла цёпла і спакойна. Пад ветрам роўна і густа шумела лісце, бо ўжо пераваліла на другую палавіну лета. І ў сонечныя дні плыла над зямлёю лёгенькая і журботная смуга. Уздоўж дарогі густа светлым блакітам цвіла цыкорыя. Яшчэ нейкае паўгадзіны таму па гэтай самай дарозе ў тэнісцы-сетачцы ішоў да склада чалавек, якому служба здавалася нечым не надта і рэальным, у крайнім выпадку, далёкім і незвычайным.

Цяпер гэтаю ж самаю дарогаю ішоў лейтэнант мотастралковых войск у не абношанай яшчэ палявой форме, з палявою сумкаю ў руцэ.

Усё ж несправядліва многа чаго ў жыцці. Прапаршчыку, які толькі што выдаваў адзенне Карповічу, было мараю стаць афіцэрам. А жыццё павярнулася так, што стаў ён загадчыкам склада. Карповіч не думаў

быць афіцэрам, вядома, акрамя таго ўзросту, калі кожны хлапчук не ведае большае мары, чым быць салдатам. Бо салдат — увасабленне самага мужнага і гераічнага, самага лепшага, што можа мець мужчына.

Карповіч яшчэ марыў быць падарожнікам — хто з хлапчукоў таксама не марыць пра гэта! — марыў будучы ўжо і дарослым чалавекам. Таму падрыхтаваўся і паступіў на геаграфічны факультэт. І вучыўся ён не толькі, каб атрымаць дыплом. Самастойна прачытаў і вывучыў матэрыялу намнога больш, чым патрабавалася універсітэцкаю праграмаю. Ён да сканчэння вучобы стаў добрым спецыялістам-географам, які мог і меў права разлічваць на тое, што зоймецца пасля вучобы сур'ёзнаю работаю. Хай не адразу на Поўначы, на полюсе... Яго веды спатрэбіліся б, напрыклад, на будаўніцтве Байкала-Амурскае магістралі...

Але ў свой час Карповічу было прысвоена званне афіцэра і, згодна закону, ён павінен быў, калі загадаюць, служыць.

Праўда, служба давала і сваю перавагу: пасля ён мог ехаць не па накіраванні — накіраваць маглі і настаўнікам у школу,— а туды, куды сам захоча, нават і на Паўночны полюс. Хто адмовіцца ад чалавека, які служыў у войску?

Папраўляючы без патрэбы папругу і абцягваючы куртку, Карповіч ішоў збоч дарогі па запыленай доўгай траве, памахваў сумкаю.

Калі наблізіўся да кантрольна-прапускнога пункта, мацнуў рукою за кішэню, успомніў, што пропуск застаўся на складзе, у цывільнай вопратцы, якая ляжыць цяпер у плашч-палатцы.

Спачатку Карповіч прыпыніўся, разгублена пагледзеў на днявальнага, які ў чысценькай адпрасаванай форме, наглянцаваных ботах, у фуражцы, з павязкаю на рукаве і са штык-нажом на папрузе тупаў тудысюды.

Яшчэ не ведаючы, што скажа днявальнаму, Карповіч паволі падыходзіў да дзвярэй. Ён пазнаў і днявальнага, рабаціністага, рыжага салдата, які аднаго разу не прапусціў яго.

Але нечакана днявальны перастаў хадзіць, стаў па стойцы «смірна» і ўзяў пад казырок.

Карповіч спачатку азірнуўся: каму так казырае гэты сур'ёзны і строгі салдат, але так нікога і не ўгледзеў.

Ён яшчэ не ўспеў зразумець усё як след, казырнуў салдату, так, як некалі вучылі яго на занятках, цвёрда і ўпэўнена прамінуў КПП.

І толькі за КПП засмяяўся сам з сябе шчыра і радасна, і яшчэ ўсміхаўся, успамінаючы, як азіраўся — каму гэта казырае днявальны?

Не запавольваючы хады, дайшоў да афіцэрскага інтэрната, узышоў на другі паверх, пастаяў на калідоры перад трумо: намнога вышэйшым, мужным рабіла яго форма. Гэта ўжо сапраўдны мужчына, а не студэнцік.

У пакоі Карповіч пахадзіў туды-сюды, узяў шчотку і суконку, пайшоў, выглянцаваў боты. Але і потым месца сабе не знаходзіў. Рупілася выйсці, паказацца людзям.

Карповіч успомніў, што цяпер, у форме, ён можа спакойна прайсці ў сваю роту, прадставіцца камандзіру. Трэба ж узяць салдат і прынесці са склада ўсю амуніцыю.

Карповіч распрануўся, падшыў да курткі чысты падкаўнерык, у калідоры яшчэ пакруціўся перад трумо. Толькі цяпер ён ацаніў вока прапаршчыка — форма была быццам спецыяльна пашыта на Карповіча.

На тэрыторыю часці Карповіч зайшоў дзелавым, заклапочаным крокам, а падыходзячы да КПП, быццам і не глядзеў на днявальнага, казырнуў яму ў адказ.

Каб не паказваць, што ён навічок, Карповіч знарок не пытаўся на КПП, дзе казарма ягонае роты, думаў, што сам знойдзе. І пашкадаваў, што не запытаўся, калі

апынуўся на тэрыторыі. Навокал не было ні душы: час заняткаў. І самому неяк няёмка хадзіць ад казармы да казармы ў той час, калі людзі заняты справаю.

Гэтая акалічнасць крыху сапсавала прыўзняты настрой, які меў спачатку Карповіч. Ён памкнуўся быў закіраваць ужо назад, паехаць, напрыклад, у горад, але заўважыў пад соснамі непрыкметны на першы погляд будынак штаба. Там павінен быць дзяжурны, і там можна пра ўсё даведацца.

На калідоры штаба было ціха і свежа, як і заўсёды бывае ў мураваных памяшканнях летам, калі не працуе абаграванне. Насупраць дзвярэй, праз якія зайшоў Карповіч, было вялікае акно.

За акном у невялічкім пакойчыку на стале стаялі тры тэлефоны, ля сценкі чырвонымі агеньчыкамі свяціўся шчыт селектара. Ля стала стаяла металічная шафа. У другім кутку, ля рацыі, якая стаяла на маленькім століку, сядзеў радыст.

За сталом адкінуўшыся плячыма да спінкі крэсла, сядзеў лейтэнант у паўсядзённай форме, з чырвонаю павязкаю на рукаве.

Ён быстрым позіркам акінуў Карповіча, яго новую, неабношаную форму, усміхнуўся, скрывіўшы вусны, і нечакана строга запытаўся:

— Новы афіцэр? Прадстаўляцца трэба, калі заходзіце да памочніка дзяжурнага па часці!

Ягоныя вочы холадна, звысака глядзелі на Карповіча, перакаціліся жаўлакі на шчоках.

Адчуванне свае перавагі і ўлады над Карповічам было ў гэтым позірку. Нешта непрыемнае варухнулася ў грудзях у Карповіча не з-за таго, што незнаёмы лейтэнант хацеў пажартаваць з яго, а з-за гэтага непрыхаванага адчування свае перавагі, якую — Карповіч адчуў — хоча паказаць лейтэнант.

Карповіч у свой час старанна, як і геаграфію, вучыў Статут і таму цвёрда ведаў, каму павінен прадстаў-

ляцца афіцэр, калі прыбывае да месца службы. Гэты ж хударлявы доўгі лейтэнант з бясколернымі вачыма, які цяпер збіраўся напалохаць Карповіча, не мог быць ні камандзірам часці, ні камбатам, ні нават і камандзірам роты.

Захацелася асадзіць яго.

— Рана мне яшчэ вам прадстаўляцца,— знарок спакойна адказаў Карповіч і нават нявінна ўсміхнуўся.

Гэты адказ і ўсмешка быццам сцебанулі лейтэнанта.

— Як гэта рана? Калі кожны салага, прыбыўшы ў часць...

Лейтэнант падхапіўся з крэсла і ўтаропіўся ў Карповіча «сталёвым» позіркам, які, мабыць, вельмі часта дзейнічаў безадказна. Бо не ўсякі і генерал умее так паглядзець. Але што позірк, калі да яго не хапае самага малога — генеральскіх пагонаў?

— ...павінен сказаць вам,— быццам прадаўжаў пачаты памочнікам дзяжурнага сказ Карповіч,— кожны салага нават павінен сказаць вам, што, ідучы на дзяжурства, трэба твар памыць, бо...

На імгненне лейтэнант разгубіўся, мацнуў рукою то за адну, то за другую шчаку.

Карповіч не даў яму апамятацца:

— Малако на губах высахла, але засталося.

Радыст чмыхнуў у рукаў.

Лейтэнант не чакаў такога павароту. Твар яго пачырванеў, ён апёк позіркам Карповіча, азірнуўся навокал, як шукаў, што б ухапіць у руку, і напусціўся на радыста:

— А вы што? Вы дзяжурыць прыйшлі ці хіханькі строіць? Я вас зараз здыму з дзяжурства і адпраўлю на гаўптвахту!

Салдат стаяў па стойцы «смірна», глядзеў на адно месца на сцяне, і на твары ў яго блукала ўсмешка.

— Што, Вялічка, зноў пужаеш?

Дзверы ў пакойчык дзяжурнага адчыніліся, і ўвайшоў капітан з новенькаю павязкаю дзяжурнага па часці на рукаве. Ад ягонага крыху насмешлівага пытання лейтэнант нечакана звяў і махнуў рукою:

— Ды вось тут...— І сеў да стала.

Капітан паглядзеў на Карповіча.

— Лейтэнант Карповіч. Прызначаны ў трэцюю роту камандзірам узвода.

— Карповіч? Вось ты які. Капітан Раманаў. Камандзір тае самае трэцяе роты. Як завуць цябе, лейтэнант Карповіч?

— Міша.

— А я Алёша. Аляксей Іванавіч.

Капітан паправіў фуражку. Быў ён прыкладна гэтакага ж самага росту, як і Карповіч, хударлявы, але жылісты, шыракаваты ў плячах, з загарэлым да чорнага, нібы ў туркмена, тварам. Капітан памкнуўся яшчэ нешта запытацца ў Карповіча, зірнуў на Вялічку, які засяроджана перагортваў журнал выдачы боепрыпасаў, усміхнуўся, выйшаў з дзяжурнага пакойчыка ў суседні і адтуль у калідор, асцярожна ўзяў Карповіча пад руку і вывеў на двор.

На ганку прыпыніўся, уважліва паглядзеў на Карповіча.

— Пасля інстытута? Планы, вядома, былі іншыя? Давялося ісці ў войска?

Карповіч згодна кіўнуў галавою.

— Што ж, не ўсе хочуць быць вайскоўцамі... А як служыць думаеш? Абы адслужыць? Ці чэсна, з усёю аддачаю? Так, каб ты камандзірам быў і мне памочнікам, каб мне не выхоўваць яшчэ і камандзіра ўзвода...

Капітан уважліва паглядзеў на Карповіча, Карповіч не чакаў такога пытання, збянтэжыўся.

— Не думаў яшчэ пра гэта.

— Падумай, Міша. Мне здаецца, што ў нас будзе

добрая служба. З панядзелка ў вас пачнуцца зборы. Глядзі, вазьмі ад іх усё, што можна, каб потым перад салдатамі не губляўся і няёмка не было з-за свае недасведчанасці. Рота сёння ў нарадзе. Старшына там у ружпарку наводзіць парадак. Схадзі пазнаёмся са старшыной. У мяне дзяжурства, павінен быць тут.

Раманаў падаў Карповічу руку, усміхнуўся.

— А Вялічку ты правучыў. Ён у нас з першага дня заявіў, што стане генералам. Але, відаць, не з таго боку пачаў. З такіх хлопцаў не бывае ні генералаў, ні добрых сяброў. Трэба людзей паважаць...

Карповіч не спяшаўся ісці да казармы, прыглядаўся да тэрыторыі. Заасфальтаваныя, чысценька падмеценыя сцяжынкі з пабеленымі вапнаю бардзюрамі, акуратна пастрыжаныя кусцікі збоч. Перад казармаю гонкія высокія сосны з пабеленаю карою — як і ў маладых дрэўцаў, прывязаных да калоў.

Казарма, трохпавярховая будыніна, свежа і нядаўна пафарбаваная ў жоўты колер, вялікія, светлыя вокны.

Па лесвіцы са стаптанымі прыступкамі Карповіч зайшоў на другі паверх, адчыніў дзверы. Насупраць іх стаяў ля тумбачкі днявальны.

Карповіч казырнуў днявальнаму ў адказ на прывітанне і запытаўся:

— Дзе старшына роты?

— Вось тут.

Днявальны паказаў рукою на прачыненыя дзверы.

Старшы сержант, высокі, шыракаплечы хлопец, крыху касалапы, як мядзведзь, узяў пад казырок, назваўся:

— Старшына роты старшы сержант Паддубны!

— Лейтэнант Карповіч.

— О, дык разам служыць будзем! Вы ж яшчэ на зборы пойдзеце?

Старшына прыязна ўсміхнуўся лейтэнанту. Карповіч падумаў, што тут, аказваецца, пра яго ведаюць ужо і

чакаюць. Два салдаты, якія наводзілі парадак у пірамідзе, уважліва прыглядаліся да новага афіцэра, усё роўна як хацелі зразумець — які ж ён, гэты новы камандзір?

— Мне, таварыш старшы сержант, трэба пару памочнікаў, каб прынесці са склада сваю амуніцыю.

— Можам і цэлае аддзяленне даць, калі патрэбна,— засмяяўся Паддубны.— Пачакайце крыху, таварыш лейтэнант, мы хутка скончым тут, і Гасанаў з Папком дапамогуць вам. Нашы сёння ўсе ў нарадзе. Паглядзіце пакуль што, як мы жывём.

Карповіч выйшаў на калідор, зайшоў у казарму. Роўненькія рады ложкаў, акуратна засланых, пастаўленыя ўздоўж праходу табурэткі, чыста, свежа вымытая падлога. У канцы казармы на сцяне, на спецыяльным стэндзе, вялікі разграфлены ліст — расклад заняткаў. Ціха, светла, толькі гулка разносяцца крокі.

Карповіч вярнуўся на калідор, адчыніў дзверы ў ленінскі пакой. Гэтаксама ціха, светла. Акуратна пастаўлены сталы і крэслы, быццам ніхто ніколі і не кратае іх з месца. Сцены ўвешаны плакатамі, дыяграмамі, лозунгамі; ведамасць уліку паспяховасці салдат са слупкамі лічбаў, дзе вынікі за месяц напісаны чырвоным алоўкам...

Карповіч прайшоў да стала, сеў на крэсла, як настаўнік у пустым класе.

Хто яны і якія яны, гэтыя людзі, салдаты, якім ён хутка будзе камандзір, якіх ён будзе вучыць і з якімі разам будзе рабіць нялёгкую вайсковую работу, якая называецца кароткім і мужным словам — служба?

І трывога варухнулася ў сэрцы — а ці зможа ён, ці ведае вайсковую справу так, каб вучыць салдат?

Цяпер толькі Карповіч зразумеў, як дарэчы зборы перад пачаткам службы. Трэба аднавіць у памяці ўсё тое, што некалі вывучалася, каб веды былі свежыя і трывалыя.

— Ну як, таварыш лейтэнант? Парадак у нас? Вось вам у дапамогу два гвардзейцы,— сказаў старшына, зайшоўшы ў пакой.

Салдаты ўважліва глядзелі на афіцэра.

## РАЗДЗЕЛ 2

— Узвод! У напрамку асобнага дрэва, да бою — наперад! — працягла і хрыпла скамандаваў маёр Бялоў і зірнуў на гадзіннік.

І адразу ж коратка прагучалі каманды камандзіраў аддзяленняў:

— Другое аддзяленне — за мною!

— Трэцяе аддзяленне — за мною!

Карповіч перахапіў аўтамат у правую руку, бег у калоне, потым, калі аддзяленне рассыпалася ланцугом, узяў аўтамат напагатове і подбегам — наперад, туды да адзінокага дрэва, дзе займаў абарону «вораг».

Прыпякала ў плечы вераснёўскае сонца, было душна, і пот засцілаў вочы. Суха казытала ў роце ад пылу, які выбівалі боты з сухое, цвёрдае, парослае рэдкім метлючком і конскім шчаўем палігоннае зямлі.

— Не збаўляць, не збаўляць тэмп наступлення! Наперад!

Ужо другую гадзіну вучэбнае афіцэрскае падраздзяленне трэніруецца ў наступленні. Кожны афіцэр ідзе ў гэтым вучэбным баі на месцы салдата. Потым кожны на асобных этапах будзе ў ролі камандзіра ўзвода.

Маёр не адстае ад афіцэраў. Намнога старэйшы за іх, таўставаты, з жывоцікам, ён быццам і не стамляецца за дзень, і пацее менш, чым яны. І цяпер, калі многія на хаду расшпільваюць верхнія гузікі куртак, маёр зашпілены на ўсе гузікі, прытрымліваючы рукою палявую сумку, падганяў узвод:

— Наперад, наперад, таварышы афіцэры! Трымайце тэмп!

За паўтара месяца Карповіч прывык да палявых заняткаў, уцягнуўся і пад вечар не адчувае стомы, як першымі днямі. Ды і прывыкаць яму было не вельмі цяжка: шчуплы сам, прывыклы многа хадзіць і не стамляцца, ён лёгка прывыкаў да жорсткага, разлічанага па гадзінах вайсковага раскладу.

І таму Карповіч не меў злосці на палявыя заняткі па тактыцы, хоць і згаджаўся з думкаю, што ім, афіцэрам, неабавязкова гойсаць па полі, але маёр гаварыў, што гэта аснова пяхотнага майстэрства, якое набываецца не ў класах, а непасрэдна на палігоне. Адна справа паслухаць і намаляваць на паперы, а іншае — прайсці сваімі нагамі па зямлі, разгарнуцца ў ланцуг, атакаваць «ворага», гнаць яго перад сабою. А потым замацавацца на занятым рубяжы і гэтак жа, як і салдату, спачатку акапацца лежачы, потым зрабіць акопчык глыбей, а потым выкапаць акоп поўнага профілю, злучыць акопы траншэяй. Зрабіць гэтак, як робіць салдат. А ў ролі камандзіра арганізаваць абарону, сістэму агню, назіранне...

Пакуль засвойвалася няхітрая, на першы погляд, але няпростая і нялёгкая навука, ад поту і ад сонца выліняла на плячах палявая куртка, не адзін раз давялося памяняць набойкі на абцасах.

Дарма, што спачатку здавалася, не хопіць сілы дахадзіць да канца дня. З цягам часу Карповіч адчуў, што ўвесь ён, усё яго цела стала намнога здароўшым, лёгкім, трэніраваным. Цяпер яму хапала ўжо ночы, каб адпачыць.

— Падрыхтаваць гранаты! Гранатамі — агонь!

Голас маёра прагучаў, здавалася, на ўвесь палігон, нібыта ўзвод наступаў не ў мірнай палявой цішыні, а пад несупынным грукатаннем варожых стрэлаў і выбухаў.

Каманду паўтаралі камандзіры аддзяленняў.

Карповіч выхапіў з гранатнае сумкі невялічкую зялёную, быццам кансервавая бляшанка, ручную гранату, двума пальцамі стуліў разагнутыя вусікі чакі і вырваў кальцо, прыціснуўшы засцерагальны рычаг. Разам з усімі размахнуўся на поўнае плячо, кінуў гранату і ўвесь напружыўся ў чаканні выбуху, насунуўшы каску на вочы, закрычаў «ура!», ірвануўся наперад, у «закіданую» гранатамі траншэю.

Адзін за адным скаланалі цішыню выбухі. Тоненька, нібыта і бяскрыўдна, прасвісталі асколкі. У душнаватым палынова-гаркавым паветры запахла ўзарваным толам, востра і трывожна.

— Узвод, у лінію — марш!

У адно імгненне не стала ланцуга, і калоны аддзяленняў пасля наступнае каманды зліліся ў невялічкую ўзводную калону.

Маёр даў каманду спыніцца, разысціся.

Перадых...

Карповіч расшпіліў куртку, адышоўся крыху ўбок, лёг на зямлю і заплюшчыў вочы. Здавалася, што ляжыць ён не на зямлі, а на хвалях, і хвалі пагойдваюцца, нясуць яго некуды. А халаднаваты ветрык студзіць твар.

Горача, штуршкамі пульсавала ў целе кроў.

Карповіч заплюшчыў вочы і павярнуў да сонца твар.

Карповіч падумаў, што прывык ужо да жыцця ў прасторнай казарме, з гэтакімі ж самымі, як і ў салдат, тумбачкамі ў галавах пры ложку і з табурэткамі ў нагах. І шырока разгорнуты на сцяне расклад заняткаў, і раніцою пабудка ў адзін і той жа час.

— Зборы, пад'ём!

— Аддзяленне, пад'ём! — камандуе Лёня Сабанееў, сярэдняга росту хлопец. Ён прызначаны камандзірам аддзялення, у якім Карповіч.

Карповічу падабаецца пад гэтую вясёлую каманду — Сабанееў заўсёды камандуе неяк весела — рыўком адкідаць коўдру, усхоплівацца на ногі і рапартаваць:

— Ёсць пад'ём!

— Узвод, выходзь строіцца!

Сабанееў чакае аддзяленне на двары. І калі выходзяць усе, строяцца ў калону, камандуе:

— За мною шагам марш!

Потым кароткая прабежка ўкруга, праходка, зноў прабежка, і потым бег, ад якога прабірае потам.

На спартыўнай пляцоўцы абавязковы комплекс ранішняе гімнастыкі, самастойныя заняткі на снарадах.

Карповіч спачатку падыходзіць да турніка, падцягваецца, робіць некалькі пераваротаў. Потым выжыманне на брусах. І ў заключэнне — гантэлі.

— Аддзяленне, у адну шарэнгу — станавісь!

Зноў лёгкая прабежка ўкруга, хада.

— А цяпер памыцца, пагаліцца, падшыцца, падрыхтавацца да ранішняга агляду. Разыдзіся!

Часу хапае якраз, каб і ложак заслаць, і памыцца, і падшыць чысты падкаўнерык, наглянцаваць боты. І ўсё быццам і не спяшаючыся робіш. А першыя дні не хапала часу...

Пасля ранішняга агляду — пастраенне ў сталоўку.

У цішыні гулка разносіцца чаканны крок узвода, і камандзір, з ліку іх жа саміх, афіцэраў, Петрушкевіч, азіраецца і нараспеў камандуе:

— Узвод! Мацней крок!

На стале ў сталоўцы ўжо стаіць бачок з кашаю, талерка з кавалачкамі масла, белы і чорны хлеб, чайнік з чаем.

— Давай, Ласцоў, за развадзячага! У цябе вока — як аптэка,— весела загадвае Сабанееў.

Ласцоў як нехаця, але з усмешкаю, бярэ чарпак.

— Давай, Ваня, давай, не саромейся! — падбадзёр-

вае яго Давыдаў у акулярах з лёгкаю залацістаю аправаю. Ён сур'ёзна глядзіць на Ласцова. Давыдаў вылучаецца сваёй сур'ёзнасцю, арыстакратычным выглядам і тым, што на страявой любіць вельмі гучна — каб было, як у сапраўднага камандзіра з добра пастаўленым голасам,— падаваць каманды: «Смір-р-р-на!» Пад час гэтае каманды ў яго такі люты выраз на твары, так грозна гучыць «р» і так па-пеўневаму зрываецца голас, што нават і строгі страявік падпалкоўнік Балюк на гэты час адварочваецца, каб не бачылі, што і ён усміхаецца.

Ласцоў жа, рослы хлопец з круглым, крыху прышчаватым тварам і сінімі хітраватымі вачыма, адметны тым, што дэманструе ад першага дня сваю непрыдатнасць да вайсковага жыцця і службы, за што яго і недалюбліваюць ва ўзводзе. Калі спачатку глядзелі крыху паблажліва, як на дзівака, то цяпер недалюбліваюць. Нікуды не паспяваючы ў час, нічога не ўмеючы быццам, ён прывучыў нават і настаўнікаў да таго, што тыя махнулі рукою: нічога не зробіш з такога чалавека... А калі ён не можа, то за яго зробіць той, хто ўмее і можа. Але Ласцоў выдаваў сябе не проста за няўмеку, а за інтэлігентнага: ён насіў з сабою кніжку вершаў, напісаную непрывычным усходнім пісьмом, гаварыў, што вывучае арабскую мову і збіраецца перакладаць з арабскага вершы. Праўда, у хлопцаў былі падазрэнні, што кніга напісана па-грузінску, дзе ў дзяцінстве давялося жыць Ласцову. Хутчэй за ўсё гэта была праўда, бо сапраўдная інтэлігентнасць Ласцова выявілася выпадкова, калі яму давялося быць «разводзячым» за сталом — самы большы кавалак сала і самы большы чарпак кашы аказаўся на талерцы ў самога Ласцова. Ды і кашу ён з'ядаў хутчэй за астатніх, каб выбіраць большы кавалак масла.

З таго часу Сабанееў знарок часцей прызначаў Ласцова «разводзячым». І той выдзяляў сабе большую

порцыю, прыкідваўся, што не заўважае насмешлівых і здзеклівых позіркаў.

І цяжка было б каму паверыць, што гэта той самы Ласцоў, якога аднойчы Карповіч бачыў у горадзе. На зборах нехлямяжы, неакуратна запраўлены, там Ласцоў быў у адпрасаваных штанах і адпрасаванай рубашцы з новенькімі лейтэнанцкімі пагонамі. У адной руцэ трымаў фуражку, а другая рука вольна ляжала на клубе ў сяброўкі, таўстазадзенькае дзяўчыны ў кароценькай скуранай спадніцы і празрыстай кофтачцы. Дзяўчына невядома чаго пахіхіквала. Сябар Ласцова ў чырвоных аксамітавых штанах нёс у руцэ магнітафон, час ад часу пацепваў плячом, скідаў з яго руку свае сяброўкі ў доўгай стракатай сукенцы...

І па тых павольных, ганарлівых жэстах Ласцова, па той ягонай задаволенасці Карповіч зразумеў, што Ласцоў лічыць сябе вышэй за ўсіх. Галоўнае — атрымоўваць грошы, быць пад'етым і апранутым, нічога не робячы. А калі гэта ўдалося — то можна пагарджаць тымі, за чый кошт жывеш.

І за сталом Ласцову было напляваць на тое, як пра яго падумаюць, абы выгадаць, абы поўны быў жывот...

— Што, Ласцоў, у ланцугу апошні бяжыш і тут сядзіш, як звараны? — пачуў Карповіч голас маёра, прыўстаў, зірнуў на Ласцова, які сядзеў, утаропіўшыся ў сваю кніжку.

— А ў яго сёння энергіі не хапае. Не ён сёння развадзячым за сталом быў,— растлумачыў Сабанееў.

— Ты, Ласцоў, з Карповіча прыклад бяры. Ён самы меншы тут, а за яго ўжо камбат з камандзірам разведроты ваююць. Нарасхват афіцэр.

Маёр сур'ёзна глядзеў на Ласцова.

Ласцоў толькі скоса зірнуў на Карповіча і нічога не адказаў.

— Вы, Ласцоў, дорага заплоціце за такія свае адносіны да службы. У вайсковым жыцці вельмі суровыя законы... Сябе толькі ашукаеце, нікога больш...

Маёр зірнуў на гадзіннік.

— А вы, Карповіч, што натварылі? Камбат прасіў, каб я адправіў вас у гадзіну да яго. Ідзіце.

Ласцоў са здзекліваю ўсмешкаю зірнуў на Карповіча — давыслужваўся, так табе і трэба.

Жартаўнік Рукша не стрымаўся і пракаменціраваў выклік да камбата жартам:

— От будзеш ведаць, як раніцою вушы не мыць!

Засмяяліся дружна, уявіўшы, як камандзір батальёна будзе сварыцца на чалавека ў афіцэрскай форме за тое, што той не мые вушы.

Засмяяўся і маёр Бялоў.

## РАЗДЗЕЛ 3

Маёр Бялоў дакладна разлічыў, колькі патрэбна часу Карповічу, каб не спазніцца да камбата. І таму Карповіч пазіраў на гадзіннік і размашыста крочыў па тупкай і сухой лесавой дарозе. Адразу за полем, дзе праводзіліся заняткі, пачынаўся малады, шызы, з доўгаю і тоўстаю іглiцаю сасоннік, густа парослы сухім і кусцістым верасам, які дацвітаў яшчэ сям-там пяшчотным сваім вясновым цветам, нечаканым цяпер, увосень, калі пачынае прывыкаць вока да крышку пажаўцелае жорсткаватае травы, да адзінокіх бляклых кветачак.

У сасонніку было душнавата, пахла сухім шыгаллём і разагрэтаю хвояй.

Трывожна было на душы ў Карповіча, таму не адчуваў ён і стомленасці і не надта заўважаў, што робіцца навокал. Карповіч здагадваўся, з-за чаго выклікае яго камбат.

...У суботу вечарам пасыльны папярэдзіў Карповіча, што камбат загадаў, каб заўтра Карповіч, на выхадны дзень, быў адказным афіцэрам па батальёне.

Зранку Карповіч прыйшоў у казарму, пасля снедання з салдатамі свае роты амаль да адзінаццаці гадзін гулялі ў валейбол на спартыўнай пляцоўцы. Тыя, хто любіць тэлевізар, не адыходзілі ад яго. Паабедаў Карповіч разам з салдатамі ў сталоўцы. Пасля абеду было запланавана кіно для ўсяго батальёна. Перад пастраеннем у кіно да Карповіча падышоў старшына роты Паддубны з невысокага росту сяржантам, якога Карповіч запомніў з першага дня. Запомніў таму, што сяржант быў з ягонага ўзвода і камандаваў другім аддзяленнем.

— Таварыш лейтэнант, тут у нас сёння з Прымаком няўдала выйшла. Ён учора позна быў на палігоне, і капітан Раманаў забыўся выпісаць на яго звальніцельную запіску. Маці Прымакова тут за тры кіламетры ляжыць у бальніцы. Трэба неяк на гадзін пару, пакуль мы будзем у кіно, адпусціць Прымака.

— У мяне ж няма запіскі. Я з радасцю адпусціў бы...

— Гэта зразумела. — Старшына паглядзеў на Прымака. Той чамусьці пачырванеў і наском бота намаляваў на зямлі васьмёрку.

— Тут, таварыш лейтэнант, магчымы такі варыянт. Я бяру ўсё на сябе... Я на сваю адказнасць адпускаю яго на дзве гадзіны,— прапанаваў старшына.

— Я ж нідзе не пайду хадзіць. Цераз лес схаджу ў бальніцу і назад вярнуся... — Прымак паглядзеў на Карповіча. Вінавата неяк.— Можна было б і не ісці, але маці хвалявацца будзе, чакаць. Яна прывыкла, што я да яе прыходжу.

— Калі так, Паддубны, то я сам адпускаю Прымака на дзве гадзіны. Пад сваю адказнасць. Усё ясна? Можаце ісці, таварыш сяржант.

— Дзякуй, таварыш лейтэнант!

Прымак казырнуў і пайшоў.

Паддубны ўсміхнуўся, гледзячы яму ўслед, з павагай зірнуў на Карповіча, сказаў:

— Не хвалюйцеся, гэта талковы сержант. Можна строіць роту?

— Стройце.

Прымакова маці ляжала ў абласной бальніцы з цяжкаю хваробаю страўніка. Капітан Раманаў ведаў пра гэта і адпускаў Прымака ў выхадныя. Хадзіў Прымак да бальніцы па лесе, напрамкі, бо стральбы не было на стрэльбішчы.

І таго разу сержант выйшаў з бальніцы крыху раней, каб, пакуль рота вернецца з кіно, быць ужо ў казарме.

Па знаёмых сцежках перайшоўшы лес, ён быў, лічы, дома, за сто метраў ад КПП, калі яго паклікалі:

— Стойце, таварыш сержант. Вы куды? Адкуль?

Прымак спыніўся, азірнуўся і з палёгкай уздыхнуў: патруль быў са свае часці. Начальнік патруля лейтэнант Вялічка з суседняга батальёна.

— Вашу запіску, таварыш сержант! Што вы мне ўсміхаецеся, як майская ружа?

— Няма запіскі, таварыш лейтэнант.

— Чаго вы тут? Хто вам дазволіў?

— Дазволіў лейтэнант Карповіч. І я нідзе не хаджу, а іду ў казарму.

— Нешта ў вас у батальёне многа начальнікаў параводзілася, якім законы не пісаны. Праверым зараз і цябе, і твайго начальніка. Там у вас, відаць, парадачкі... Прывыклі толькі выстаўляцца — рота Раманава, рота Раманава... А там анархія... Параспускаліся. Марш наперад!

Так, ідучы ззаду, як ведучы пад канвоем, Вялічка прывёў Прымака да дзяжурнага па часці, пажылога капітана-артылерыста.

— Таварыш капітан, затрыманы ў самаволцы сержант Прымак з трэцяе роты,— афіцыйна далажыў Вялічка, але без падрабязнасцяў.

Капітан спакойна распытаўся пра ўсё ў Прымака, пакруціў толькі галавою — ці то дзівячыся спрыту начальніка патруля, ці то крыху не давяраючы сержанту, але адпусціў Прымака ў размяшчэнне роты, толькі наказаў, каб перадаў Карповічу і каб Карповіч потым сам пазваніў дзяжурнаму.

Карповіч пазваніў, усё высветлілася, і дзяжурны не дакладваў нічога камандзіру часці. Далажыў начальнік патруля Вялічка пра Прымака як затрыманага самавольшчыка.

Карповіч зайшоў у казарму, дзе размяшчаліся афіцэрскія зборы, працёр аўтамат і здаў дзяжурнаму, наглянцаваў запыленыя боты, памыўся да пояса.

Акуратна запраўлены, ён прыпыніўся перад дзвярыма штаба батальёна, пастукаўся.

— Заходзьце.

Цвёрда, гэтак жа, як на занятках па страявой падрыхтоўцы на пляцы, Карповіч зайшоў у пакой і далажыў камандзіру батальёна:

— Таварыш маёр, лейтэнант Карповіч па вашаму загаду прыбыў!

Карповіч адчуваў, што хоць і зайшоў ён, і далажыў так, як патрэбна, не адчувалася ў яго ных рухах сапраўднае армейскае выпраўкі, тае волі і лёгкасці ў рухах.

— Здравія жалаю, таварыш лейтэнант!

Камбат устаў з-за стала, казырнуў, падаў руку, потым паглядзеў уважліва на Карповіча, двума пальцамі памацаў за кончык свайго востранькага, храшчаватага носа. Нос быццам таму і зрабіўся востранькім, што камбат увесь час пацiскае і пацягвае за яго.

Ад таго, што камбат так проста сустрэў яго, і начальнік штаба батальёна, які сядзеў за суседнім ста-

лом, любімы салдатамі пажылы капітан, прыязна кіўнуў галавою, Карповіч крыху супакоіўся. Ён, і сюды ідучы, спадзяваўся, што яго зразумеюць, калі раскажа пра ўсё, як было.

Начальнік штаба нахіліўся над разасланаю на стале картаю, а камбат загадаў:

— Дакладвайце, таварыш лейтэнант, што там у вас за самаўпраўства?

Маёр строга паглядзеў на Карповіча. Ад гэтага нечакана халоднага позірку Карповіч разгубіўся і на першым часе не мог нічога сказаць. Ды, відаць, расказ яго не вельмі быў і патрэбны.

— Вы два месяцы ў войску, у вас на плячах афіцэрскія пагоны, вы страявы, баявы камандзір, а замест таго, каб наводзіць у падраздзяленні парадак, вы яго парушаеце... І дазваляеце парушаць другім. Вы не навабранец, вы афіцэр, і вам ніякіх паблажак не будзе!

Камбат ва ўпор паглядзеў на Карповіча, і той сам паверыў на нейкае імгненне, што сапраўды вінаваты.

— Тут выходзіць так, што адзін распускае салдат, другі іх ловіць, а трэці — гэта я — стаю перад камандзірам часці навыцяжку! Стаіш і сам толкам не ведаеш, што здарылася, бо табе паленаваліся далажыць. Так служба, таварыш лейтэнант, далей не пойдзе!

— Таварыш маёр...

Карповіч адчуў, што на змену разгубленасці, пачуццю вінаватасці, якое было ўзнікла спачатку, прыходзіць жаданне растлумачыць усё, даказаць сваю правату.

— Я не першы год «таварыш маёр»! Калі вы прыйшлі ў войска, то павінны служыць, служыць так, як гэта патрэбна, як вас вучылі чатыры гады, а не сварыцца і пярэчыць камандзірам! Такіх разумных у нас многа бывае напачатку!

Маёр невядома чаго раззлаваўся, і Карповіч адчуў, што цяпер самае лепшае маўчаць і нічога не пярэчыць, нічога не даказваць, бо гэта марныя спробы.

Нечакана моцна і коратка зазваніў на стале тэлефон.

Камбат узяў трубку, слухаў, адказваў:

— Ёсць!.. Так... Зразумеў... Зараз буду, таварыш падпалкоўнік!

Ён паклаў трубку, паглядзеў на Карповіча. Думаў цяпер камбат пра нешта зусім іншае, тая злаславая чырвань, якая выступіла на шчокі пры размове з Карповічам, не сышла, але часу больш у камбата не было.

І спакойным, але патрабавальным тонам камбат скончыў гаворку:

— На першы раз дарую вам, таварыш лейтэнант. Хутка будуць выпрабаванні больш сур'ёзныя. Там вы не толькі за сябе будзеце адказваць, а і за людзей, якіх вам даверылі. На вучэннях самаўпраўства бокам выходзіць! — І да начальніка штаба: — Я да камандзіра палка, Павел Іванавіч.

Начальнік штаба кіўнуў галавою, адклаў алоўкі, зняў акуляры, паглядзеў на Карповіча, які ўсё яшчэ стаяў пасярод пакоя, збіты з панталыку і тымі абвінавачваннямі, і тым, што яго абвінавацілі, не даючы апраўдацца, і памілавалі тут жа.

— Бачыш, Карповіч, як выходзіць. Ты не згодзен з тым, што цябе вінавацяць?

— Не згодзен!

— А ты паслухай. Ты быў адказны — і ты адпусціў Прымака ў самаволку...

— Не ў самаволку. Я дазволіў...

— Правільна. Але салдат без звальніцельнае запіскі — самавольшчык.

— Быў бы капітан Раманаў, ён бы выпісаў запіску.

— Вядома, выпісаў бы. А ты адпусціў сержанта без запіскі, парушыў статут.

— Парушыў. Адпусціў.

— Акрамя таго, што сам вінаваты, з акуратнага

салдата зрабіў самавольшчыка. Ты зрабіў, таварыш лейтэнант!

— Ды мне што, з-за таго, што выйшла памылка, нельга адпусціць салдата да хворае маці, ведаючы, што салдат не падвядзе?

— Салдат-то не падвядзе. А ты гэтага салдата падвёў.

— Як гэта я падвёў? — Карповіч не чакаў такога павароту.

— А вось так. Далажылі, што не ты быў у самаволцы, а Прымак. Сержант Прымак па тваёй міласці самавольшчыкам стаў.

Карповіч адчуваў, што не можа зразумець логіку развашанняў начальніка штаба. Была ў іх нейкая свая ісціна, якую Карповіч не мог прыняць да душы.

— Ведаеце што, таварыш капітан? Камандзір, акрамя статуту, павінен яшчэ і ў сумлення свайго пытацца. Ні я, ні Прымак не вінаваты, што Вялічку трэба выслужыцца. Ён на КПП самавольшчыка злавіў! Дзяжурны па часці — і той зразумеў усё правільна.

— Пры чым тут Вялічка? Каб ты зрабіў усё так, як патрэбна рабіць у такіх выпадках, то як бы там Вялічка ні хацеў выслужыцца, не выслужыўся б... Ты мяне так і не разумееш, Карповіч. У войску часам так выходзіць: патрабаваў ты жорстка з чалавека — дабро яму рабіў...

Капітан незадаволена нахмурыўся, засоп у нос.

— Вось так, Карповіч. Не трывае армія непарадку. Ты адзін парушыў статут, а вінаваты аказаліся і мы з камбатам, і камандзір роты, і сам ты, і сержант... Вялічка яшчэ ў гэтую гісторыю ўмяшаўся. Вось так у час вайны з-за памылкі камандзіра і людзі гінулі. І на вучэннях такое здараецца. Трэба зразумець — ёсць свая правата ў тым, што даводзіцца выконваць на першы погляд фармальныя загады. Ты толькі частачка ўсяго цэлага, шасцяроначка, на якую спадзяецца вышэйшы

камандзір. Закруцішся па-свойму — і ўся машына пойдзе ўразнос...

— Што ж мне — як Вялічку, з-за літары душу душыць?

— Не душыць, а разумна кіравацца законам. І не ўздумай крыўдзіцца, калі табе нешта не па нораве сказаў камандзір. Самастойнасць — гэта добра. Толькі не трэба яе залішне напаказ выстаўляць.

Карповіч адчуў, што чырванее, як школьнік. Капітан нібы бачыў яго наскрозь.

— Нічога, таварыш лейтэнант, не было б толькі большае бяды. Рыхтуйцеся на зборах сур'ёзна, каб на вучэннях не падвялі нас.

Капітан устаў, казырнуў, падаў на развітанне руку.

Старшына чакаў ужо Карповіча ў канцылярыі роты. Ён падбіраў плакаты да начных заняткаў, але Карповіч ведаў, што старшына чакае яго.

— Ну як, таварыш лейтэнант?

— Нармальна. Поўны парадак.

— Першы раз начальства выклікала?

— Першы. А Прымака не чапалі?

— Не. Калі камандзір дазволіў, як з падначаленага пытацца?

— Тады поўны парадак,— знарок бадзёра сказаў Карповіч.

Ён адчуваў, што не мае права ўсё да канца гаварыць старшыну пра сваю нязгоду з камандзірам батальёна, пра тое, што не разумее логіку разважанняў начальніка штаба.

## РАЗДЗЕЛ 4

Уздоўж плота, зробленага з жалезабетонных блокаў, у рад стаялі баявыя машыны.

Сонца зайшло, слаба святлелася неба над захадам, а цемра ўпотайкі акружала наваколле. Адзінока гля-

дзелі з неба на зямлю раннія зоркі. Вострыя яловыя вяршаліны недалёкага лесу быццам патанулі ў чарнаце.

Суха патрэскаваў пад нагамі маёра Бялова быльнёг.

Стаяла высокая цішыня і трывожнае бязлюддзе.

Маёр прайшоў перад афіцэрскім строем. Усе афіцэры, апранутыя ў чорныя танкавыя камбінезоны, з палявымі сумкамі і супрацьгазамі, у танкашлемах, былі падобны адзін да аднаго.

— Паўтараю яшчэ раз: калі хто саб'ецца з маршруту — выходзьце на сувязь са мною. Стральбу ў нас прымае падпалкоўнік Серада. Памятайце, што і гэты невялікі маршрут — праверка таго, як вы можаце кіраваць машынамі. А стральба сёння — ваш экзамен на тое, як вы валодаеце зброяй. Праз некалькі дзён вы разыдзецеся ў падраздзяленні, і кожны з вас будзе вучыць салдат. Навучыць можа той, хто ўмее сам.

Карповіч, як заўсёды, стаяў у страі самы апошні. Яму здавалася, што маёр ходзіць павольней, чым звычайна, бо і ён стаміўся за апошні тыдзень напружаных палявых заняткаў. Стрэльбы ўдзень і ўночы на стрэльбішчах, трэніровачныя выхады па трывозе, начныя заняткі па арыентацыі і ўменні хадзіць уночы па маршруце з компасам.

А можа, ён не спяшаўся перад самым адказным выпрабаваннем сваіх выхаванцаў? Карповічу нават здалося, што маёру проста шкада было выпраўляць іх у гэтую халодную восеньскую ноч...

— Да машын! На месцы! — гучна, як і заўсёды, скамандаваў маёр.

У цішыні моцна загрукалі па брані боты, металічна запстрыкалі стопары люкаў, слаба засвяціліся ў машынах лямпачкі падсветкі на прыборных шчытках.

2 Зак. 3752

У навушніках было чуваць, як маёр са свайго камандзірскага бронетранспарцёра правярае сувязь з машынамі.

Калі дайшла чарга да яго, Карповіч коратка адказаў:

— Я — дзевяноста тры. Прыём.

Першая машына, пасля таго як была дадзена каманда заводзіць матор, расшкуматала цішыню, напоўніла гулам усё наваколле, белым святлом успыхнула фара.

Ад гулу матораў быццам спалохаліся і схаваліся зоркі.

Цяпер не было часу глядзець на іх.

Першая машына кранулася з месца, і было відаць, як яна імкліва пагойдвалася на выбоінах. Лёгка і радасна гуў матор. Пасля ўдалечыні відаць была толькі маленькая светлая кропка — святло фары — якая набліжалася да лесу. І тады другая машына рванулася ўслед за першаю — і так адна за адною, напаўняючы ноч трывожным і магутным ровам, адыходзілі машыны.

Карповіч адкінуўся да спінкі сядзення і прыслухоўваўся да гэтае суровае музыкі, якая плыла над стомленаю зямлёю, над вёскамі. І калі чулі людзі гэты гул, то не маглі здагадацца, адкуль ён. Людзям трэба было адпачываць.

Карповіч адказаў на выклік маёра, завёў матор — болей нічога ўжо не чуў, акрамя моцнага спакойнага рову матора, нічога болей не бачыў, акрамя парэзанае гусеніцамі танкавае дарогі. Кідаў толькі позірк на карту, на лічыльнік кіламетражу, запамінаў кожнае перакрыжаванне, каб не збіцца з маршруту.

Ён не надта баяўся заблудзіцца. Усё ж географ, якому давялося пахадзіць па маршрутах. Менавіта таму і паставіў яго маёр апошнім, замыкаючым калону. Праўда, недзе на другой дарозе, больш прыдатнай

бронетранспарцёру, чым гэтая танкавая, ехаў і сам маёр — нячутны і нябачны, гатовы ў любую хвіліну прыйсці на дапамогу.

Пакуль што глуха шумела ў навушніках, ніводная радыёстанцыя на машынах не працавала на перадачу. Значыць, ніхто не заблудзіўся.

Па цёмным лесе, па розных дарогах ішлі машыны да аднаго месца. Карповіч адчуваў задавальненне ад таго, што ўначы ён гаспадар гэтае баявое машыны. паслухмянай яму і цёплай, быццам жывая істота.

Праехаўшы палавіну дарогі, Карповіч пачаў пазнаваць мясцовасць і ўжо мог ехаць без карты, калі прамінуў чыгуначны пераезд.

У гэты час далёкі, але знаёмы голас Федзі Рыбачонка пачуўся ў навушніках:

— Першы, я восемдзесят чатыры. Маршрут закончыў. Прыём.

— Восемдзесят чацвёрты, я першы. Зразумеў. Прыём,— быццам зусім побач адказаў маёр Бялоў.

Адзін за адным чуліся ў навушніках даклады — машыны збіраліся на агнявым рубяжы. А ён быў блізка, гэты рубеж.

Карповіч адчуў, як трывожна забілася сэрца. Вось яно, тое выпрабаванне, якога ён чакаў і якога пабойваўся. Начная стральба з машыны штатным снарадам.

Ты адзін у вежы, гаспадар яе, сам павінен заўважыць цэль, даць каманду механіку, каб спыніў машыну, і знішчыць мішэнь.

Калі палявая навука лёгка давалася Карповічу, то вежа здавалася нечым вельмі ж складаным, і ўпраўляцца ў ёй мог толькі чалавек незвычайны. Карповіч, невысокі ростам і шчуплы, ніяк не мог павярнуцца ў вежы, успець у час зарадзіць гармату, спазняўся, спяшаўся, а таму вельмі часта «мазаў» на вучэбных стрэльбах. Але ж Сабанееў, высокі ростам, успяваў паварочвацца ў машыне і выдатна страляць.

Карповіч ведаў, што каб навучыцца страляць, трэба асвоіць вежу, трэба не баяцца механізмаў, а дзеля гэтага патрэбна трэніроўка, трэніроўка... І ён трэніраваўся. Сёння яшчэ раз праверыць, як падуладна яму гармата.

Каб не думаць пра стральбу і зараней не хвалявацца, Карповіч прыціснуўся плячыма да спінкі сядзення, прыбавіў абаротаў, і больш ні пра што не думаў і нічога не бачыў, акрамя дарогі.

Трэба было ў час скінуць абароты, прытармазіць паваротам машыну, каб яна, не збаўляючы хуткасці, імчала па ямістай дарозе, як па хвалях. Машына падпарадкоўвалася Карповічу, і ён ведаў, што некалі зможа кіраваць ёю з сапраўдным майстэрствам, як першакласны механік.

Калі наперадзе адкрылася поле з рэдкімі, скупымі агеньчыкамі, засвяціўся белы ліхтар на вежы ўчастковага пункта кіравання стральбою. Карповіч убачыў, як да вежы пад'ехаў бронетранспарцёр маёра і спыніўся якраз у паласе святла, якое падала праз акно з другога паверха.

На агнявым былі ўсе машыны, акрамя яго, Карповічавае, стаяў і бронетранспарцёр маёра. Маёр не сумняваўся, што ён не заблудзіцца, не чакаў нават і дакладу.

Карповіч падагнаў машыну, паставіў на месца, выключыў акумулятар і падышоў да вежы.

Афіцэры ўжо стаялі ў страі, паэкіпажна, па тры чалавекі.

Кожнаму выпадала сёння рабіць па тры заезды і выконваць работу кожнага члена экіпажа — і камандзіра, і механіка, і аператара-наводчыка. Карповіч заняў месца ў страі.

На зыходным рубяжы свяціліся чырвоныя ліхтары, ля іх былі відаць абрысы трох машын з паднятымі ўгору гарматнымі ствaламі.

Карповіч ведаў, што робіцца на другім паверсе, за пультам кіравання стральбою. Бачыў круглыя дыскі няўмольных секундамераў, якія зафіксуюць і час, патрачаны на выкананне практыкавання, і працягласць кожнага прыпынку; чырвоныя лямпачкі пакажуць, калі будзе пападанне ў мішэнь.

У полі свяціліся белыя вочы аўтамабільных фар, слабенька пабліскваў кішэнны ліхтарык — аператары ў апошні раз правяралі гатоўнасць мішэннага абсталявання.

Маёр Бялоў, маючы пакуль што вольны час, даваў апошнія наказы.

— Яшчэ раз, таварышы афіцэры, успомніце, як прыстраляны машыны. Назіранне вядзіце не толькі ў прыцэл, а і ў трыплексы, за ўсім мішэнным полем, каб не страляць па чужой мішэні. Стрэл па чужой мішэні вам не будзе залічаны. Не забывайцеся даваць папраўку, бо мішэні будуць рухацца. Хто на месцы механікаў, не трымайце машыну лішне на кароткіх прыпынках. За гэта адразу ж атрымаеце двойку. Тармазіце машыны плаўна, накатам, каб стралок за гэты час успеў зрабіць грубую наводку. Усё рабіце хутка, але спакойна. Заспяшаецеся — стральбы добрае не будзе. Адчувайце сябе так, быццам на вас ідзе вораг, і калі вы не знішчыце яго, то ён знішчыць вас. Зразумелі мяне, лейтэнант Карповіч? Страляйце і тут гэтак жа, як і на стрэльбішчы, дакажыце, што за вас не дарэмна спрачаюцца камбат з камандзірам разведроты,— напаўжарт, напаўсур'ёзна скончыў маёр гаворку зваротам да Карповіча.

Карповіч увесь час адчуваў добрую і спагадную ўвагу да сябе ад маёра, хаця той за ўвесь час збораў ні разу і не пахваліў Карповіча, і не звярнуўся да яго інакш, як «таварыш лейтэнант». Неяк само сабою сталася, што між сабою маёра звалі «наш Бялоў». Хоць часам і смяяліся, калі Ласцоў паказваў, як і дома маёр

гаворыць «таварыш дочка». Хлопцы адчувалі за скупымі словамі маёра Бялова, і за яго часам і суровымі патрабаваннямі любоў да іх.

Таму было крышку трывожна і незвычайна ад таго, што так многа гаварыў сёння маёр, хваляваўся, быў крышку разгублены. А можа, трывога ішла з поля, у якім рэдка свяціліся агеньчыкі і панавала цішыня, якую толькі зрэдку парушалі далёкія галасы людзей.

Маёр Бялоў і раней жартам расказваў пра тое, як за Карповіча змагаюцца камбат і камандзір разведчыкаў. Камандзір разведкі, высокі, малады старшы лейтэнант, некалькі разоў праводзіў заняткі з афіцэрамі і пачаў дабівацца ў камандзіра часці, каб той перавёў Карповіча ў разведку. Дзіўным было не гэта, а тое, што камбат нават і пасля таго выпадку з Прымаком гарою стаў за Карповіча, і таму пакуль што нічога не было вырашана.

Аператары вярнуліся з поля.

Палігон быў гатовы да стральбы.

Экіпажы таксама.

Маёр больш нічога не гаварыў, толькі сачыў за мішэнямі ў полі — аператары правяралі, як працуе апаратура.

— Што, салагі, адзін па мішэнях страляць будзе, а другі па каманднай вежы?

Карповіч пазнаў голас Вялічкі, які стаяў збоку, прытуліўшыся плячыма да сцяны, і курыў. Карповіч спачатку не зразумеў, чаго тут Вялічка, нібы знарок прыехаў, каб паглядзець, як страляюць маладыя афіцэры, і ведаць, з каго здзекавацца потым. Карповіч успомніў, што Вялічка сам напрошваецца абслугоўваць розныя стрэльбы і вучэнні, абы толькі быць на вачах у вышэйшага начальства. І яго амаль заўсёды, калі ёсць на тое патрэба, адпраўляюць на такое абслугоўванне — не надта хто з камандзіраў любіць займацца гэтым. І ця-

пер стральбу матэрыяльна забяспечваў Вялічка, арганізоўваў дастаўку боепрыпасаў, дапамагаў рыхтаваць мішэнную абстаноўку.

— Вы што тут робіце, таварыш лейтэнант? — маёр Бялоў павярнуўся да Вялічкі.

Голас сухі, камандзірскі.

— Забяспечваю стральбу, таварыш маёр! — выцягнуўся па стойцы «смірна» Вялічка.

— Вось і займайцеся забеспячэннем, а не перашкаджайце тут. Ідзіце! — нават злосна загадаў маёр Бялоў, і Вялічка пакорліва заспяшаўся да пункта боезабеспячэння.

— Першы заезд — строіцца! У калону па тры — станавісь! Раўняйсь! Смірна! Напра-ва! На зыходны рубеж — шагам марш!

Па зямлі глуха загрукалі боты.

Экіпажы зніклі, прапалі ў цемры ля цёмных і пакуль маўклівых машын.

Маёр Бялоў па металічнай лесвіцы ўзышоў на другі паверх, і там адразу ж патухла лямпачка, толькі ў вокнах трымцела водсветам зялёнае святло ад пульта кіравання.

Над вежаю засвяціўся чырвоны ліхтар, і амаль адразу ж напеўна і трывожна прагучаў баявы сігнал. Загрукалі люкі, кіраўніку па радыёстанцыі камандзіры далажылі, што экіпажы гатовы да стральбы. Узарвалі начную цішыню маторы, а потым па чырвоных мігалках і можна было толькі вызначыць, што машыны рушылі наперад.

Нечакана ў полі рассыпаліся слабенькія адзінокія агеньчыкі — і па іх машыны ўдарылі з кулямётаў на хаду доўгімі чэргамі з трасірнымі кулямі. Поле нібыта асвятлілася роем яркіх фасфарычных агеньчыкаў, якія адшуквалі і пранізвалі мішэні, біліся аб зямлю і высока ўгору, у бакі разляталіся вогненнымі пырскамі над палігонам.

Раптоўна патухлі агеньчыкі, не стала і кулямётных трас, гулкага кулямётнага пошчаку, нібы аднекуль зверху апусцілася заслона ці невядомы чараўнік у момант сабраў у жменю ўсіх сваіх залатых пчолак.

Роўна гулі маторы і рухаліся чырвоныя агеньчыкі мігалак.

Танкавыя мішэні, слаба асветленыя, нібыта падала на іх святло ракет, імкліва пабеглі па полі насустрач машынам. Яны спяшаліся схавацца ў цемені.

Перш чым пачуўся гук ад першага стрэлу, сінім спалохам асвятлілася сярэдняя машына, і гарачы чырвоны след, які працягнуўся ад машыны да мішэні, прабіў яе — і не стала відаць ні машыны, ні мішэні. Як гарачая паветраная хваля, даляцеў і ўдарыў па вушах цяжкі гул гарматнага стрэлу.

І амаль адначасова асвятліліся бліскавіцаю дзве апошнія машыны, здвоена разнёсся над полем гук стрэлаў — і далёка па лесе і па полі незадаволена перакочвалася рэха.

Зноў, разлягаючыся пошчакам, загрукаталі з машын кулямёты, засыпаўшы поле звонкімі імклівымі светлячкамі, паласуючы чэргамі мішэні бронетранспарцёраў.

Потым не стала мішэняў, прагучаў адзінокі стрэл — угору ў поле. Аператар разраджаў кулямёт.

І было чуваць, як стомлена, з роўным гулам, вярталіся назад машыны.

Карповіч напружана стаяў у начной цемені, прыслухоўваючыся да сігналу. Было адчуванне перад гэтым вялікім і пустым полем, што ты маленькі, слабы і бездапаможны, зусім хлопчык.

Пасля Карповіч не памятаў ні хвалявання, ні страху. Сігнал «Да бою!» як ветрам узнёс яго на браню. Хутка і дакладна ўставіў у прыёмнік ленту — яна ўставілася

з першага разу,— даслаў у ствол снарад, апусціў гармату ў баявое становішча, паспрабаваў, як працуе электрапрывад — тоненька заспяваў электраматор, і вежа паслухмяна паплыла спачатку направа, потым налева. Не здымаючы рук з пульта, зазірнуў у прыцэл, асветлены зялёным марскім святлом, на якім выразна віднеліся белыя рысачкі прыцэльнае сеткі, далажыў камандзіру, што да стральбы гатовы.

Прыціснуўся плячыма да спінкі сядзення, адчуў, як кранулася з месца машына. У зялёным прыцэле і трыплексах пагойдвалася начная цемра.

Здалося, што машына едзе доўга. Карповіч нават спалохаўся, што прамаргаў мішэні, і амаль адразу ж заўважыў тры мігатлівыя агеньчыкі, знайшоў свой, прытуліўся да прыцэла, спакойна даў дзве доўгія чаргі. У прыцэл было відаць, як трасы рассыпаліся там, дзе мігцеў агеньчык, і яго не стала відаць.

У навушніках прагучаў радасны голас Рыбачонка, які ехаў на камандзірскім месцы:

— Маладзец, Міша!

Карповіч не ўспеў з палёгкаю ўздыхнуць, як у полі памчаліся насустрач мішэні танкаў. Скамандаваў: «Кароткая!» — павёў прыцэлам, націснуў на электраспуск.

Стрэл аглушыў, нібы гіганцкім молатам ляпнулі зверху па вежы, перацяло дыханне ад едкага, кіслага дыму, які запоўніў вежу.

Яшчэ не гледзячы на след трасіра, Карповіч адчуў, што не трапіў, зразумеў, што мала ўзяў на апярэджанне, даслаў у гармату новы снарад і злосна зноў загадаў: «Кароткая!»

Дакладна вывеў прыцэл наперад і чакаў, пакуль мішэнь наблізіцца да вызначанага дзялення, з жахам адчуваў, што яна вось-вось павінна схавацца, што можа не дайсці, не дачакацца стрэлу. Але палец націснуў на

электраспуск толькі тады, калі мішэнь была дакладна на прыцэле.

— Ёсць! Маладзец! — пачуў Карповіч у навушніках радасны голас Рыбачонка. Але і без яго Карповіч ведаў, што трапіў.

Карповіч толькі на адно імгненне расслабіўся, выцер вочы, якія пачалі слязіцца ад дыму, уключыў вентылятар і доўгімі чэргамі, з паводкаю, біў па трэціх мішэнях, біў, пакуль не выстраляў усе патроны.

На рубяжы спынення агню разрадзіў кулямёт, далажыў камандзіру. Пакуль ішла ў цемені машына да зыходнага рубяжа, паварочваў вежу так, каб гармата ўвесь час глядзела ў поле.

Прыемна было адчуваць, як лёгка паварочваецца вежа, як тоненька і светла гудуць маторчыкі электрапрываду, пазваньваюць у гільзазборніку гарматныя гільзы.

Толькі пасля таго, як на зыходным рубяжы была дадзена каманда «Да машыны!», калі Карповіч стаў на камандзірскае месца ў страі перад новым заездам,— толькі тады адчуў, як ад стомы гудуць у каленях ногі, нібыта адмераў пару дзесяткаў кіламетраў, а плечы мокрыя ад поту. Гудзела ў вушах і горача пастуквала ў скронях.

Але не было часу, каб успамінаць, каб радавацца таму, што падпарадкаваў сабе і вежу — прагучала каманда «Да бою!», і трэба было зноў ехаць, ужо на месцы камандзіра машыны.

Цяпер, на новым месцы, прымаючы даклады ад механіка і аператара, падтрымліваючы сувязь з кіраўніком стральбы, Карповіч мог спакойна назіраць праз камандзірскі прыбор стральбу.

Калі заезд кончыўся, калі з рубяжа спынення агню камандзіры далажылі кіраўніку, што зброя разраджана, і машыны крануліся рухацца да зыходнага рубяжа, Карповіч прыкмеціў, што на першай машыне нешта ня-

ладнае. Яна раз-пораз запавольвала ход, нібы хацела спыніцца.

Потым машына асвятлілася агнём стрэлу. Снарад пайшоў у бок каманднае вежы. Следам за ім коратка пырснула кулямётная чарга.

У навушніках пачуўся ўстрывожаны голас камандзіра першае машыны:

— Цэнтральная, я — першы! Дазвольце замяніць аператара!

У адказ пачуўся хрыплаваты голас маёра Бялова:

— Першы, займіце месца аператара, не выходзячы з машыны! Самі далажыце мне пра гатоўнасць рухацца. Прыём.

Некаторы час было ціха. Над каманднаю вежаю гарэў чырвоны ліхтар. Потым, калі камандзір першае машыны далажыў, што зброя разраджана, машыны атрымалі дазвол ехаць наперад.

Афіцэры паэкіпажна пастроіліся перад вежаю.

— Раўняйсь! Смірна! Раўненне направа! — як перад цэлым батальёнам, скамандаваў маёр Бялоў і пайшоў насустрач падпалкоўніку.

— Таварыш падпалкоўнік, асабовы склад збораў пастроены на падвядзенне вынікаў стральбы.

— Здраствуйце, таварышы афіцэры!

— Здравія жалаем, таварыш падпалкоўнік!

— Вольна!

— Вольна! — паўтарыў каманду маёр.

— Хто страляў па каманднай вежы? Выйсці са строю! — загадаў падпалкоўнік.

Ласцоў паволі, нязграбна выйшаў са строю, назваўся.

— Таварыш афіцэр, чаму ваша гармата была павернута не ў поле? Чаму вы не разрадзілі зброю на рубяжы спынення агню? Камандзір машыны, вам аператар далажыў быў, што зброя разраджана?

— Лейтэнант Яноўскі. Так точна, таварыш падпалкоўнік, лейтэнант Ласцоў далажыў мне, што зброя разраджана!

— Растлумачце, лейтэнант Ласцоў, чаму зброя ў вас была не разраджана? Чаму вы груба парушылі правілы бяспекі на стральбе? Вы ведаеце, што паставілі пад небяспеку жыццё многіх людзей? Ведаеце, што вас судзіць трэба за такое, а не давяраць камандаваць людзьмі?

— Няспраўны быў прывад... Таму я не змог страляць. І вежа не паварочвалася. Я думаў, разраджу гармату на хаду...

— Лейтэнант Яноўскі, электрапрывад у вежы быў няспраўны? Вы ж потым селі на месца апаратара.

— Не, спраўны, таварыш падпалкоўнік. Проста Ласцоў не змог перайсці з ручнога кіравання на электрапрывад... Відаць, разгубіўся і націснуў на электраспуск.

— Вось так, таварыш маёр. — Падпалкоўнік павярнуўся да Бялова.— Стральба наогул прайшла нядрэнна. Я не спадзяваўся на такую. Афіцэры паказалі ўменне валодаць машынамі і зброяй... Але тое, што здарылася пад канец стральбы, перакрэслівае ўсё добрае. Мне хочацца пажадаць, таварышы афіцэры, каб салдаты стралялі гэтак жа ўпэўнена і граматна, як і самі афіцэры, каб вашы падраздзяленні былі выдатнымі ў баявой падрыхтоўцы, у дысцыпліне. Аднак пра тое, што здарылася сёння, я буду дакладваць як пра надзвычайнае здарэнне. Не ведаю, якія вывады будуць зроблены з гэтага. Але і так ужо ясна, што вы цалкам не справіліся з даручанаю вам справаю, таварыш маёр.

Падпалкоўнік быў высокага росту, шырокі ў плячах, магутны. І па тым, як ён няспешна гаварыў спакойным, добра пастаўленым голасам, і як ступаў туды-сюды не-

калькі крокаў, і нават як паварочваў галаву,— ва ўсім адчувалася сіла, улада і задаволенасць ёю.

— Вы самі разумееце, таварыш маёр. Годы ёсць годы, усе мы ім падуладныя,— звысака, самазадаволена супакойваў ён маёра Бялова, як аб'яўляў прысуд.

Маёр Бялоў не варухнуўся. Толькі Карповічу здалося, што нават і пры досвіткавым святле ён убачыў, як пабялеў твар маёра Бялова і як ён моцна сцяў вусны.

— Ясна, таварыш падпалкоўнік. Падвядзенне вынікаў збораў будзе ці не? — дзелавым, скупым вайсковым словам запытаўся маёр Бялоў, усё роўна, як тое, што было сказана да яго, было нечым дробязным.

— Думалі, у панядзелак. Хаця гэтага нават і мы гарантаваць не можам. Я вам раю, таварыш маёр: пісьмова падрыхтуйце кароткую атэстацыю на кожнага афіцэра і раздайце камандзірам часцей. Каб яны ведалі, як займаліся і чаго варты іхнія людзі. Як ваша прозвішча, таварыш лейтэнант? — запытаўся падпалкоўнік у Ласцова, дастаў запісную, запісаў ягонае прозвішча, нумар пакоя ў інтэрнаце і дазволіў заняць сваё месца ў страі. Пажадаў усім на развітанне:

— Шчаслівае службы, таварышы афіцэры!

Маёру Бялову падпалкоўнік казырнуў, працягнуў руку, але маёр не падаў свае, быццам не заўважыў гэтага падпалкоўнікавага руху.

Падпалкоўнік шырокімі няспешнымі крокамі ўпэўнена пайшоў да свайго «газіка», які ўжо слаба вурчэў маторам на дарозе. Шафёр адчыніў дзверцы, машына цяжка загойдалася з боку на бок і імкліва кранулася з месца.

Маёр Бялоў прайшоў перад строем, пазіраючы на афіцэраў, нібы хацеў запомніць кожнага з іх. Ён крыху сутуліўся. І цяпер, упершыню за ўвесь час збораў, выдаваў і старым і стомленым.

Пачынала развідняць, і ў скупым святле восеньскага дасвецця твары афіцэраў здаваліся суровымі, мужнымі, а самі хлопцы намнога старэйшымі. Усё роўна, як на твары ім лёг шэры сталёвы водсвет.

Здавалася, маёр хацеў угледзець некага ў гэтым страі, пазнаць. Ён прыпыніўся перад Карповічам.

Потым як спахапіўся, што за ім назірае гэтулькі вачэй, расправіў плечы, адкашляўся, чамусьці сказаў:

— У вайну ў мяне двух сыноў немцы спалілі... Маленькіх яшчэ...

Паправіў папругу і загаварыў роўным, тым самым скупым складам, як і заўсёды, дэталёва разбіраючы стральбу кожнага.

— У панядзелак зранку, калі нічога не пераменіцца, збіраемся ў наш клас, дзе праводзіліся заняткі па тактыцы. Падвядзём вынікі, а потым разыдзецеся ў падраздзяленні. Лейтэнант Карповіч! Вы паведзяце калону машын. Абавязкова адрэгулюйце пераход цераз шашу, праверце сувязь. Выцягвайце калону.

Пакуль Карповіч выцягваў калону, маёр нерухома стаяў у бронетранспарцёры і назіраў.

Асветлены скупым ранішнім святлом, суровы і нерухомы, быццам помнік, ён прапусціў калону і доўга глядзеў ёй услед, аж пакуль апошняя машына не знікла за паваротам у лесе, на выбоістай танкавай дарозе, як за хвалямі.

Тады маёр далікатна крануў за плячо механіка, і бронетранспарцёр паволі паехаў па ўезджанай гладкай аўтамабільнай дарозе.

## РАЗДЗЕЛ 5

Карповіч, здаецца, і не памятаў, калі апошні раз гэтак радаваўся таму, што цэлы дзень вольны, што можна не ўставаць рана. Хоць усё роўна не спалася — прывык уставаць у адну пару. А як прыемна было адзяваць

шаўкавістую, мяккую, адпрасаваную рубашку з пагонамі і штаны навыпуск. Адразу адчуваў сябе лёгкім, стройным, маладым.

Удзень Карповіч паехаў у горад — светлы, па-восеньску сцішаны, ужо з лёгенькаю смугою і з жоўтым лісцем, шчодрым, сухім, якое пакуль што не прыбралі. Ґэта потым, як пасыплецца яно, буйнае, цяжкае, калі пойдуць дажджы, калі пачнецца сапраўдная сумная восень, будуць прыбіраць і паліць лісце. Цяпер у горадзе было яшчэ толькі восеньская свята, яшчэ была апошняя летняя ласкавасць сонца.

Карповіч паволі хадзіў па вуліцах, косячы вокам на вітрыны магазінаў, дзе відаць было ягонае адлюстраванне, заходзіў у паркі і скверыкі.

Было чамусьці радасна на душы ад свае адзіноты, ад гэтае святочнасці. Здавалася, што няма нічога лепшага за гэту святочнасць, хацелася, каб засталася яна з чалавекам на ўсё жыццё.

Вярнуўся ў інтэрнат крышку стомлены, але супакоены і задаволены самім сабою і сваім жыццём.

І Рыбачонак, і Яноўскі, і Сабанееў — сябры па зборах — чакалі яго, каб адсвяткаваць заканчэнне вучобы, схадзіць вечарам на танцы ў гарнізонны Дом афіцэраў.

Танцавальная зала была на першым паверсе, прасторная, з паркетнаю бліскучаю падлогаю, вялікімі дарагімі люстрамі, якія залівалі ўсё белым, зіхатлівым святлом. На невялічкай эстрадзе іграў аркестр суседняга вайсковага вучылішча. Праз адчыненыя насцеж вокны пахла цёплаю і вільготнаю ноччу.

Дзяўчаты — а іх збіралася на танцы многа — у белых сукенках, прыгожых кофтачках здаваліся ў гэтым яркім святле незвычайнымі. Яны стаялі групкамі, дзенідзе з хлопцамі, нешта ціха гаварылі паміж сабою, смяяліся ціхім смехам, і гэты смех несціхана цурчэў, быццам званілі далёкія званочкі.

Хлопцы тоўпіліся ля ўвахода, выходзілі пакурыць, прыглядаліся да дзяўчат, выбіралі, і дзяўчаты таксама прыглядаліся да афіцэраў.

Карповіч не пазнаваў сябе. Будучы студэнтам, ён амаль не хадзіў на танцы, не любіў, каб яго разглядалі і самому выглядаць нечага. Гэта здавалася непатрэбным, лішнім.

А цяпер ён адчуваў задавальненне і радасць ад таго, што прысутнічае ў гэтай зале, напоўненай светлымі дзявочымі галасамі, ад таго, што бачаць яго і ён можа таксама глядзець на дзяўчат і ўсміхацца ім проста так, прыязна і радасна.

Калі пачынаўся танец, Карповіч ішоў цераз усю залу, запрашаў дзяўчыну, жартаваў з ёю. І жартавалася лёгка і дасціпна.

Так многа танцавалася Карповічу і так добра весялілася, бадай, толькі на выпускным вечары. Але гэта было даўно, быццам за цэлымі стагоддзямі. І над тымі дзяўчатамі ў белых сукенках, і над тымі маладымі бярозавымі прысадамі вакол школы прамчалася многа часу!

Карповіч і сам не заўважыў, што часцей за ўсё пачаў танцаваць з Анюткаю, невысокаю тоненькаю дзяўчынаю ў белым касцюме, з доўгімі распушчанымі па плячах валасамі і крышку журботнымі вачыма.

Пазнаёміў іх Рыбачонак. Карповіч, як толькі ўгледзеў, што Рыбачонак нахіліў сваю чорнавалосую кудлатую шавялюру да дзяўчыны, нешта гаворыць і ківае на яго, на Карповіча, зразумеў, што расказвае дзяўчыне пра яго. І потым Рыбачонак падышоў да яго з дзяўчынаю, пазнаёміў. Карповіч хацеў пажартаваць, але раптам усе жарты вылецелі з галавы, і ён не адважваўся глядзець на Анютку.

А Рыбачонак не пераставаў жартаваць, смяяўся, пабліскваючы чорнымі гарачымі вачыма. Гэта было на́

руку Карповічу — дзяўчына не заўважала, што ён бянтэжыцца.

— Танга. Запрашаюць нашы дарагія дзяўчаты! — аб'явіў адзін з аркестрантаў, рослы курсант з пабітым воспаю тварам.

Рыбачонкава сяброўка, мажная дзяўчына з белымі дробна завітымі валасамі, запрасіла свайго кавалера, і Карповіч застаўся з Анюткаю. Анютка схіліла галаву, запрасіла яго, лёгка і нячутна пайшла ў пары.

Калі позіркі іх сустрэліся, дзяўчына ўсміхнулася так шчыра і даверліва, што Карповіч таксама ўсміхнуўся — і адчуў, як спадае цяжар няёмкасці і скаванасці.

— Вы часта бываеце тут? — запытаўся Карповіч.

— Не. Першы раз. Мы нядаўна пераехалі сюды, бацьку перавялі на службу. З Поўначы. Вы тут усе такія загарэлыя...

Карповіч пачаў жартаўліва расказваць пра службу і пра тое, як ён стаў афіцэрам. Анютка здзівілася, калі даведалася, што ён географ.

— Праўда? Ой, як здорава! Я паступала гэты год на геолагаразведачны факультэт. Не прайшла па конкурсу. На наступны год абавязкова паступлю!

Яна сур'ёзна паглядзела на Карповіча.

— Мабыць, дарэмна я гэты год не ўладкавалася на работу дзе ў экспедыцыю... Рашыла рыхтавацца яшчэ год.

— Паступіш, Анютка! Калі не геалагіняю будзеш, то выйдзеш замуж за Мішу і станеш геаграфіняю. Яшчэ ганарысцей гучыць — геаграфіня,— пажартаваў Рыбачонак, які танцаваў побач.

Анютка пачырванела, зірнула на Карповіча, быццам прасіла ў яго абароны.

Вялічка цэлы вечар танцаваў з высокаю, даўганогаю дзяўчынаю ў чырвоных штанах і квяцістай кофтачцы. На галаве ў дзяўчыны быў чорны парык, які пры яркім святле лямпачак адсвечваў сінявою. Вольнаю паход-

каю, крыху прытрымліваючы сяброўку за локаць, Вялічка паходжваў па зале. Яны разам выходзілі і пакурыць на двор.

Рыбачонак кіўнуў на Вялічкаву сяброўку:

— Дачка намесніка па тыле. Замуж дзяўчыне пара...

— Каму што, а Вялічку пратэкцыя,— не стрымаўся і Карповіч.

— Ну, Міша, калі гэтак, то ў цябе пратэкцыя большая будзе,— не даў і яму спуску Рыбачонак. З яго сёння так і перла жарцікамі і падколамі.— Слухай, а мы зараз Вялічку разыграем!..

І Рыбачонак падаўся да выхада, да хлопцаў.

Карповіч спачатку не зразумеў, што задумаў Рыбачонак. Але пасля наступнага танца заўважыў, што самазадаволенае і расхлябанае паходкі ў Вялічкі не стала, і сяброўку ён перастаў прытрымліваць за локаць, пачаў пазіраць сюды, на Анютку.

Потым усё ішло як па-пісанаму. Вялічкаў сябра, лысаваты капітан-артылерыст, запрасіў Вялічкаву сяброўку на танец, а сам Вялічка, высока падняўшы галаву, перайшоў цераз усю залу і схіліў галаву перад Анюткаю:

— Дазвольце вас запрасіць.

І, не чакаючы адказу, працягнуў руку, каб прытрымаць дзяўчыну за локаць.

— Прабачце, я не магу. Мяне ўжо запрасілі,— адказала Анютка і ступіла бліжэй да Карповіча.

— Прабачце.

Карповіч заўважыў, як малінаваю чырванню налілася Вялічкава шыя.

Ён крута, па-страявому павярнуўся і пайшоў да выхада.

Ягоная напарніца так і засталася танцаваць з капітанам, азіралася навокал, шукаючы свайго прапаўшага кавалера.

Рыбачонак вярнуўся, выціраючы слёзы, якія набеглі ад смеху. Смяяліся ля выхада і афіцэры.

— Ну, Міша, не даеш ты Вялічку генералам быць! Заняў ягонае месца. У Анюткі ж бацька — начальнік штаба дывізіі...

Толькі цяпер засмяяліся Анютка і Карповіч.

Ужо танцуючы, успомніў Карповіч, як Анютка адмовіла Вялічку, з удзячнасцю пацісну́ў дзяўчыну за руку. Яна адказала на ягоны поціск і адкрыта паглядзела ў вочы.

Музыка раптоўна сціхла, хоць танец толькі пачаўся.

Дзяжурны па гарнізонным Доме афіцэраў, старшы лейтэнант са стомленым тварам, быццам адстаяў перад гэтым суткі начальнікам каравула, падняў руку, каб стала ціха, і аб'явіў:

— Таварышы афіцэры, трывога!

Карповіч адчуў, як скаланулася Анютка, сціснула яго за руку.

Ён усміхнуўся, кіўнуў галавою на развітанне.

У вестыбюлі было ўжо чуваць тупаценне ног.

Соладка, трывожна забілася сэрца.

## РАЗДЗЕЛ 6

Афіцэрскі інтэрнат з зацемненымі вокнамі здаваўся апусцелым. Але ў ім варушылася ўсё, як у мурашніку, і гэтак жа, як у мурашніку, не было непарадку і лішняе беганіны. Кожны афіцэр ведаў, што яму трэба рабіць, і рабіў гэта як мага хутчэй.

Апранутыя ў палявую форму, афіцэры выбягалі з інтэрната.

Служылыя перакідваліся кароткімі словамі:

— Паваюем?

— Паваюем.

Грукалі па прыступках лесвіцы салдацкія боты пасыльных.

Вахцёрка, худзенькая жанчына з белымі-белымі ад сівізны валасамі, у строгім чорным касцюмчыку, негаваркая і патрабавальная, нават прыдзірлівая часам, цяпер неяк спалохана і вінавата глядзела на маладых хлопцаў у афіцэрскай форме.

Пусцеў інтэрнат.

Быццам усёю гэтаю ноччу завалодала адно адчуванне — трывогі.

Карповіч ужо абуў боты, калі ў дзверы пастукаліся і ўбег задыханы пасыльны Карповіча Папок.

— Трывога, таварыш лейтэнант!

— Ведаю. Вяртайцеся на месца. Я зараз буду.

— У раён пасадкі, таварыш лейтэнант.

— Ведаю. Ідзіце.

Карповіч узяў палявую сумку, азірнуўся навокал.

Новенькая паштодзённая форма ляжала скамечаная на ложку.

У вестыбюлі Карповіч павесіў ключ на сваё месца і выбег на двор.

Здзівіла, што так цёмна і так ціха навокал, быццам нічога і не здарылася. Толькі невядома адкуль — наўкол адусюль — чуўся трывожны гул. Нешта рабілася невядомае, вялікае і страшнае. Нібыта сама ноч заварушылася і кудысьці рушыла.

Падагнаны гэтаю трывогаю, Карповіч імкліва бег па асфальтаванай сцяжынцы. На выхадзе з гарадка вароты адчынены, і днявальныя толькі скупа пасвечвалі ліхтарыкамі на тых, хто выбягаў.

Крыху прабегшы і прыслухаўшыся, Карповіч пачаў адрозніваць тыя гукі, якія жылі ў начы. Гэта і далёкае тупаценне ботаў па асфальце, і трывожныя водгаласы каманд, і густы моцны гук многіх матораў, якія гулі, працуючы на малых абаротах. Ноч, здавалася, не можа ўмясціць у сабе ўвесь гэты трывожны гул.

Было нязвыкла цёмна і ціха на тэрыторыі часці. Не свяціўся ніводзін ліхтар, ні адна лямпачка ля пад'езда

казармы, ніводнае акно. Здавалася, што тут ніколі і не было чалавечае душы.

Але калі падышоў да дзвярэй свае казармы, убачыў, што праз няшчыльна зачыненыя дзверы падае вузенькая палоска святла.

Карповіч узышоў на другі паверх. У пустым памяшканні нечакана гулка чуліся ягоныя крокі.

Дзверы ружпарка былі расчынены насцеж, у казарме не запраўлены ложкі.

Днявальны, які стаяў пры тумбачцы ў пустым памяшканні, далажыў:

— Таварыш лейтэнант! Рота выйшла па трывозе.

Карповіч нічога не адказаў, выбег на двор.

Цяпер добра было чуваць, як натужна, цяжка гулі ў парку маторы машын. І нельга разабрацца — ці гэта аўтамабілі, ці танкі: гукі зліваліся ў гудзенне, ад якога, здавалася, крышачку трымціць пад нагамі зямля. Зрэдку з гэтага аднастайнага гудзення вылучалася кароткае, адметнае пагрукванне гусеніц.

Карповіча кальнула трывога — што, калі машыны прыйшлі ў раён, дзе павінны забраць пяхоту, а ён спазняецца?

Палявая ўтаптаная дарога слаба бялелася ў цемры, і Карповіч часта спатыкаўся, ледзь не падаў.

Пакуль дабег да лесу, вочы крыху прывыклі да цемнаты. Скіраваў на сцяжынку, якую прыкмеціў, калі паказвалі раён пасадкі на машыны раней. Бег нахіліўшыся і закрыўшы твар сагнутаю ў локці рукою. Намокла ад расы куртка і штаны — і гэты холад быў прыемны разагрэтаму целу.

Як кончыўся гушчар, выбег на дарогу, прыпыніўся.

Чуліся ціхія галасы многіх людзей.

Карповіч перайшоў цераз дарогу, дастаў з сумкі ліхтарык, правёў праменем па салдатах, якія размясціліся пад соснамі, і пачуў знаёмы голас Рыбачонка:

— Што, Міша, скончылася любоў? Ваяваць будзем.

Рыбачонак і тут не пераставаў жартаваць.

— Машыны яшчэ не падыходзілі?

— Рана яшчэ машынам быць.

Цяпер Карповіч ведаў, што яму трэба прайсці крыху наперад, там павінен быць ягоны батальён і ягоны ўзвод.

— Шчасліва, Федзя!

— Шчасліва, Міша!

Карповіч крыху аддыхаўся і супакоіўся. І чым бліжэй падыходзіў да салдат, не ведаў, што трэба будзе рабіць. Ён павінен узяць камандаванне ўзводам на сябе. Але як узяць і што загадваць?

Карповіч нават прыпыніўся, пастаяў крыху.

Яго не заўважылі ў цемені. Карповіч пазнаў грузінскі акцэнт свайго намкамузвода Самхарадзе:

— У камандзіра ўзвода пытацца трэба.

— Няёмка мне, Вано. Лейтэнант тады мяне адпусціў, а з-за гэтага сам вінаватым стаў. Сам ведаю, што нічога не дапамагу, але, здаецца, каб быў там, усё ж лепш было б...

— Трывога, Віця, нічога не зробіш.

— Сам разумею.

Карповіч пазнаў голас Прымака, але не зразумеў, пра што гавораць сержанты.

— Таварыш лейтэнант! Другі ўзвод па трывозе выйшаў у раён пасадкі на машыны. Асабовы склад, зброя — усё на месцы,— далажыў Самхарадзе.

Карповіч павітаўся з сержантамі.

— Што гэта вы тут такое рашаеце?

— А нічога... Усё нармальна,— збянтэжана адказаў Прымак за абодвух і пайшоў да свайго аддзялення.

— Ну што, Самхарадзе, зараз машыны падыдуць?

— Я праверыў усё, таварыш лейтэнант. Вось тут запісана, колькі зброі і астатняга ўсяго з намі.

— Што ж, тады будзем чакаць.

— Цяпер усё нармальна пойдзе. Сядзем і паедзем.

Карповіч з удзячнасцю падумаў, што з такім намкамузводам яму будзе лёгка на вучэннях.

У начной цішыні невыразна чуліся галасы. Высока, задумліва стаялі мокрыя ад расы яліны.

З цемры, як падкрадваючыся, мякка вуркочучы матoрам і свецячы зацемненымі фарамі, прайшоў камбатаўскі бронетранспарцёр. За бронетранспарцёрам набліжалася тугое ракатанне баявых машын.

— Камандзірам узводаў — да камандзіра роты! — праляцела па лесе, і Карповіч падаўся да першага ўзвода.

Капітан Раманаў пасвечваў ліхтарыкам. Побач з ім стаяў маўклівы, нізенькага росту, з крываватымі, як у кавалерыста, нагамі камандзір трэцяга ўзвода Калянчук і таўставаты, чырванатвары камандзір першага ўзвода Каласоў.

— Таварыш капітан! Другі ўзвод у поўным складзе выйшаў у раён пасадкі,— далажыў Карповіч.

— Зброю праверылі? Запісалі, колькі вынесена з сабою? Давайце мне звесткі.

— Праверыў.

Капітан Раманаў падаў руку, прывітаўся, запісаў на паперы названыя Карповічам лічбы.

Карповіч прывітаўся з Каленчуком і Каласовым. Ён не вельмі ведаў іх, пазнаёміўся толькі, як заходзіў яшчэ са збораў у размяшчэнне роты.

— Першая трывога ў цябе, Міша? Трымаць хвост пісталетам — самае галоўнае,— весела параіў Каласоў.

— Таварышы афіцэры! На вучэннях, я думаю, вы пазнаёміцеся і падружыцеся. А цяпер вазьміце карты. Знайшлі, дзе знаходзімся? Цяпер слухайце, якія склаліся абставіны. Наша падраздзяленне паднята па тры-

возе і выйшла ў раён пасадкі на машыны з-за таго, што, згодна данясенню разведкі, заўважана вялікае наступленне праціўніка з захаду на ўсход. Зараз мы з вамі накіроўваемся ў раён збору, дзе папаўняемся асабовым складам, боепрыпасамі, рыхтуем тэхніку і чакаем загаду выступіць. Умовы, якія скláліся, давесці ўсім салдатам, так, каб кожны засвоіў сваю задачу. А цяпер наносьце на карту маршрут...

Трымаючы карту на сумцы, пры скупым святле ліхтарыкаў, накрэслілі на карце нітачкі маршруту.

Пагрукваючы гусеніцамі, з зацемненымі фарамі падышлі машыны. З пярэдняе саскочыў нампатэх:

— Таварыш капітан! Машыны ў поўнай баявой гатоўнасці.

— Добра, Вабіч. Пазнаёмся: наш камандзір другога ўзвода, лейтэнант Карповіч.

— Вельмі прыемна. Аляксей Вабіч, нампатэх роты.

Вабіч падаў руку і тэатральна пакланіўся Карповічу, нібыта паненцы.

— Так, Вабіч, канцэрт пасля паказваць будзеш... Таварышы афіцэры! Зараз правесці пасадку на машыны, праверыць сувязь і далажыць мне пра гатоўнасць рухацца наперад. Можаце ісці.

Карповіч подбегам кінуўся да ўзвода, які — Самхарадзе ведаў, што трэба рабіць,— быў пастроены. Коратка Карповіч паведаміў умовы, паставіў задачу на марш. Цяпер і следу не засталося ад ранейшае няўпэўненасці, цяпер ён ведаў, што і як трэба рабіць.

— Да машын! На месцы!

Праз некалькі хвілін стала ціха, не было відаць ніводнае душы. Як засыналі, ціха вуркаталі маторы, пагойдваліся высокія сталёвыя дубцы антэн.

Карповіч апусціўся на сваё камандзірскае месца.

У машыне пахла цёплым металам і крышку саляркаю, цьмяна гарэла адзінокая лямпачка падсветкі ў дэсантным аддзяленні.

Механік павярнуўся да Карповіча, усміхнуўся і падаў запасны танкашлем.

— Як машына, Зелянкоў? — па-гаспадарску запытаўся Карповіч.

— Зелянкоў, таварыш лейтэнант, на няспраўных машынах не ездзіць,— весела адказаў механік.

Карповіч зразумеў, што механіку весела ад таго, што наперадзе дарога, ён загадзя радуецца таму, як будзе імчаць на машыне.

Карповіч уключыў аўтамат настройкі, пачакаў, пакуль уключыцца зафіксаваная хваля.

— Кола! Я — кола два. Прыём.

— Кола два! — Я — кола. Чую вас. Прыём.

Чулася, як выйшлі на сувязь з камандзірам роты Калянчук і Каласоў.

Калона была гатова да маршу.

Ад таго, што ў гэтай ночы, у цішыні яму, Карповічу, падуладны магутныя бранявыя машыны, якія па яго волі могуць імчацца сотні кіламетраў без перадыху, падуладны ўзброеныя людзі, адчуванне незвычайнае свае сілы і ўпэўненасці было мацней за слабенькі неспакой адказнасці за падначаленых, які варушыўся, непакоіўся ў душы. Карповічу здавалася, што трэба, каб зусім не засталося трывогі, каб была толькі ўпэўненасць у самім сабе. А інакш які ж ён гаспадар і ўладар усяго наваколля, усяе гэтае цішыні?

Карповіч устаў і, стоячы ў люку, азірнуўся навокал, удыхнуў на поўныя грудзі паветра.

У навушніках пачулася каманда капітана Раманава. Карповіч перадаў яе механіку:

— Наперад!

Машына рванулася з месца, твар абдало цяплом з эжэктара. А потым прыемна студзіла твар густая лясная вільгаць. Вясёлае, маладое адчуванне шчасця было ў імклівай яздзе па вузкай дарозе, дзе трэба адводзіць рукою ад твару галінкі, або нагінацца.

Лесавая дарога кончылася нечакана, і машыны адразу, нібы ў ваду, нырнулі ў густы белы туман. І не стала відаць іх слабых, незаўважных здаля агеньчыкаў. Карповічу здавалася, што машына і не дакранаецца да зямлі — гэтак імкліва і плаўна імчалася яна ў тумане наперад. Невядома, як механік бачыў дарогу: ён быццам нюхам угадваў яе.

Потым дарога пайшла крыху ўгору, застаўся ўнізе белы і густы, як вата, туман, запахла пылам з-пад гусеніц.

Пачаўся сасоннік, а за ім машыны з ходу вылецелі да шашы.

Рух на шашы ўжо спынілі рэгуліроўшчыкі, якія нейкім таямнічым чынам успявалі туды, дзе павінна прайсці калона. Незвычайныя — у белых касках, з белымі нарукаўнікамі, з кругам на плячах і на грудзях, з чорна-белымі жазламі ў руках.

Паслухмяныя рэгуліроўшчыкам, на шашы спынілася некалькі легкавічкоў, маленькіх, светленькіх, са здзіўленымі лупатымі фарамі.

Карповіч нібыта ўбачыў твары людзей у гэтых светленькіх і ўтульных машынах, як засяроджана і трывожна сачылі яны за бранірованаю армадаю, якая спяшалася некуды так напорыста і грозна. Страшная, неадольная сіла адчувалася ў гэтай імклівай брані, у постацях камандзіраў, якія нерухома высіліся ў люках.

Збоку здавалася, што машынам не будзе канца,— адна за адною яны вынырвалі на дарогу, пакідалі на ёй беленькія драпінкі ад тракаў і зноў знікалі ў лесе.

Карповіч і не павярнуўся, не зірнуў на легкавічкі, нібы і не заўважаў іх, заняты іншым, сваім, чаго збоку не зразумець. Але затое яго бачылі!

За шашою пачаўся зноў лес, густы, стары. Запахла балотам і спрадвечнаю лесавою вільгаццю, якая трымаецца ў гэтакім лесе нават у самае засушлівае лета.

Пасля дарога нечакана ўзяла ўгору, доўга ўзбіралася на ўзгорак, і там пачаўся роўны, сухі, немалады ўжо сасновы бор.

У гэтым бары машыны запаволілі ход, пстрыкнула ў навушніках, і пачуўся хрыплаваты голас ротнага:

— Я — кола! Машыны замаскіраваць у капанірах! Кола-адзін, два, тры — да мяне! Прыём.

Карповіч вылез з машыны, агледзеўся, знайшоў свой капанір, паволі пайшоў перад машынаю, падняўшы рукі. Машына паслухмяна, як прывязаная да рук нябачнымі нітачкамі, падпарадкоўвалася кожнаму руху: управа, улева, назад. Спынілася ў капаніры, разгайдаўшы антэну.

— Дэсанты — да машыны! — скамандаваў Карповіч.

Глуха застукалі люкі.

І больш ні гуку не чуваць у лесе. Патухлі агеньчыкі, толькі недзе далёка апошні раз вуркнуў матор.

Карповіч подбегам заспяшаўся да камандзірскае машыны.

Камандзір роты з Каленчуком моўчкі курылі.

— Ну вось і прыехалі.— Карповіч не мог маўчаць.

— Не радуйся. Наездзішся яшчэ, што галава кругам пойдзе і млосна стане,— коратка адказаў Калянчук і акуратна абцасам растаптаў недакурак.

Падышоў, нешта злосна буркаючы сам сабе, Каласоў.

— Што ў цябе, Каласоў? — запытаўся капітан Раманаў.

— Механік у мяне ёсць — удача! Паўкапаніра разбушаваў, пакуль машыну паставіў...

— Нічога, будзе час паправіць... Таварышы афіцэры! Наша падраздзяленне, паднятае па трывозе, выйшла ў раён збору, дзе будзе папаўняцца людзьмі, тэхнікай, рыхтавацца да выканання далейшых загадаў,

правяраць машыны. Вам зараз загадваю правесці заняткі з асабовым складам па задачах падраздзялення і кожнага байца ў раёне збору, а пасля дазваляю адпачынак. Першы і трэці ўзвод арганізуюць, кожны са свайго боку, шлагбаумы і ставяць пасты. Другі ўзвод арганізоўвае патруляванне па размяшчэнні роты. Якія ёсць пытанні, таварышы афіцэры? Няма? Выконвайце загад.

Спакойным, упэўненым крокам вярнуўся Карповіч да ўзвода.

Самхарадзе далажыў, што ўзвод пастроены для правядзення заняткаў.

Карповіч расказаў, што павінен рабіць кожны ў раёне збору, потым пераходзіў ад аддзялення да аддзялення і перапытваў абавязкі амаль у кожнага салдата.

Потым ужо Самхарадзе прызначыў патрулёў, выбраў месца, дзе павінен начаваць узвод, паставіў вартавога пры зброі на час адпачынку.

Слухаючы, як камандуе сержант, Карповіч падумаў, што пашанцавала яму на людзей у падраздзяленні і асабліва на сваіх памочнікаў — на сержантаў.

Стомлена, не спяшаючыся, як гаспадар, Карповіч прайшоў ад машыны да машыны, замаскіраваных у капанірах.

Высока ў цёмным небе праглядвалі зоркі.

Карповічу было трывожна і радасна адчуваць сябе камандзірам.

— Што, Карповіч,— не спіцца? Прыклад бяры з Каленчука і Каласова. Спяць ужо як пшаніцу прадаўшы. Прывыкнеш і ты. Камандзіру адпачываць трэба. Ён заўсёды павінен быць бадзёрым. А бор як пахне, бор! Застацца б тут і пажыць у палатачцы, рыбу вудзіць, хадзіць... От дажывём да пенсіі, тады будзе гэтага хоць адбаўляй. Ідзі, лейтэнант, адпачывай. Спакойнай ночы.— Капітан Раманаў, які таксама абыходзіў на ноч

размяшчэнне роты, паляпаў Карповіча па плячы і пайшоў да свае машыны.

Спаць не хацелася, і Карповіч сеў, прысланіўшыся плячыма да сасны пры дарозе, удыхаў на поўныя грудзі сухаваты, але свежы сасновы водар, прыслухоўваўся, як гучала за лесам далёка недзе музыка. Здалося, што і асветленая зала, і Анютка сніліся яму толькі — так нечакана ўсё перамянілася. Але то быў не сон, то быў жывы ўспамін, ад якога цёпла зрабілася на сэрцы.

— Не спіцца, таварыш лейтэнант? І мне таксама не спіцца. Можна прысесці?

— Сядайце.

Па голасу Карповіч пазнаў Унукава, кулямётчыка са свайго ўзвода. З першага знаёмства ён запомніў салдата з-за ягонага адметнага прозвішча, з-за жывоціка, які выразна быў відаць. Адразу заўважалася, што Унукаў старэйшы за сваіх сяброў па службе. Даведаўся тады ад Паддубнага, што Унукаў вучыўся ў інстытуце, не закончыў яго і таму трапіў у войска.

— Там Мехраліеў так храпе з Гасанавым наперагонкі, хоць ты ім насы затыкай... Ды і ноч якая — прыгажосць!

— Прыгожая ноч. Аднак, Унукаў, спаць трэба. Заўтра ў нас цяжкі дзень. А вам з кулямётам...

— Сілы ў мяне на кулямёт хопіць, таварыш лейтэнант. Але я мог бы і сяржантам быць. Амаль два гады праходзіў падрыхтоўку на вайсковай кафедры, маглі мяне ўзяць у артылерыю хаця б.

— Маглі. А чаму вы інстытут пакінулі?

— Памыліўся. Бацькі настоялі, каб паступаў,— ну, я і паступіў. А душа да вучобы не ляжала. Узяў дый пакінуў. Я слясарыць люблю, з напілачкам, з малаточкам у руках... А мяне эканамістам хацелі зрабіць...

— Калі так, то трэба было хоць тры курсы дацягнуць, мець няпоўную вышэйшую...

— Я, таварыш лейтэнант, такі чалавек, што мне не трэба ні тое ні гэта. Калі рашыў так зрабіць — зрабіў! І пасля не хачу ні ўспамінаць пра гэта, ні шкадаваць.

— Што ж, будзем служыць. Вам яшчэ год засталося?

— Год, таварыш лейтэнант.

— Ідзіце адпачываць.

— Дазвольце мне, таварыш лейтэнант, асобна легчы, а то я не магу заснуць.

— Лажыцеся. Толькі нікуды далёка не адыходзьцеся і не выходзьце на адкрытае месца, дзе могуць машыны ісці.

— Што вы, таварыш лейтэнант! Спакойнае вам ночы.

Карповіч падышоў да размяшчэння ўзвода. Крыху збоч, пры сасне, падгарнуў нагамі ігліцы, каб было мякчэй ляжаць, закруціўся ў плашч-накідку.

## РАЗДЗЕЛ 7

Карповіч прачнуўся ад ціхага пераразвону. І спачатку не мог зразумець, хто за ноч панавешваў на соснах гэтулькі розных званочкаў, а цяпер званіў гэтак цудоўна. Была раніца ў лесе, далёка ўзыходзіла сонца, на вышэйшую вяршаліну ляглі першыя промні, і звінелі птушкі. Не бачныя і не знаёмыя Карповічу срэбныя званочкі раніцы.

Карповіч ляжаў нерухома, прыслухоўваўся да гэтых званочкаў, спрабаваў распазнаць іх — і не мог. Мякка і ўтульна ляжалася на сухой лесавой пасцелі, не хацелася і варушыцца натомленым целам.

З сумам падумаў, што не адна б такая раніца была сустрэта ім пад час экспедыцый. Там ён быў бы сам сабе гаспадаром, мог колькі хочаш слухаць лясную

музыку... Зноў выплыла тая самая горкая думка: цэлых два гады рабіць зусім іншую работу, не пакідаючы часу ні на што іншае. Затое як будзе потым ведаць цану гэтакаму шчасцю — рабіць любімую работу! А два гады не прападуць, калі не марнаваць час: войска загартуе волю, навучыць жыць і рабіць работу з людзьмі.

Карповіч рыўком падняўся на ногі, расправіў плечы, некалькі разоў махнуў рукамі, нагнуўся, пакруціў тулавам, каб разварушыцца.

— Добрай раніцы, таварыш лейтэнант!

Самхарадзе казырнуў, усміхнуўся, паказаўшы залаты зуб. Быў ён свежы, як і не спаў, паголены, вусікі роўна падстрыжаны.

— Пайшлі да машыны, таварыш лейтэнант. Там вада ёсць, паголіцца можна.

І сапраўды, пры камандзірскай машыне стаяла каністра з вадою. На крыле машыны паблісквала люстэрка, мыльніца і станок бяспечнае брытвы.

— Як справы, таварыш старшы сяржант? Вы даўно ўсталі?

— Не, таварыш лейтэнант. Унукаў гаварыў учора з вамі?

Карповіч намыліў твар, асцярожна правёў па ім лязом.

— Я яму дазволіў спаць асобна.

— Я так і зразумеў, таварыш лейтэнант,— Самхарадзе ўсміхнуўся.— Ён вам і пра напілачак, і пра малаточак расказваў?

— А які ён наогул салдат, гэты Унукаў? І сапраўды, чаму яму не прысвоілі сяржанцкага звання?

— Ён вам, таварыш лейтэнант, расказваў сваю біяграфію? Цяпер паслухайце, што вам раскажа старшы сяржант Самхарадзе. У інстытуце ён не хацеў вучыцца. Гуляў, дзяўчат вадзіў, выпіваць пачаў... Потым кінуў інстытут, быццам рознарабочым на завод падаўся.

У войска яго восенню забралі, а потым да бацькоў дзяўчына прыйшла. Яго, Унукава, дзіця ў яе...

— І што?

— Дзяўчына сірата, пасля прафтэхвучылішча мулярам працуе. Бацькі Унукава яе да сябе забралі. Мы яму звальненне на трое сутак далі, каб паехаў на сына паглядзеў. Вярнуўся ён праз пяць. Ды дома не быў...

Карповіч перастаў галіцца, стаяў перад сяржантам з намыленым тварам.

— Спачатку яго казкам усе верылі.

Самхарадзе ўзяў каністру і паліваў на рукі Карповічу.

— Не трэба было яго адпускаць. Каб не патрульныя, быў бы ён ноч у самаволцы, у вёсцы, адкуль чулася музыка...

— Цяпер буду ведаць!

— Людзей на вучэннях нельга распускаць. Нельга, таварыш лейтэнант.

Сяржант сур'ёзна глядзеў на афіцэра. Ён не мог бы растлумачыць гэтае «нельга», але ён верыў у яго.

Карповіч памкнуўся сказаць, што ён і сам ведае, што можна і што не. І ён сам пакуль што камандуе ўзводам. Але камандзірскае самалюбства не ўзяло верх над разуменнем таго, што праўда за сяржантам.

Карповіч нічога не адказаў. Ён успомніў тую сваю размову ў штабе батальёна, калі не мог зразумець і не зразумеў таго, што з непахіснаю ўпэўненасцю даводзіў яму начальнік штаба.

Не, надалей, каб не чырванець перад камандзірамі аддзяленняў, ён будзе падпарадкавацца толькі статуту і не дапускаць ніякага адхілення, ніякае самадзейнасці! Хопіць. Другі раз яго правучылі.

— Унукава прышляце да мяне, таварыш старшы сяржант,— суха загадаў Карповіч і запытаўся: — Больш ніякіх прыемных навін няма?

— Ніяк не, таварыш лейтэнант.

Самхарадзе зачыніў каністру і паставіў да гусеніцы.

— Дзякую за ваду, Самхарадзе. Зрабіце пад'ём, яшчэ раз праверце наяўнасць зброі.

— Ёсць!

Карповіч пайшоў па дарозе, пакідаючы на вільготным ад расы пяску выразныя адбіткі слядоў. У канцы дарогі з сухастоінкі быў зроблены шлагбаум. З-за куста выйшаў той самы Гасанаў, які перашкаджаў Унукаву спаць, пазнаў камандзіра ўзвода, застыў па стойцы «смірна».

— Што, пад выглядам маскіроўкі дрэмлем пад кустом? — здзекліва запытаўся Карповіч. Ён быў упэўнены, што Гасанаў спаў.

— Ніяк не, таварыш лейтэнант. Скрытна стаю, сам Самхарадзе вучыў!

У голасе салдата чулася крыўда. Карповіч усё ж зазірнуў за куст, каб убачыць пакамечаную траву і пераканацца, што не дарэмна ён падазраваў. Гасанаў не сядзеў.

— Ну глядзіце, Гасанаў,— толькі і сказаў Карповіч.

Нядобра стала на душы. І самае горшае, што не было тае ўпэўненасці, што ўсё падуладна яму. Тыя падобныя адзін да аднаго салдаты, якімі ён ведаў іх дасюль, аказаліся зусім рознымі людзьмі, і падыходзіць да кожнага з адною меркаю нельга. Але ж не было часу разбірацца і няньчыцца з кожным. Аднаго адпусціў — вінаватым застаўся, другому па-чалавечы паспагадаў — зноў не тое; трэцяга нізавошта пакрыўдзіў... Не, ёсць статут, і там усё прадугледжана.

— Таварыш лейтэнант, радавы Унукаў прыбыў да вас па загаду!

Унукаў стаяў перад Карповічам так, як і належыць акуратнаму, вывучанаму салдату. Але Карповіч ніяк не мог улавіць ягонага позірку.

— Чаму вы ноччу хацелі пакінуць размяшчэнне роты, радавы Унукаў?

— Я нікуды не збіраўся. Вы ж самі дазволілі мне легчы асобна.

— Я вам дазволіў легчы. А чаму вас затрымалі патрулі? Куды вы збіраліся?

— Таварыш лейтэнант, нікуды не збіраўся. Не спалася проста.

Вочы Унукава глядзелі на Карповіча быццам і шчыра, адкрыта, але ў іх нельга было нічога прачытаць. А на твары было абурэнне.

Карповіч засумняваўся: можа, нікуды чалавек і не збіраўся?

— Таварыш лейтэнант, калі чалавек раз памыліўся ў жыцці, то і паверыць яму нельга? Самхарадзе са сваімі каўказскімі замашкамі... Убіў сабе адно ў галаў і не дае мне веры. А калі не верыць, то як жыць і служыць разам?

Карповіч на момант уявіў сябе на месцы гэтага салдата, якому не вераць і які не можа ніяк даказаць, што ён ні ў чым не вінаваты. Як гэта цяжка, калі загадзя, не дапытваючыся праўды, прызнаюць цябе віноўным і не патрабуюць нават апраўданняў.

— Ладна! — неазначальна адказаў Карповіч.

Унукаў павярнуў галаву ўбок, але Карповіч заўважыў, як пераможная ўсмешка варухнула вусны Унукава.

Унукаў таксама заўважыў, што лейтэнант зразумеў усё. Ён не хаваючыся пагардліва ўсміхнуўся.

— Я вас, таварыш салдат...

Карповіч не знаходзіў слоў, каб сказаць усё, што накіпела ў душы.

— Што вы? Вы паспрабуйце дакажыце! Што вы дакажаце?

— Кру-гом!!!

На ранішнім пастраенні Карповіч сам прыдзірліва

агледзеў выпраўку кожнага салдата, моўчкі выслухаў даклады камандзіраў аддзяленняў, потым загадаў выйсці са строя Унукаву. Той выйшаў вольна. Карповіч вярнуў яго ў строй і загадаў выйсці так, як належыць, па-страявому.

— За спробу зрабіць самавольную адлучку аб'яўляю радавому Унукаву, ад імя камандзіра роты, трое сутак арышту. Стаць у строй!

Гэтым разам Унукаў дакладна выканаў каманду. Спадылба зірнуў на Карповіча. Такога павароту ён не чакаў. Гэта азначала, што цяпер трэба будзе трымаць адказ і перад камандзірам роты, і перад камбатам. І не было гарантыі, што тыя не прыбавяць сутак.

Афіцэры снедалі на невялікай палянцы. Каласоў сядзеў, выцягнуўшы ногі і прытуліўшыся плячыма да сасны. Калянчук сядзеў, падкурчыўшы ногі па-турэцку, паволі жаваў кашу, нібы смакаваў яе ці думаў нешта. Капітан Раманаў прымасціўся на пяньку. Капітан акуратна, каб меней крышылася, адкусваў хлеб, намазаны маслам, і запіваў чаем з алюмініевага кубка.

Карповіч пажадаў усім прыемнага апетыту, паглядзеў, дзе б сесці.

— Садзіся, садзіся, у пяхоце не гардзяцца — дзе стаяць, там і садзяцца! — пажартаваў Каласоў, падсунуў бліжэй да Карповіча кацялок з кашаю.— Рубай.

— Слухай, Міша, цябе не Аскірка навучыў апошнім да кухні хадзіць? — сур'ёзна, з падазронасцю запытаўся Калянчук, а Каласоў ледзь не закашляўся.

— А што? — насцярожана запытаўся Карповіч, адчуваючы, што тут нейкі жарт за пытаннем.

— А тое,— растлумачыў Калянчук,— што твой папярэднік, уразумеўшы, што апошняму больш дастаецца, узяў быў моду прыходзіць пасля нас...

— Ну? — запытаўся Карповіч.

— Ну а мы ўзялі аднойчы і ўсё з'елі, пару лыжак толькі пакінулі. Ад таго разу пачаў прыходзіць так, як і належыць камандзіру другога ўзвода,— скончыў Калянчук, ■ Каласоў і Раманаў засмяяліся, успомніўшы той выпадак.

— Ладна, Калянчук, я табе дарогу перабягаць не буду, калі ты камандзір трэцяга ўзвода і павінен прыходзіць апошнім. Спадзяюся, ты не пакрыўдзішся, калі мы табе іншы раз не больш, ■ менш пакінем?

Цяпер засмяяліся ўчатырох.

Каласоў тым часам хлебануў чаю і паморшчыўся — гарачы.

Калянчук, усё гэтак жа павольна смакуючы кашу, запытаўся:

— Гарачы?

— Гарачы.

— А ты яго з халадком зрабі.

— З якім халадком?

— Вунь жабка паскакала. Ты яе ў кубак — і будзе ў чаі халадок...

Каласоў так адхіснуўся ад кубка, бы ў ім угледзеў не жабу, а кракадзіла.

— От табе і пяхота, у якой не гардзяцца! От табе і баявы камандзір! — прысарамаціў яго Калянчук, зусім сур'ёзна, нібыта яму і не хацелася ўсміхнуцца.

Капітан Раманаў устаў. Каласоў тронкам лыжкі памешваў чай — студзіў.

— Што там у цябе з Унукавым? — запытаўся капітан Раманаў у Карповіча.

— Хацеў ноччу ў самаволку. Аб'явіў трое сутак ад вашага імя.

— Ого! Першы раз хай і гэтак будзе. Толькі ў наступны раз рабі так, каб я сам спачатку ведаў, што ты аб'яўляеш ад майго імя.

— А вам, таварыш капітан, пара перастаць цацкацца з гэтым Унукавым. Яго даўно ўжо трэба ў дысбат.

Заслужыў! — Каласоў злосна махнуў рукою, як сekануў у паветры.

— Туды ніколі не позна. Будзеш на маім месцы, Каласоў,— можа, і ты паглядзіш па-другому... Пасля снедання збярацеся да мяне,— сказаў капітан Раманаў і пайшоў.

— Дзівак чалавек.— Каласоў устаў, стоячы дапіў чай.— Раманаву з-за гэтага Унукава павышэнне адмянілі, а ён усё выхоўвае абармота. Ды каб маладога хлопца, а то ў дваццаць два гады. З-за яго так і застанецца вечным ротным.

— А ты перажываеш сам больш за Раманава. Табе на месца ротнага, мабыць, мацней хочацца, чым Раманаву на камбатаўскае,— знарок насмешліва пакпіў Калянчук.

— Перастань са сваімі жартачкамі! На роту мне будзе месца і так.

— А ты думаеш, Раманава хутчэй пусцяць на павышэнне пасля таго, як ягонага салдата адправяць у дысбат? А гэты Унукаў Раманава саромеецца, дабраў ён яго за жывое...

— Цябе, Калянчук, у псіхалогію цягне. От вазьмі яго ў Карповіча і разам з Раманавым выхоўвайце.

Каласоў пайшоў.

Калянчук даеў кашу, піў чай упрыкуску з хлебам і маслам, расказваў Карповічу.

— Два месяцы назад Раманаў павінен быў пайсці камбатам. А Унукаў трапіў у камендатуру. Раманаву за дрэнную работу з людзьмі павышэнне адмянілі. Аднагодкі Раманава ўжо маёрамі ходзяць. А ніводзін з іх не быў камандзірам такое роты, як у Раманава. Усе ведаюць, што Раманаў лепшы ротны камандзір. А вось... З такім камандзірам, як Раманаў, можна ўсё жыццё служыць. Шчаслівыя тыя будуць, да каго ён трапіць камбатам. Не еў — не мог, пад'еў — ні рук ні ног!

Калянчук цяжка ўстаў. Толькі цяпер Карповіч заўважыў, што вочы Каленчука глядзяць ласкава, як усміхаюцца.

Чуліся каманды старшынаў рот — сняданак канчаўся.

Зранку пачалі рамантаваць капаніры, капаць побач з імі траншэі, рабіць над імі перакрыцці. І рабіць так, каб не засталося і следу, нідзе жоўценькага пясочку. Перад гэтым Карповіч пастроіў узвод, даў каманду механікам выйсці наперад, загадаў ім выгнаць з капаніраў машыны і самым старанным чынам праверыць рухавікі, падрыхтаваць машыны да доўгага маршу. А што будзе пераход, Карповіч здагадаўся па тым, што не прызначаліся заняткі, як гэта павінна рабіцца, калі супынак надоўга. На дапамогу механікам пайшлі апаратары — правяраць свае баявыя адсекі.

Сержанты самі кожнаму салдату давалі заданне.

Карповіч хадзіў па дарозе туды-сюды, назіраючы, як ідзе работа, але ягонае ўмяшанне і прыспешванне было не патрэбна.

Пасля снедання салдаты, разварушыўшыся пасля сну, працавалі дружна, з задавальненнем. Сонца паднялося высакавата, прыгравала крыху, хай і познім сваім, але ўсё ж яшчэ цяплом. Ды і ў лесе, у зацішку, было цяплей. Маладыя, да пояса раздзетыя, бліскучыя ад поту целы, вясёлыя жарцікі, смех, быццам і работа не ў работу.

Толькі ля аднаго капаніра здалёку прыкмячалася салдацкая постаць. Салдат не раздзяваўся, час ад часу абапіраўся на тронак рыдлёўкі і адпачываў, потым паволі пачынаў капаць.

Карповіч ведаў гэтага салдата. Другі пасля Унукава адметны чалавек ва ўзводзе, калі можна так сказаць, узводная знакамітасць. Майбах ніколі не бегаў у самаволкі, камандзіраў паважаў і баяўся. Але яму не тое каб выканаць загад, а каб і слова вымавіць, трэба было

сама мала паўхвіліны. Высокі, здавалася б, здаровы хлопец з блакітнымі вачыма, ён амаль нічога не ўмеў рабіць сам, а калі і рабіў, то так павольна, што неставала цярпення глядзець на яго. Ды шкода было часам і глядзець на яго, як ён вяртаецца з заняткаў: ледзьве перастаўляе ногі, каска з'ехала на адно вуха... Быццам гэтага рослага хлопца да васемнаццаці гадоў насілі на руках, паілі і кармілі адным толькі малаком праз соску...

Першыя дні яму цяжка было ў войску. Гэта цяпер, праз паўгода, пасля таго як з Майбахам кожную ранiцу займаліся, трэніраваліся ў спортгарадку кожнага вечара, пасля таго як ён пачаў падцягвацца аж тры разы на турніку (спачатку дык і павісець не мог), бегаць па паўкіламетра і не задыхвацца... Але Майбах застаўся марудам.

I цяпер Майбаха ўшчуваў старшына роты Паддубны:

— Валодзя, людзі, бач, па колькі выкапалі, а ты толькі і накапаў, як прыкрыць каціны грэх!

Салдаты зарагаталі, засмяяўся і сам Майбах.

— Таварыш старшы сержант, я хутчэй не магу... У мяне запаволеная рэакцыя...— растлумачыў ён.

— А хто сёння першы снеданне ўмяў?

— Не-е-е!..

У сталоўцы Майбаху таксама не заўсёды ўдавалася ўспець разам з усімі.

— Ведаеш што, Майбах, ты хоць убок адыдзіся і не замінай людзям. А не — ідзі вунь да Зелянкова, дапамагай яму матор правяраць. Зелянкоў, забірай у дапамогу Майбаха, ён табе глянец навядзе!

Зелянкоў выглянуў з-за паднятага ўгору лабавога шчыта. Зелянкову варта толькі, здаецца, падысці да машыны, дакрануцца да брані — і мазут, неверагодна якім чынам, апынаецца ў яго на твары, на барадзе або пад носам.

— А што ён мне тут рабіць будзе? Валодзя, што ты рабіць будзеш?

— Чаму? Я магу пада́ць што-небудзь, паднесці...

Зелянкоў шмаргануў носам, цярнуў рукою па шчацэ, пакінуўшы яшчэ адзін чорны пісяг, хітра ўсміхнуўся.

— Давай, калі так. У канцы дарогі стаіць лятучка. Капітана Кокіна ведаеш? Не будзе капітана, сержант Петухоў там ёсць. Ведаеш Петухова? У мяне кліранс згубіўся. Скажы яму, каб даў запасны. І прынясеш. Толькі хутка. А то пакуль ты прыйдзеш, то і калона рушыць.

Задаволены тым, што не трэба больш мучыцца з рыдлёўкаю, Майбах патупаў па дарозе. Ні ягоная маці, ні бацька і не думалі, што будзе іх сын некалі ў войску звычайным салдатам. Спачатку яны вучылі сына іграць на скрыпцы, потым на фартэпіяна, а пасля, калі пераканаліся, што ім гавораць праўду, што не мае іхні сын сапраўднага музычнага слыху, вырашылі — павінен ён стаць ні болей ні меней як матэматыкам. І Майбах зубрыў матэматыку... Матэматыкам ён таксама не стаў, бо і на гэта, аказалася, нейкі свой матэматычны талент патрэбен.

Надышоў час, і Майбаха выклікалі ў ваенкамат. Трапіў ён у мотастралковае падраздзяленне, дзе яму ў першыя дні і неба здалося аўчынкаю. Потым пачаў пакрысе прывыкаць.

Задаволены сваім даручэннем, Майбах у канцы дарогі і сапраўды ўбачыў батальённую «лятучку», у якой нешта майстраваў, сагнуўшыся над варштатам, рослы, з пшанічнымі вусамі сержант.

— Таварыш сержант!

Петухоў паглядзееў на Майбаха і пазнаў:

— Што, Майбах?

— Зелянкоў прасіў, каб вы яму новы кліранс далі...

— Што, што? Кліранс?

Петухоў прыкусіў адзін вус, скасавурыў вока:

— А дзе ж Зелянкоў той кліранс дзеў?

— Згубіў, таварыш сержант!

— Ну то на!

Петухоў аднекуль з кутка дастаў вядучую зорку з баявое машыны, лёгка, як гантэлю, падаў яе Майбаху, і той не ўтрымаў, апусціў яе долу.

— Я ж не падніму гэты кліранс!

Майбах не чакаў, што кліранс можа аказацца такім цяжэрным.

— Дык бяры і каці па дарозе. Толькі асцярожна, ног не паадбівай!..

І сержант Петухоў даў волю смеху, бо клірансам называецца не што іншае, як дарожны прасвет, або адлегласць ад зямлі да днішча машыны.

Майбах, пасопваючы, выціраючы рукавом пот, каціў па дарозе «кліранс».

Спачатку ён адказваў, калі пыталіся, што коціць, але пасля таго, як чуў рогат, адказваць перастаў, спяшаўся хутчэй прыкаціць «кліранс».

Яшчэ здалёк, гледзячы на Майбаха, Зелянкоў саскочыў з машыны, трымаючыся за жывот, качаўся па зямлі. Сюды, да машыны другога аддзялення, сабраліся і больш цікаўныя, падышоў і Карповіч, спачатку сам не мог стрымацца, смяяўся, а калі ўбачыў узмакрэлую ад поту спіну Майбаха, яго вінаваты няўцямны позірк, яго кволую ўсмешку і навокал вясёлыя, насмешлівыя твары, пашкадаваў салдата:

— Што тут такое? Я пытаюся, што тут такое? Канцэрт самадзейнасці на вучэннях? Ёсць безработныя? — Карповіч адчуваў, што пачынае злавацца.

Смех адразу сціх.

Моўчкі палез да матора Зелянкоў, салдаты ўзяліся за рыдлёўкі, а цікаўныя падаліся ад граху далей і бліжэй да сваіх машын.

— А вы, Прымак, куды гледзіце? Пацеху знайшлі...

Майбах вінавата зірнуў на лейтэнанта, трымаў усё яшчэ «кліранс», які чырванеўся ржавымі плямамі. Потым кінуў зорку на дарогу, узяўся за рыдлёўку і пачаў капаць, здаецца, крыху хутчэй, чым звычайна пры сваёй «запаволенай рэакцыі».

— Што гэта з вамі, Прымак? Вы нейкі, як звараны, і ўчора і сёння,— запытаўся Карповіч у сержанта.

Той зірнуў на афіцэра, не адважваўся сказаць і ўсё ж сказаў:

— Маці маёй сёння аперацыю рабіць будуць.

— Як аперацыю?

— На сёння ёй прызначана аперацыя. Таварыш лейтэнант, схаджу я ў вёску, паспрабую пазваніць! — адчуўшы, што Карповіч спачувае, папрасіў сержант.— Я хутка.

— Не, Прымак. Адзін сёння хацеў ужо схадзіць... Гэта вучэнні. Служба ёсць служба.

Карповіч не глянуў на сержанта, павярнуўся і пайшоў. Чамусьці, зрабіўшы быццам так, як і трэба, праявіўшы патрабавальнасць і суровасць, ён не адчуваў сябе спакойна.

— Калі ў цябе ўсе так капаніры зрабілі, як у першым аддзяленні, то малайцы,— пахваліў Карповіча капітан Раманаў, які стаяў ля машыны першага аддзялення.

— Не зрабілі, дык зробяць,— коратка запэўніў Карповіч.

— Што гэта ты, як асоту пад хвост падціснуў?

— Жартаўнікоў многа развялося...

— А-а! Пра кліранс... Чэрці! Прыдумаць жа!..

— Адным кліранс, другі ў самаволку бяжыць, у трэцяга маці на аперацыі, пусці яго пазваніць... Усё роўна як дапаможа тым званком...

Гаварыў Карповіч пра ўсё, што накіпела ў душы, не толькі каб выгаварыцца, але каб і атрымаць падтрымку словам, бо не адчуваў упэўненасці, нават горш — здавалася, што нешта ён робіць не так, як трэба.

— У Прымака маці сёння на аперацыі? — здагадаўся Раманаў, уважліва паглядзеў на Карповіча.

— У Прымака.

Капітан Раманаў задумёна паківаў галавою, сказаў:

— А ў яе ў вёсцы яшчэ двое малых. Прымак самы старэйшы. Ідзі, Карповіч, правер, каб акуратна была зроблена маскіроўка, і будзь напагатове. Можа быць загад выступаць.

Раманаў паглядзеў яшчэ раз уважліва на Карповіча, завярнуўся і рашуча пайшоў у галаву калоны.

Карповіч абышоў усе капаніры, праверыў, каб нідзе не віднелася свежая зямля, каб усюды была прыцярушана ігліцаю ці апалым сухім лісцем, загадаў камандзірам аддзяленняў яшчэ раз праверыць, ці ў наяўнасці ўся зброя. І недарэмна зрабіў гэта.

Перад абедам у сонечнае неба трывожна ўзвілася чырвоная ракета, а потым і ад камандзірскае машыны праляцела трывожнае і імклівае: «Да машын!»

А змярканнем машыны былі далёка ад раёна збораў, адматаўшы нямала кіламетраў і лесам і полем.

За ўвесь дзень быў толькі адзін прыпынак, у бярозавым узлеску, дзе калону чакала паходная кухня з адчыненымі гарачымі катламі. І здалося, што няма нічога смачней за гэту капусту са скваркамі, за ячную кашу і рэдзенькі кіславаты кісель.

І большае асалоды не магло мець цела, як ад кароткага прывалу на сухім, рана апалым лісці, на густой, мясцінамі ўжо пакудлачанай траве, пад пяшчотнымі павевамі палявога ветру, які нясе з сабою пах сухое шэрае раллі, іржышча і саломы.

Пад вечар, калі пахілілася сонца да зямлі, калі далёка выцягнуліся цені, калона па дарозе паўз малады, пасаджаны акуратнымі радамі хвойнік спусцілася ў шырокую даліну.

Насустрач дыхнула густою вільгаццю, мокрым пахам травы, алешніку і ракітніку — гэтак, як і заўсёды пахне надвячоркам ад ракі. І аж лягчэй стала дыхаць.

Самаю лепшаю ўзнагародаю было б зараз распрануцца і кінуцца ў гэтую роўную, слюдзяную плынь ракі. Але такая блізкая і заманлівая вада заставалася недасяжнаю. Адсюль, з узгорка, было відаць як на далоні, што да ракі тоненькімі шэрымі стужачкамі сцякаліся калоны. І машыны адна за адною сыходзілі ў ваду і ўплаў пераадольвалі раку, не спыняючыся, уз'язджалі на ўзгорак на другім беразе. А далей кожная калона зноў выходзіла на свой кірунак.

Капітан Раманаў перадаў загад тэрмінова падрыхтаваць машыны да плавання.

А праз некалькі хвілін калона паволі кранулася наперад.

Машыны ішлі ў раку.

Карповіч заняў месца на час пераправы ў вежы. З яе добра было відаць, як паволі, няўклюдна, быццам вялікія качкі, уваходзілі ў ваду баявыя машыны.

У самога Карповіча здрыганулася сэрца, калі машына, выкінуўшы перад сабою хвалеадбіўны шчыток, страціла пад сабою зямлю, загайдалася, нібыта вось-вось гатовая пайсці пад ваду. І ў наступнае імгненне Карповіч адчуў, што машына плыве, што матор не марна працуе. Паволі набліжаўся бераг.

Карповіч азірнуўся назад: дзве ягоныя машыны, як качаняты, паслухмяна плылі следам.

Як толькі гусеніцы дакрануліся да зямлі, Зелянкоў даў газу. Ляпнуў, склаўшыся, хвалеадбіўны шчыток, і машына, абтрасаючы ваду, лёгка памчалася на ўзгорак, услед за калонай.

Адышоўшы з паўкіламетра, калона спынілася — пакуль падцягнуцца ўсе машыны.

Наперадзе, на скрыжаванні, стаяў на дарозе рэгуліроўшчык, збоч дарогі, за кусцікамі, матацыкл з каляскаю. Ад матацыкла да дарогі ішоў афіцэр, нечым вельмі ж знаёмы Карповічу.

І калі афіцэр падышоў бліжэй, Карповіч пазнаў, што гэта Ласцоў.

Ласцоў таксама пазнаў Карповіча, гукнуў:

— Прывітанне пяхоце!

Па гэтым прывітанні Карповіч зразумеў, што цяпер Ласцоў не мае ніякага дачынення да пяхоты. І знарок не стаў распытвацца нічога, бо зразумеў, што Ласцову захацелася пахваліцца.

Ласцоў прыпыніўся, паглядзеў на Карповіча, стомленага і запыленага, знарок няспешна, перавальваючыся з нагі на нагу, як прагульваючыся па скверыку, пайшоў назад да свайго матацыкла.

Калона кранулася далей. Цяпер Карповіч успомніў словы падпалкоўніка на начной стральбе і зразумеў, што тады ён узяў Ласцова на заметку і як няўмеку прыбраў у камендацкі ўзвод ці так куды, абы толькі далей ад баявых машын, зрабіў, такім чынам, тое, чаго і дамагаўся чалавек.

## РАЗДЗЕЛ 8

Лагчына адкрылася вачам адразу ж за пагоркам. Роўненька, акуратна ўзялася па пакошы трава. Нібы нехта, каб навесці прыгажосць, пастрыг поплаў.

Нагрэты за дзень поплаў павяваў водарам травы, аселіцы, вады. Пасярод лугу цякла невялічкая рачулка-пятлянка.

Карповіч толькі аблізаў перасохлыя вусны.

Ніколі б не падумаў, што марш даецца гэтак цяжка,

забірае так многа сілы. Здавалася, што тут такога — едзь у машыне, не сваімі ж нагамі ідзеш.

Калона нават не збавіла ходу. На поўнай хуткасці імчала па вузенькай, слаба ўезджанай аўтамабілямі дарозе, бязлітасна ўзрываючы гусеніцамі лугавіну.

Карповіч заплюшчыў вочы: здалося, што машына не ўтрымаецца на мосціку і зляціць у ваду. Зелянкоў з шыкам узляцеў на мосцік, вузенькі, як толькі праехаць машыне. Мосцік спецыяльна зрабілі вайсковыя сапёры, і на бярвеннях яшчэ чыста і свежа бялеліся зачосы і блішчалі кроплі смалы.

Але машына нікуды не зляцела, пераможна рыкнула маторам, апынуўшыся на другім беразе.

Карповіч апусціўся на сядзенне, расшпіліў сумку, паглядзеў на карту. Не такім здаваўся і доўгім звілісты чырвоны пункцір маршруту на карце, які цяпер паўставаў перад вачыма жывымі малюнкамі ўзгоркаў, узлескаў, палёў, пройдзеных і пакінутых далёка-далёка ззаду. І пыл з тых лесавых і палявых дарог роўным тоўстым слоем укрыў браню машыны, твары і адзенне камандзіраў і механікаў.

Прыціхла ў дэсантным аддзяленні пяхота. Ад доўгае язды шуміць у галаве і нядобра падварочвае пад грудзі, як ад марское гайданкі. Пачынае здавацца, што не хопіць сілы вытрываць да канца маршруту.

Але Карповіч ведае, што маршрут, лічы, скончыўся, што адразу за лагчынкаю чырвоны пункцір маршруту абрываецца на лічбах — 112,3.

Карповіч цяпер уважліва прыглядаўся да карты і да мясцовасці, каб не прамаргаць тое месца, дзе ягонаму ўзводу трэба скіраваць з ротнага маршруту на свой напрамак.

Паварот Карповіч заўважыў здалёку, і машыны адна за адною нырнулі пад засень старых бяроз на пароcлую доўгаю рэдкаю травою дарогу.

Прыемна асвяжыў халадок і бярозавы водар паветра. Рэдкія, як зорачкі, лісцікі апалі на запыленую браню. За бярозавым гаем пачаўся арэшнік, потым ядловец.

Машыны ішлі на ўзгорак, на тую, пазначаную на карце ў Карповіча вышыню.

За ядлоўцам адкрылася воку вялікая палявая прастора, нязвыкла пустая, адзічэлая, парослая быльнягом і нізенькімі чэзлымі кусцікамі, якія ў лагчынах браліся гусцей.

Гэта той рубеж, дзе павінны былі сустрэцца з «працiўнікам», які падышоў ужо да другога канца поля або падыходзіць яшчэ, каб адразу перайсці ў наступленне.

— Я — кола два! Кола дваццаць два, кола дваццаць тры — да мяне! — перадаў па радыёстанцыі загад Карповіч і саскочыў на зямлю.

Зямля нечакана мякка загайдалася пад нагамі. Карповіч няўпэўнена ступіў некалькі крокаў, нібыта прывыкаў да зямное цвердзі.

— Таварыш лейтэнант, камандзір трэцяга аддзялення малодшы сержант Барзоў прыбыў па вашаму загаду!

Крыху касалапы, камлюкаваты Барзоў у запыленым камбінезоне і з пачарнелым ад пылу тварам быў падобны болей на трактарыста, чым на салдата.

— Таварыш лейтэнант, камандзір другога аддзялення сержант Прымак прыбыў па вашаму загаду.

Прымак пазбягаў сустракацца позіркам з камандзірам узвода.

— Таварышы сержанты, слухайце баявы загад! Пазіцыя першага аддзялення: тры кусцікі ядлоўцу — валун; пазіцыя другога аддзялення: бярозавы ўзлесак — зломанае дрэва; трэцяе аддзяленне — на левым флангу, ад насыпу да выжарыны. Пазіцыі машын: першага аддзялення — за кусцікамі арэшніку, другога і трэця-

га — у тыле сваіх аддзяленняў. Аддзяленням заняць пазіцыі! — Аддаўшы загад на абарону, Карповіч прайшоў па пазіцыях, даў палосы вядзення агню, асабіста паказаў сектары абстрэлу з баявых машын, кулямётчыкам і гранатамётчыкам.

Калі было зроблена першае і самае неабходнае пры заняцці абароны, калі салдаты пачалі акопвацца, сержанты склалі карткі сістэмы агню кожнага аддзялення, Карповіч вопытным вокам сфатаграфаваў мясцовасць. І, быццам на малюнку, убачыў і размяшчэнне ўзвода, і сістэму агню, і тое, як уладарна над мясцовасцю паднімалася вышыня, занятая ім. Тут нават і здалёку вопытны чалавек зразумее, дзе павінен замацавацца праціўнік і куды нельга будзе і паткнуцца.

Карповіч сеў, прысланіўшыся плячыма да бярозы, дастаў чысты аркуш паперы, хуткімі і дакладнымі штрыхамі намаляваў сістэму абароны ўзвода, паклаў лісцік у сумку, заплюшчыў вочы і слухаў, як натомлена гудзе ўсё цела. І як востра пахне зямлёю, верасам, і ранніх апалым лісцем, і вялікім пустым полем, з якога плыве да лесу густы вецер. І ты нібы раствараешся ў гэтым ветры, пагойдваешся над зямлёю, лёгкі і вечны, плывеш пад бясконцыя кароткія шурпатыя гукі.

Шарх! Шарх! Шарх!

Карповіч страсянуў галавою, насцярожана азірнуўся навокал. Здалося раптам, што цішыня над ягоным узводам разляціцца ўшчэнт ад выбухаў, ад свісту асколкаў. Здалося, што ўбачыў, як з поля роўнымі ланцугамі ідзе «вораг». А на вышыні нельга падняць галаву ад грымотных няспынных выбухаў...

Карповіч пакруціў галавою, азірнуўся навокал. Ён пачуў патрэскванне ламачча пад коламі, гул матора, угледзеў камбатаўскі бронетранспарцёр.

Камбат саскочыў на зямлю, следам за ім камандзір роты.

— Таварыш маёр! Другі ўзвод заняў абарону на вызначаным рубяжы і займаецца інжынернымі работамі. Камандзір узвода лейтэнант Карповіч.

— Вольна, лейтэнант Карповіч. Пакажыце схему абароны.

Маёр працягнуў руку, узяў лісток, уважліва прыглядзеўся, потым зірнуў на адваротны бок. Карповічу толькі сказаў:

— Дату трэба ставіць.— І да капітана Раманава: — Выбраў знарок такую вышыню, каб нікому і не захацелася наступаць на яе?

— Вышыня прыдатная...

— Ага, усё, быццам на муляжы, класічна... Не зусім мне падабаецца гэтая класічнасць.

Камбат пацісную пальцамі свой востранькі нос, зірнуў на гадзіннік.

— Ладна, Карповіч. Зараз салдатам прывязуць ежу. Пакінь тут намкамузвода, а сам з намі на бэтээр давай,— загадаў камбат, сам пайшоў паперадзе, ступіў на прыступку і лёгка ўскочыў у бронетранспарцёр.

Карповіч заўважыў, што кожны рух камбата імклівы, ён увесь сабраны, як спружына. І гэтая імклівасць і сабранасць міжволі перадавалася тым, хто быў побач з камбатам.

Бронетранспарцёр лёгка каціўся па ўзлеску, скіраваў у лагчыну, выехаў з яе, пераехаў цераз чыгунку і выбраўся зноў у поле, на якім стаяла невысокая двухпавярховая вежа, а далей у полі былі відаць траншэі, акопы.

— Запамінайце, Карповіч, гэтае месца і дарогу сюды.

— Таварыш маёр, я, відаць, сам прывяду ўзвод і буду камандаваць стральбою. Трэніроўкі ж праводзіў я,— звярнуўся да маёра капітан Раманаў. Ён быў стомлены, з пачарнелым, схуднелым тварам, чырвонымі павекамі.

— Не, Раманаў, камандаваць будзе Карповіч. Вы будзеце разам з ім. Абарону ён намаляваў добра. Паглядзім, што з яго за камандзір будзе тут...

Маёр ва ўпор паглядзеў на Карповіча.

Калі вярнуліся да ўзвода, там ужо ў засені бяроз стаяла машына, і старшына з тэрмасаў раздаваў страву.

Карповіч памкнуўся саскочыць з бронетранспарцёра, але Раманаў затрымаў яго.

— Карповіч, пасля вячэры, да дваццаці чатырох нуль-нуль, абарона павінна быць закончана цалкам. Выкапаны акопы і траншэі, запасныя пазіцыі баявым машынам.

— Таварыш капітан, людзі ж не адпачывалі...

— Вы, таварыш лейтэнант, чулі загад? — перапыніў Карповічаву гаворку камбат і зноў паглядзеў ва ўпор, быццам Карповіч быў вінаваты і не меў права на апраўданне.

— Так точна!

— Вось і выконвайце! Ідзіце!

Карповіч зірнуў на маёра, але той спакойна вытрымаў позірк і сказаў:

— Ды спытайце ў сержантаў за тое, што некаторыя байцы пакідалі зброю на пясок.

Камандзір батальёна патрабаваў, і Карповіч павінен быў выконваць гэтыя патрабаванні. І не інакш.

— Ёсць! — адказаў Карповіч, бо больш не мог нічога сказаць.

Чыйсьці аўтамат і сапраўды ляжаў на пяску.

Карповіч аж пачырванеў ад злосці і на салдата, і на самога сябе. Ён як камандзір быў вінаваты і ў гэтым.

— На ноч, Карповіч, выстаў абавязкова варту. Ага, перадай Прымаку, што аперацыя прайшла ўдала. Маці сказалі, што зваміў сын,— сказаў яшчэ Карповічу капітан Раманаў.

— Усё, Раманаў, тут не дзіцячы сад. Няхай сам камандзір камандуе. Паехалі. Табе адпачыць трэба.

Раманаў казырнуў на развітанне, падаў Карповічу руку.

Калі бронетранспарцёр знік з вачэй, Карповіч паглядзеў, дзе Прымак.

— Прымак! — Карповіч падышоў да сержанта.— Сядзіце, сядзіце. Я хацеў сказаць вам, што аперацыя ў маці прайшла нармальна. Ёй сказалі, што гэта вы званілі...

Прымак здзіўлена ўскінуў вочы на камандзіра, падхапіўся на ногі, разгублена глядзеў то на кацялок, то на лыжку ў другой руцэ і не ведаў, дзе дзець іх.

— Дзякуй, таварыш лейтэнант!.. Ніколі не забуду!..

Карповіч апусціў вочы. Так ніколі не адчуваў сябе яшчэ ён, і такое навукі, якую даў яму толькі што Раманаў, ён не меў.

— Нічога, нічога,— збянтэжана прамармытаў Карповіч і, каб Прымак не заўважыў ягонае збянтэжанасці, сказаў: — Гэта з вашага аддзялення аўтамат валяецца на зямлі?

— Аўтамат? Я зараз разбяруся, таварыш лейтэнант! — весела, бы яго пахвалілі, а не зрабілі заўвагу, адказаў сержант і накіраваўся да салдатаў.

Пасля вячэры Карповіч пастроіў узвод і аддаў загад акапацца ва ўстаноўлены тэрмін. Калі нехта ўздыхнуў цяжка, строга паўтарыў загад.

У вечаровай цішыні зашоргалі рыдлёўкі.

Пяхота капала акопы, траншэі, насыпала і акуратна маскіравала свежыя бруствeры.

Зямля была не надта цвёрдая. Зверху лёгенькі пясочак, потым гравій, і толькі знізу сантыметраў трыццаць гліны. Але пясок, які лёгка капаўся, гэтак жа лёгка і аплываў уніз, на дно акопаў і траншэй. Акрамя ўсяго

гэтага, у зямлі было шмат карэння — і тоненькага, і тоўстага.

Гусцеў зеленаваты вячэрні змрок, цеплаватаю свежасцю павеяла над зямлёю, бо не ішлі яшчэ дажджы і не астыла зямля. І туманаў не было густых, тых, што ахутваюць зямлю на ноч і не хочуць разыходзіцца раніцаю.

Карповіч абыходзіў пазіцыі баявых машын, аддзяленняў, заўважаў, што пакуль яго няма, салдаты не-не ды і прысядалі, а сеўшы, адразу засыналі.

Карповічу і самому надакучыла хадзіць ад акопа да акопа. Яму здавалася, што няма патрэбы прымушаць салдатаў адразу пасля маршу акопвацца. Можна было даць гадзінку-другую на адпачынак. Наперадзе цэлая ноч, і часу хопіць, каб акапацца. Ён быў гатовы на сваю адказнасць дазволіць людзям адпачынак. Але нешта стрымлівала і прымушала выконваць загад. Маёр мог патрабаваць ад Карповіча, а Карповіч не меў права не выканаць ягонага патрабавання...

Карповіч ледзь не спатыкнуўся аб выцягнутыя ногі салдата.

— Устаць! — загадаў ён.

Салдат разгублена мацаў па зямлі, шукаючы рыдлёўку.

— Устаць! — злосна паўтарыў загад Карповіч, нібы пехацінец, якога змарыла стома, быў вінаваты ва ўсім, што рабілася на вышыні.

Салдат нарэшце падхапіўся на ногі. Нават у прыцемках было відаць, што ягоная куртка на плячах прамокла ад поту.

— Чаму спіце, радавы Назараў?

— Я не сплю... Я толькі адпачыць прысеў, таварыш лейтэнант. Вінават, таварыш лейтэнант. Я зараз, таварыш лейтэнант...

— Вы чулі загад, радавы Назараў?

— Так точна, таварыш лейтэнант. Я зараз...

— Я асабіста праверу, як вы акапаліся!

— Вінават, таварыш лейтэнант.

Назараў, узбек з рускім прозвішчам, яшчэ не надта добра і ўмеў гаварыць па-руску...

Шорхалі рыдлёўкі, чуліся ціхія галасы. Пяхота рабіла спрадвечную сваю работу: капала зямлю, гэтак жа, як яе капалі ў цяжкія дні вайны дзяды і бацькі.

У негустой начной цемры свежа бялеўся выкапаны пясок, вільготна, моцна запахла свежараскапаным долам.

Усё часцей то там, то тут салдаты, толькі на хвілінку прысеўшы адпачыць, засыналі.

І ўсё выразней і акуратней абазначаліся над зямлёю замаскіраваныя лісцем і травою брустверы.

Пяхота капала зямлю.

І ў прызначаны час, калі і сам Карповіч засынаў на хаду, здавалася, не меў больш сілы працівіцца таму цёпламу туману, які засцілаў галаву, хіліў долу, акопы і траншэі былі выкапаны.

Карповіч абышоў яшчэ, праверыў пасты, насек сапёрнаю рыдлёвачкаю галля, захінуўся ў плашч-накідку і заснуў адразу ж, як праваліўся ў чорную прорву, і ўсё падаў і падаў і ніяк не мог упасці...

## РАЗДЗЕЛ 9

А ноч не спала. Ноч жыла сваім жыццём. І таму не самае галоўнае ў ёй, што на нейкай вышыні хутка, ціха акапалася пяхота, замаскіравалася і заціхла, чакаючы «непрыяцеля». Іншыя падраздзяленні выконвалі свае — і таксама для іх галоўныя — заданні.

Таму і прабіраўся па ўзлеску паволі бронетранспарцёр, нібы падкрадаўся, нябачны, з уключанымі прыборамі начнога бачання.

Праехаўшы, бронетранспарцёр спыняўся, і з яго, не грукнуўшы ботам аб браню, не трэснуўшы галінкаю

пад нагамі, саскоквалі людзі ў маскіровачных халатах, па-рысінаму нячутна ступалі па зямлі. Потым доўга стаялі, прыслухоўваліся да ночы. Бо калі прыслухацца, то ноч не такая і ціхая. Ноч жыве. Шурхне па насохлым лісці мышка, сонна і незразумела ўскрыкне на дрэве птушка, мільгне нячутна, нібы прывід, сава... І многа яшчэ розных начных гукаў жыве, толькі не ўсе іх ведае чалавек і не ўсе яны чуваць чалавеку... А ўжо калі ёсць сярод ночы недзе людзі, то іх нельга не пачуць і не знайсці вопытнаму чалавеку, які прывычны да ночы і ўмее яе слухаць. Людзей у маскіровачных халатах вучылі слухаць ноч і многа яшчэ чаму вучылі, а найбольш — як распазнаць, знайсці людзей, як бы яны ні схаваліся. І не толькі па тым, што дзе-небудзь выблісне на імгненне неасцярожны агеньчык цыгарэты ці грукне аб зброю кацялок.

Тыя, што былі на бронетранспарцёры, ведалі ўжо, што недзе паблізу ёсць людзі, бо яны яшчэ ўдзень назіралі, куды ехалі машыны, людзі з бронетранспарцёра адшукалі свежыя сляды ад гусеніц. Людзям у маскіровачных халатах трэба было ўсё ведаць дакладна пра тых, за кім яны сачылі.

Ноч спрыяла людзям у маскіровачных халатах, як сябрам: на ўзлеску, між дрэў, цемра была гусцейшая, чым над полем. Вось таму людзі ў маскіровачных халатах і заўважылі падрыхтаваную абарону, але ім трэба было падкрасціся бліжэй, каб угледзець, дзе кулямётныя і гранатамётныя гнёзды, дзе схаваліся са сваёй магутнаю зброяй баявыя машыны.

Рабілі сваю работу вайсковыя разведчыкі, вушы і вочы войска.

Тае ж самае ночы, калі была трывога, у другім месцы выходзілі машыны, таксама збіраліся і рыхтаваліся ў сваім раёне збору другія салдаты, потым выйшлі

маршам на свой рубеж, каб з ходу атакаваць «непрыяцеля»...

І гэтак жа сама, як і Карповіч, наносіў на карту свой маршрут лейтэнант Вялічка. Высокі і спрытны, у зграбным камбінезоне, ён адчуваў сябе — прынамсі, яму так здавалася — на вучэннях, як рыба ў вадзе. Вялічка меў добрую прафесійную вывучку, умеў думаць і дзейнічаць хутка, умеў камандаваць. Вялічка верыў, што на адным з вучэнняў яму пашанцуе паказаць, чаго ён варты, вылучыцца з масы камандзіраў узводаў.

На прывале, калі прайшлі палавіну дарогі, камбат сабраў афіцэраў на нараду, каб удакладніць падрабязнасці будучага наступлення з ходу. Слухаючы яго і разумеючы, што камбату даводзіцца дзейнічаць, зусім мала ведаючы пра «непрыяцеля», Вялічка здагадаўся, што можна зрабіць. Ён дачакаўся зручнага моманту і сказаў:

— Таварыш падпалкоўнік, я прапаную разведаць праціўніка, калі ён яшчэ будзе на маршы, у калоне. А потым прасачыць заняцце ім агнявых рубяжоў. Такім чынам, мы зможам ведаць дакладна калі не ўсю, дык частку варожае абароны. А гэта дасць магчымасць правесці эфектыўную артпадрыхтоўку і выбраць месца для галоўнага ўдару. Я бяруся правесці такую разведку.

— На жаль, Вялічка, мы не распараджаемся верталётам і не можам табе даць яго, каб ты знайшоў нам сярод лесу нейкую там роту ці нават і батальён,— адказаў Вялічку начальнік штаба, малады насмешлівы маёр.

— Мне трэба бронетранспарцёр і чалавек чатырох салдатаў з майго ўзвода.

— Вы хочаце сказаць, Вялічка, што гадзін за дзесяць да наступлення я буду мець схему ўчастка абароны праціўніка? — запытаўся камбат. Ён нахіліў галаву і ва ўпор глядзеў на Вялічку. Падпалкоўнік не быў насмешнікам, як ягоны начальнік штаба, меў больш во-

пыт і зразумеў, што думка лейтэнанта цікавая. Калі ўдасца разведка, можна будзе гарантаваць, што наступленне атрымаецца ўдалым.

— Як вы мяркуеце знайсці варожую калону?

Вялічка з палёгкаю ўсміхнуўся — гэта ўжо было ўдакладненне дэталяў будучае разведкі.

— Там, дзе павінен будзе прайсці праціўнік, ёсць дзве рэчачкі. І ні на адной з іх няма капітальна збудаваных мастоў. Значыць, будуць рабіць пераправы або ісці ўброд...

— Пераплысці?

— Не, крутыя і гразкія берагі. Брод і то знайсці цяжка. Зручней і лягчэй за ўсё навесці пераправу.

— Таварыш маёр, выдзеліце лейтэнанту Вялічку бронетранспарцёр і ўсё астатняе, што яму патрэбна для правядзення разведкі,— загадаў камбат начальніку штаба, а Вялічку паўтарыў: — Запомніце: за ноч перад наступленнем мне патрэбна схема з дакладным размяшчэннем агнявых кропак!

Камандзір батальёна пакідаў сабе ў запасе час, каб назіраннем можна было праверыць разведдадзеныя.

— Выконвайце, таварыш лейтэнант!

— Ёсць! — шчасліва адказаў Вялічка. Ён ужо быў упэўнены, што гэтыя вучэнні ён выйграў. Цяпер ніхто не будзе сцвярджаць, што Вялічка толькі кар'ерыст. Наступленне будзе праводзіцца ў абставінах максімальна набліжаных да баявых, атака весціся ўслед за агнявым валам. Будзе прысутнічаць і рабіць разбор сам камандзір дывізіі.

З лёгкаю душою пайшоў Вялічка рыхтаваць разведгрупу.

Такім чынам, у той час, калі калона, у якой быў і ўзвод Карповіча, фарсіраваным маршам імкнулася да вызначанага рубяжа, каб заняць абарону, бронетранспарцёр Вялічкі сноваў уздоўж рэчак, якія ляжалі на дарозе ў калоны. І разведчыкі заўважылі, дзе рых-

туецца пераправа. Не трэба было ні верталёта, ні далейшых пошукаў. Заставалася толькі чакаць, а потым прасачыць за калонаю.

Калі ўважліва глядзець на карту, то яна можа многа падказаць афіцэру. Толькі пасля таго, як Вялічка ўважліва вывучыў карту, прыйшла яму думка пра разведку. Цяпер, замаскіраваўшыся, ён зноў узяў карту ў рукі.

Вялічка прыглядаўся да ўзгоркаў, да палёў, да вышынь і прыкладна вызначыў, дзе праціўнік павінен заняць абарону.

І Вялічка чакаў. І дзень і ноч назіралі ягоныя разведчыкі, але калоны не было, з'ехалі ад пераправы і сапёры.

Вялічка чакаў. Ён аж халадзеў ад думкі, што, магчыма, калона пайшла другою дарогаю, а тут проста сапёры вучыліся рабіць пераправу. Але мяняць што-небудзь было позна. Заставалася толькі чакаць.

Калона паказалася адвячоркам, чаго Вялічка не чакаў. Падыходзіць да рубяжа, дзе павінна быць занята абарона, удзень вельмі ж небяспечна.

З засады, з узгорачка, Вялічка назіраў, як пераправілася калона, як потым рассыпалася на ротныя, на ўзводныя калоны, рухаючыся да прыкмечаных ім вышынь.

У засадзе Вялічка праседзеў да цемнаты. Калі змерклася, перабраўся ў лес, бліжэй да «непрыяцеля», аднак весці разведку не спяшаўся. Чакаў, калі абарона будзе падрыхтавана хаця б збольшага, каб ведаць, як размешчаны агнявыя сродкі.

Уначы бронетранспарцёр рушыў бліжэй да траншэй.

Абарона была падрыхтавана на прыкмечанай па карце Вялічкам вельмі ж выгаднай вышыні, якую, здаецца, і грэх было абмінуць. І наконт гэтае вышыні ў Вялічкі праклюнулася свая думка: ніводзін камандзір, заняўшы абарону на такой вышыні, не мяркуе, што на

гэтым небяспечным і нявыгадным для наступаючых напрамку можа рыхтавацца прарыў. І таму наўрад ці будзе па-сапраўднаму падрыхтоўваць абарону ў гэтым месцы і большыя сілы сканцэнтруе не тут, а на напрамках, найбольш прыдатных для прарыву.

Вялічка сам ціхенька краўся з разведчыкамі, каб потым у бронетранспарцёры нанесці на карту і на схему падрабязнае размяшчэнне агнявых кропак.

Пяхота, наездзіўшыся і накапаўшыся, спала.

Нячутна перабягалі ад куста да куста разведчыкі.

Вялічка збіраўся ўжо два разы крыкнуць тым самым незямным, слабым голасам начное птушкі — падаць каманду разведчыкам вяртацца да бронетранспарцёра,— як з-за куста, які ён прамінуў, пачуўся ціхі, але ўладарны голас:

— Стой! Хто ідзе?

Глуха кляцнула затворная рама аўтамата.

Вялічка застыў — долі секунды былі на тое, каб знайсці выйсце, каб не прапала прыдуманая ім і амаль закончаная аперацыя. Калі іх тут заўважаць — усё прапала!

— Чаму спіцё на пасту? — камандзірскім патрабавальным голасам запытаўся Вялічка і ступіў да салдата.

Але той не разгубіўся, гучней запатрабаваў:

— Стой! Хто такі?

У гэты ж час нешта глуха шамнула, упаў на зямлю аўтамат вартавога. Вялічка кінуўся на дапамогу. Ягоны разведчык, лежачы на зямлі, адною рукою трымаў рукі вартавога, а другою закрываў пілоткаю рот — каб не крыкнуў.

— Спакойна! — загадаў Вялічка, звязваючы рукі вартавому і прывязаўшы, каб не выплюнуў кляп.

— Ляжы ціха, а інакш занясём у поле і аўтамат забяром. Праляжыш да раніцы і праславішся на ўсю часць,— папярэдзіў Вялічка.

Салдат перастаў выкручвацца, відаць, зразумеў, што адбылося.

Вялічка пастаяў, прыслухаўся. Ціха.

— Таварыш лейтэнант, гэта Рустамаў з другога ўзвода,— прашаптаў салдат, які пазнаў вартавога.

Як спакусліва было забраць вартавога на бронетранспарцёр, прывезці «языка»! Прагрымеў бы Карповіч на ўсю дывізію — гэта той, у якога вартавога ўкралі.

Але зрабіць так Вялічка не мог. І таму ён нагнуўся, нібыта паправіць вузел на вяроўцы, якою звязалі рукі вартавому, і расшмаргнуў яго.

Рустамаў чуў, лежачы, як аддаляліся крокі, як піскнула два разы начная птушка. Праз некаторы час завуркатаў матор, трэснула пад коламі галінка-другая, і ноч праглынула ўсе гукі.

Рустамаў аж застагнаў ад бяссілля і злосці. Значыць, гэта не свой, а чужы матор чуў ён! Цяпер давядзецца ляжаць звязаным да таго часу, пакуль не прыйдзе змена. Ляжаць салдату другога года службы! Ён не думаў і не гадаў, што дажыве калі-небудзь да такога сораму.

Са злосцю Рустамаў напружыўся, сілячыся вызваліцца, хоць і разумеў, што гэта немагчыма, бо не стане сілы парваць вяроўку. Але нечакана рукам стала вальней.

Рустамаў аж упацеў, тузаючы рукамі, пакуль не вызваліў іх. Потым развязаў вяроўку, выплюнуў кляп, штыкнажом разрэзаў вяроўку на нагах, прыслухаўся.

Цішыня. Мірная восеньская ноч.

Рустамаў вобмацкам знайшоў кляп, вяроўкі, скамячыў усё і сунуў пад куст.

А тым часам далёка ад гэтага месца з уключанымі фарамі пераможна імчаў па лесавой дарозе бронетранспарцёр, і разведчыкі смяяліся разам з лейтэнантам, успамінаючы, як лоўка «знялі» вартавога.

— Таварыш лейтэнант, таварыш лейтэнант!

Карповіч прахапіўся.

— Што такое?

— Ротны выклікае, таварыш лейтэнант!

Дзяжурны сувязіст падаў Карповічу трубку.

— Слухаю,— хрыпла сказаў Карповіч і адкашляўся.

— Карповіч, вазьмі карту і нанось маршрут. Праз паўгадзіны быць там, куды мы цябе з камбатам вазілі. Машыны выводзь у лагчыну ціхенька, без святла. Дэсант забраць з сабою да аднаго чалавека. Ты чуеш мяне?

— Так точна.

Карповіч слухаў загад і нічога не разумеў.

— Людзі стомленыя,— сказаў ён у трубку.

— Карповіч, выконвайце загад! Вы там яшчэ не прачнуліся, ці што? — жорстка запытаўся Раманаў.

І гэтае пытанне канчаткова вярнула Карповіча да рэальнасці. Ён загадаў пасыльному:

— Сержантаў і Зелянкова — да мяне!

Калі з'явіліся сержанты, Карповіч адышоў ад сну, і магло здацца, што ён і не спаў. Ён паглядзеў на млявых пасля сну камандзіраў і запытаўся:

— Вам што, марш-рывок зрабіць, каб папрачыналіся? Малодшы сержант Зелянкоў, праз пяць хвілін машыны без святла і без лішняга шуму павінны быць у лагчыне, стаяць калонаю. Гарадь толькі габарытныя агні. Выконвайце!

— Ёсць!

— Таварышы сержанты, праз восем хвілін пасадка на машыны. Праверыць, ці ўсе людзі, зброя. Выконвайце!

Карповіч пайшоў да машын і там чакаў, пакуль прыйдзе дэсант.

Пасля таго, як кожнае аддзяленне пастроілася ля свае машыны і камандзіры далажылі пра наяўнасць людзей і зброі, Карповіч даў каманду: «Да машын!»

Па ўзлеску Карповіч правёў калону ціха, без святла, а калі ўехалі ў лес, дазволіў уключыць святло і павысіць хуткасць.

Было штось рамантычнае ў гэтым неспадзяваным маршы невядома куды і навошта. А можа, стаў бадзёрым настрой пасля кароткага адпачынку, які зняў стомленасць?

Пакуль імчаліся машыны, у дэсантным аддзяленні пагойдваўся і драмаў радавы Рустамаў, які так і не дастояў на варце, быў зняты камандзірам аддзялення і пастаўлены ў строй. Цяпер ён некуды едзе на радасць самому — зрабіўся не патрэбны нікому той ягоны пост, не мела ніякага сэнсу дакладваць пра тое, што здарылася. Так думаў, сонна пагойдваючыся, радавы Рустамаў, хіліла яго на сон, але ўсё ж неспакойна было на душы...

Карповіч добра памятаў дарогу, па якой правезлі яго ўдзень, пазіраў на гадзіннік і не запавольваў ходу калоны — часу ў запасе заставалася не так і многа.

Калі машыны пад'язджалі да ўзлеску, яркае чырвонае вочка ліхтарыка загадала спыніцца.

Машыны асцярожна пад'ехалі да чалавека, які падаў сігнал спыніцца. Карповіч пазнаў камандзіра роты і збоч дарогі ўбачыў ягоную камандзірскую машыну.

Як толькі Карповіч падышоў і далажыў, Раманаў зірнуў на гадзіннік, цыферблат якога свяціўся, энергічна падаў руку. Камандзір роты быў рухавы і быстры, нібы адпачываў добрыя суткі. Карповіч ведаў, што ротнаму на адпачынак выпала мала часу, меней, чым яму самому. І хоць Карповіч адчуваў сябе крыху і бадзёра, але ўсё цела балела. Таму ён паволі падаў руку камандзіру роты, але стрымаўся і не запытаўся, навошта гэты начны марш.

Капітан Раманаў як і не заўважаў марудлівасці камандзіра ўзвода.

— Сержантаў да мяне, Карповіч!

Калі камандзіры аддзяленняў падбеглі і сталі ў адну шарэнгу побач з Карповічам, камандзір роты паведаміў:

— Сёння мы будзем страляць ноччу ўзводам у абароне. Кіраваць стральбою буду я сам, дапамагаць мне — лейтэнант Карповіч. Камандзіры аддзяленняў, вядома, камандуюць на сваіх месцах. Прашу ўлічыць, што стральба залічваецца пры ацэнцы вучэнняў. Мы пасля маршу занялі абарону і тае ж ночы вымушаны былі адбівацца ад праціўніка. Цяпер канкрэтна, што датычыць стральбы. Машыны завярнуць упоперак дарогі, уключыць фары. Камандзірам аддзяленняў атрымаць боепрыпасы і пры святле фараў прасачыць за напаўненнем магазінаў і стужак. Гранатамётчыкам пакласці выстралы ў сумкі і падрыхтаваць іх да стральбы непасрэдна на агнявым рубяжы. Запалы да гранат таксама выдаць на агнявым. На машынах да выхаду на агнявую пазіцыю стужкі ў прыёмнік не ўстаўляць. Парадак выхаду на агнявы рубеж наступны: разам са мною ідуць машыны, потым падыходзіць дэсант з лейтэнантам Карповічам, займае абарону і вядзе назіранне за ворагам у гатоўнасці адбіць атаку. Выконвайце!

Калі машыны завярнуліся папярок дарогі і святло фараў лягло на роўны, пасаджаны радамі пры дарозе сасоннік, Карповіч заўважыў, што побач з камандзірскаю машынаю стаіць крыты брызентам «газік».

Паддубны, у камбінезоне і ў танкашлеме, выдаваў на кожнае аддзяленне загадзя падрыхтаваныя боепрыпасы.

Пры святле фараў салдаты рассцілалі на зямлі плашч-палаткі і набівалі патронамі магазіны. У цішыні чулася сухое кароткае папстрыкванне патронаў. Сал-

даты рабілі работу хутка, перакідаючыся жарцікамі.

Карповіч разумеў іх. Ён і сам быў у прадчуванні нечага незвычайнага і адказнага.

Капітан Раманаў стаяў ля машыны і назіраў за салдатамі.

Карповіч не здагадаўся, чаго капітан пазірае на гадзіннік — часу заставалася даволі. Толькі пасля таго, як да капітана падышоў з дакладам Самхарадзе і капітан сказаў «Малайцы!», Карповіч здагадаўся, што і тут усё было разлічана на хвіліны,— колькі часу патрэбна аддзяленню і ўсяму ўзводу, каб падрыхтавацца да стральбы.

— Карповіч, пастройце ўзвод ля дарогі. Павядзяце яго за намі. Экіпажы — да машын! — нечакана молада і весела загадаў капітан Раманаў.

Карповіч пастроіў узвод, глядзеў, як рушылі ягоныя машыны ўслед за камандзірскаю.

— Узвод, напра-ва! Шагам марш! — загадаў Карповіч, і невялікая ўзводная калона рушыла ўслед за машынамі.

Як выйшлі з лесу, здалося, што ноч пасвятлела. І неба было не такое і чорнае, а нейкае глыбока-сіняе, густое. У полі ўгадваліся абрысы вежы, тае самае, якую паказвалі Карповічу ўдзень камбат з ротным. Машыны, мабыць, занялі пазіцыі, бо цішыня была такая, што, здавалася, калі скажаш хоць слова, голас твой пачуюць на другім баку зямлі, бо менавіта там, на другім баку, і канчаецца гэтае поле...

Ходка ішоў узвод.

Карповіч узіраўся ў поле і ў цемені хоць і невыразна, але заўважаў накапаныя брустверы акопаў і траншэй. Калі падышлі бліжэй, сталі бачныя і габарытныя агеньчыкі машын.

Карповіч скамандаваў заняць пазіцыі і, стоячы, назіраў, як рассыпаліся аддзяленні, займаючы свае месцы.

І зноў стала ціха, спакойна ляжала цеплаватае і не астылае яшчэ поле, быццам цешылася, песцілася апошняю пяшчотаю перад глухімі і бясконцымі восеньскімі дажджамі.

Над полем суха, бы ў холад ці ў мароз, свяціліся далёкія зоркі, і здавалася, што гэта ад іхняга святла не такая глухая і чорная ноч.

Карповіч прайшоў па траншэі ад аддзялення да аддзялення, нагінаючыся, каб не было відаць галавы над брустверам. Ён заўважыў, што гэтак ходзяць і салдаты, хоць кожны ведаў, што з поля не прыляціць ніводная куля, што не будзе адтуль стрэлаў. Але хадзілі нагнуўшыся, нібы з крывёю бацькоўскаю перадалася ім гэтая звычка.

Салдатам раздалі запалы, ля гранатамётчыкаў ляжалі гатовыя выстралы.

Карповіч перабег да акопчыка за траншэяй, дзе сядзеў капітан Раманаў, і далажыў, што ўзвод да стральбы гатовы.

Камандны акопчык прасторны, нават з лавачкаю, зробленаю са старое снараднае скрынкі. На лавачцы стаяў палявы тэлефон.

Капітан Раманаў пакруціў за ручку, узяў трубку, счакаўшы, калі на другім канцы провада паднялі яе, сказаў:

— Вераб'ёў, у мяне гатова. Чакаю.

Потым спытаўся ў радыста:

— Сувязь з машынамі нармальная? Што ж, будзем чакаць,— сказаў Раманаў, нібы растлумачыў Карповічу, што трэба рабіць.

Цішыня панавала ў полі, і здавалася, што нічога нельга тут дачакацца... І ўсё ж трывога жыла ў сэрцы ад думкі, што нешта жывое і невядомае, нават, можа, і небяспечнае, прытаілася ў полі і падкрадваецца, падкрадваецца...

Карповіч прыслухаўся, намагаючыся першым пачуць

самы нязначны гук з поля. Але нічога не было чуваць, толькі горача пастуквала ў скронях кроў.

Капітан Раманаў, здавалася, драмаў.

І ўсё ж не Карповіч, а Раманаў першы пачуў пачатак. Карповіч толькі тады насцярожыўся, калі Раманаў падхапіўся, надзеў на галаву каску, другую падаў Карповічу і ўключыў узводную рацыю.

Карповіч яшчэ не зусім разабраўся, што да чаго, як побач шуганула ўгору ракета.

Пры яе нечакана яркім і мігатлівым святле, як на невялікай круглай сцэне, зрабілася відаць усю абарону і абрысы танкаў, якія імкліва набліжаліся з цемры да акопаў. Ужо з траншэй ірвануліся ўгору дзве ракеты, пачуліся глухія галасы каманд. Капітан Раманаў гучна, што, здавалася, пачулі яго каманду і ў акопах, загадаў па рацыі камандзірам аддзяленняў:

— Гранатамётчыкам знішчыць танкі!

Толькі цяпер Карповіч заўважыў, як выглядвалі з-за бруствераў насустрач танкам драпежныя вострыя насы гранат.

Танкі імчаліся да траншэй. Адна за адною ўзляталі ракеты і асвятлялі поле.

Клубком успыхнуў агонь у адным акопе, асвятлілася постаць салдата.

Першая вогненная камета пранізала танк, яго не стала, толькі рассыпаліся на тым месцы чырвоныя іскры. Адзін за адным ударылі яшчэ два гранатамётныя стрэлы — і зноў выбухнулі два гарачыя кусты іскраў на тым месцы, дзе толькі што ішлі танкі.

Ледзь толькі ўспелі гранатамётчыкі расстраляць танкі, як за імі замільгалі ў полі роўныя густыя агеньчыкі стрэлаў. Загучалі каманды ў акопах. Капітан Раманаў нешта загадаў радысту, і амаль адразу ж гулка, як у бубен, ударылі кулямёты з машын.

Поле засвяцілася не толькі ад ракет, але і ад трасірных куль, якія загулялі над ім, быццам нехта снаваў

дзівосны ўток з неонавых струменяў. І гэтыя струмені лопаліся, узляталі ўгору, нядоўга гарэлі ў небе лятучымі зоркамі.

«Бу-бу-бу-бу»,— няспынна, як цецерукі, такавалі кулямёты на баявых машынах. Яны не скончылі такавання, калі ў страляніну ўвязаліся кароткія злосныя чэргі з аўтаматаў. Чуліся каманды сержантаў у акопах, нешта загадваў і падказваў па радыёстанцыі капітан Раманаў, і Карповіч спачатку не здагадваўся, уражаны нечаканым відовішчам, што ўся гэтая баталія паслухмяна капітану Раманаву. Абарона дакладна і хутка выконвала ягоныя каманды. Для Раманава ўсё дзеялася ў полі па парадку, не было неразбярыхі, як гэта спачатку здалося Карповічу.

Агеньчыкаў, якія спачатку ўспыхвалі здаля, стала безліч, яны мігатліва набліжаліся да траншэй.

І амаль адразу ж, пасля каманды капітана Раманава, пасля тых каманд, якія падавалі сержанты ў акопах, насустрач агеньчыкам запульсавалі чэргі, поле напоўнілася несупынным стракатаннем аўтаматычнае зброі, нібы шылі на велізарных швейных машынах. І агеньчыкаў рабілася ўсё менш і менш, але яны прарываліся праз вогненную заслону і ўжо нішто не магло спыніць іхні рух.

— Падрыхтаваць гранаты! Гранатамі — агонь! — крыкнуў у радыёстанцыю Раманаў. Па акопах пракацілася таксама:

— Падрыхтаваць гранаты! Гранатамі — агонь!

І тыя агеньчыкі, якія амаль зусім «дабеглі» да траншэяў, закрыла сцяна гранатных выбухаў. Тонка, жаласліва заспявалі ў паветры асколкі.

Адзін з іх зверху лёгенька палаsnуў па касцы Карповіча, нібыта хацеў пагладзіць яе.

Зрабілася ціха.

Карповіч асцярожна выглянуў з акопа.

Пасля ўсяго грому, які, здавалася, ушчэнт расшку-

4*

матаў ноч і цішыню, зрабілася зноў ціха і да чорнага цёмна пасля святла ракет. Толькі тлелі ў полі там-сям чырвоныя агеньчыкі, удушліва, востра пахла парахавым дымам пасля выбухаў.

Гудзела ў вушах.

Карповіч адчуў, што ўпацеў і стаміўся, хоць сам і не камандаваў. Здавалася, што ўсяе гэтае страляніны было толькі некалькі хвілін.

Капітан Раманаў выключыў радыёстанцыю, скінуў каску, дастаў цыгарэту, прыкурыў толькі ад другое запалкі, запытаўся ў Карповіча:

— Ну як? Ты ж назіраў. Стралялі быццам добра.— І зірнуў на фасфарычны цыферблат гадзінніка.

— Нармальна.

Потым нахіліўся да радыёстанцыі, даў камандзірам аддзяленняў загад разрадзіць зброю і чакаць далейшых каманд.

Пакрысе вочы прывыклі да цемнаты.

Карповіч толькі цяпер заўважыў, што над, здавалася, бязлюднаю вежаю свяціўся чырвоны ліхтар.

Капітан Раманаў перахапіў ягоны позірк, узяў тэлефонную трубку, далажыў:

— Вераб'ёў! Я скончыў. Не, у мяне яшчэ адзін узвод астаўся.

Потым капітан Раманаў паслухаў, што яму гаварыў невядомы Карповічу Вераб'ёў.

— Кіраўнік гаворыць, што пападанне ў мішэні добрае. Калі не выдатна, то чацвёрка гарантавана. Яшчэ Каленчукоў узвод застаўся. Ты правер перад пасадкаю, ці зброя разраджана. Астаткі боепрыпасаў здайце старшыне. Пазіцыю займайце скрытна, акопы дарабіце і будзьце гатовымі да бою...

— Таварыш капітан, людзі амаль што другую ноч не адпачывалі.

Карповіч не мог і падумаць, што пасля стральбы не будзе людзям адпачынку.

Капітан Раманаў як і не пачуў Карповічавых слоў.

— Вынікі стральбы аб'яўлю заўтра і адзначым лепшых. Я сёння буду яшчэ ў вас. І барані вас бог, каб пабачыў сонны лагер замест падрыхтаванае па ўсіх правілах абароны!

Капітан Раманаў завярнуўся і пайшоў да свае машыны. Было відаць, як яна памчалася па полі да лесу — сустракаць узвод Каленчука.

— Узвод — да мяне!

Карповіч стаяў збоч строю, чакаў, пакуль сержанты правяралі, ці разраджана зброя. Ён адчуваў сябе вінаватым перад людзьмі, што пасля стральбы не можа дазволіць ім адпачыць. Ён быў упэўнены, што не было ніякае патрэбы рабіць стральбу адразу пасля маршу, у адну ноч з падрыхтоўкаю абароны...

Карповіч ужо быў гатовы даць каманду садзіцца ў машыны, як хтосьці з салдатаў запытаўся:

— А як стральба прайшла, таварыш лейтэнант?

— Сама мала — на чацвёрку, а можа быць, і выдатна.

— Здарава!

— А Бабаеў як па танках біў! Два танкі!

— Танкі ўсе падбіты.

— Дзе ўсе? Адзін не.

— Як гэта не? Усе!

— Трэба ж палічыць яшчэ, колькі кулямётаў знішчана, раставых, грудных мішэняў...

Карповіч разгубіўся: гэтак нечакана і шчыра-радасна загаварылі пра стральбу салдаты, і ніводзін не ўспомніў пра адпачынак. Ім галоўнае было, як кожны страляў...

Карповіч не перапыняў салдатаў, слухаў іхнюю гаворку, спрэчкі. Падумаў: добра, што не ўспеў суха і злосна аддаць каманду на пасадку ў машыны.

— Усё. Хопіць мітынгаваць! Усе снайперы! — знарок бадзёра і весела загадаў ён.

Калі калона кранулася, Карповіч чуў, што дэсант не сядзеў спакойна — салдаты ўсё яшчэ абмяркоўвалі начную стральбу, спрачаліся, хто што знішчыў...

Калі машыны падышлі да вышыні, Карповіч спешыў дэсант, без агнёў вывеў машыны да акопаў, паставіў салдатам задачу — удасканальваць абарону.

— Яшчэ раз папярэджваю! Асабіста буду правяраць, што зроблена. Таварышы сержанты, самы строгі кантроль за работаю!

Карповіч злавіў сябе на тым, што загад аддае так, быццам сам перакананы, што свет закруціцца ў іншы бок, калі загаданае не будзе выканана.

Ціхенька сталі на сваё месца машыны, рассыпалася па траншэях пяхота, зноў зашоргалі рыдлёўкі, выкідаючы пясок, які аплываў на дно траншэй.

Карповіч сядзеў ля тэлефаніста, які лежачы не то драмаў, не то прыслухоўваўся да тэлефона. Сну не было. Той кароткі сон, аказалася, задаволіў патрэбу ў ім, хоць раней здавалася: каб выспацца, мала будзе і сутак.

— Таварыш лейтэнант!

Прымак падышоў да камандзіра ўзвода.

— Што такое?

— Таварыш лейтэнант, мне Рустамаў далажыў, што перад выездам на стральбу тут нейкі бэтээр ездзіў. Калі Рустамаў запытаўся, хто такія, яго звязалі!..

— Нічога сабе стараслужачы! Чаму мне адразу не далажылі?

— Мы ж на стральбу адразу паехалі. Рустамаў думаў, што больш не вернемся сюды.

— Думаў!.. Менш трэба думаць, а выконваць патрабаванні статуту!

Карповіч не заўважаў, што паўтарае амаль тое ж, што яму некалі гаварыў начальнік штаба і што ён не мог прыняць душою.

— Не хапіла толькі, каб звезлі яго за языка! Сорам! У абароне вартавога ўкралі!

— Што рабіць, таварыш лейтэнант?

— Ідзіце і прасачыце, каб акопы былі выкапаны як след!

— Тут нешта не так, таварыш лейтэнант...

— Ідзіце, таварыш сержант!

Карповіч уявіў, як будзе дакладваць капітану Раманаву пра здарэнне. Той толькі нядаўна папярэджваў, каб замест абароны не было соннага лагеру.

Прымак, які затрымаўся на некалькі секунд, суха сказаў: «Ёсць!» — і пайшоў.

Урэшце, Карповіч сам можа разабрацца са сваім узводам. Карповіч, мабыць, прыдрамаў крыху, седзячы ля сувязіста, бо калі прахапіўся, пасвятлела ноч. Амаль незаўважным святлом пазначылася неба на ўсходзе. Карповіч з палёгкаю ўздыхнуў — павінен жа быць нарэшце канец і гэтай бяссоннай ночы.

Дзе-нідзе шоргалі яшчэ рыдлёўкі, некаторыя ж салдаты спалі ўжо, закончыўшы работу.

Камандзір роты яшчэ не прыязджаў.

Карповіч зноў прайшоў уздоўж траншэй, глыбокіх, выкапаных у поўны профіль, з акуратна замаскіраванымі брустверамі. Нават не верылася, што людзі маглі за ноч гэтулькі перавярнуць зямлі!

Майбах таксама выкапаў сабе акоп, спаў пры ім пад кусцікам, скруціўшыся клубочкам, каб было цяплей.

У акопе кулямётчыка Свірыдава сядзеў худзенькі і маленькі ўралец Кастрамін. Абодва нахіліліся над шахматамі — і не заўважылі, калі падышоў камандзір. Магло быць, што канчалі яны партыю, пачатую яшчэ ў казарме, перад трывогаю.

Крыху далей ад траншэі чуўся вясёлы смех і галасы.

Калі Карповіч падышоў бліжэй, здзівіўся: амаль дзве трэці ягоных салдатаў не спала. Ля хвойкі, патурэцку падкурчыўшы ногі, сядзеў чарнявы, круглатва-

ры салдат са смешным прозвішчам Коньчык і чакаў, пакуль аціхне смех, каб расказаць чарговую небыліцу з серыі тых «быляў», якіх ён ведаў процьму, а хутчэй за ўсё выдумляў сам.

Коньчык заўважыў Карповіча і пажартаваў:

— Ну а зараз у акопы, а то перападзе нам — на наш смех начальства з двух бакоў збіраецца!

Карповіч і сам пачуў матор бронетранспарцёра і пайшоў насустрач яму.

Камандзір батальёна прывітаўся з Карповічам за руку, паведаміў, што ўзвод адстраляўся на «выдатна».

Карповіч адказаў, што ў гэтым не яго заслуга, што ўзвод да стральбы рыхтаваў капітан Раманаў.

— А ты радуйся за тых, хто страляў. Аднаасобнік знайшоўся. Паказвай абарону. Я пагляджу, што ты тут заслужыў,— не то пажартаваў, не то папярэдзіў камбат.

Карповіч з Раманавым ішлі следам.

— Парадак у цябе тут,— скупа пахваліў Карповіча Раманаў.— Нядрэнныя ў цябе салдаты.

— Талковыя,— згадзіўся Карповіч. Пахвала Раманава прыдала крыху ўпэўненасці ў самім сабе і гаварлівасці.— Толькі ўсё гладка не сходзіцца. Сёння аднаго старaслужачага звязалі на пасту.

— Як звязалі?

— Бэтээр тут нейкі круціўся. Мабыць, разведчыкі.

— Каго звязалі?

— Рустамава.

— Зараз жа сюды Рустамава! Калі гэта было?

— Перад выездам на стральбу.

— Чаму мне не далажылі? Ладна, за гэта я ў вас яшчэ спытаюся! Рустамава сюды!

Капітан Раманаў так хутка задаваў пытанні, так устрывожыўся, што Карповіч адчуў сваю віну.

— Я не думаў, таварыш капітан...

— Цяпер позна думаць. Часу мала засталося.

Камандзір роты дагнаў камбата, і пакуль Карповіч,

знарок не спяшаючыся, падышоў да камандзіраў, камбат гаварыў злосна, а капітан Раманаў толькі паўтараў кароткія: «Не, таварыш маёр!». «Так точна». «Вінаваты».

Потым абодва нахіліліся над картаю, капітан Раманаў пачаў нешта тлумачыць камбату. Той потым нешта загадаў камандзіру роты, а сам, на хаду зашпільваючы сумку і не звяртаючы ўвагі на Карповіча, пашыбаваў да бронетранспарцёра.

— Ідзіце сюды, таварыш лейтэнант!

Капітан Раманаў быў стрыманы і карэктны, быццам Карповіч ва ўсёй гэтай гісторыі быў ні пры чым.

— Зараз пакідаеце на пазіцыі ўзвода чалавек трохчатырох змысных салдат. Яны павінны паказвацца ў розных месцах, быццам у траншэях цэлы ўзвод. Сам узвод і машыны пераводзіце за лагчыну, на той парослы кусцікамі ўзгорачак,— капітан паказаў улева ад пазіцыі.

— Я ж гаварыў: на чорта было капаць тут!

— Я добра памятаю, што вы мне гаварылі! На вашым месцы цяпер лепш маўчаць. Я пакуль што не пытаюся, чаму мне не дакладзена, што ваша сістэма абароны разведана праціўнікам, з-за чаго пастаўлена пад удар выкананне баявое задачы батальёнам!

Раманаў паглядзеў на Карповіча строгім і халодным позіркам.

— Каб выратаваць сябе і батальён, лепш пастарайцеся дакладна выканаць тое, што я вам загадаю. Паўтараю: пакуль не развіднела — заняць вышыню злева, замаскіравацца. Самае галоўнае цяпер — успець замаскіравацца. На выпадак удачы: агонь пачынаць, калі наступаючыя падставяць вам фланг. Я дам сігнал на адкрыццё агню.

— Ёсць, таварыш капітан!

— Выконвайце. Разбірацца будзем пасля.

Толькі калі капітан адышоўся, Карповіч падумаў: а што б было, каб зусім нічога не далажыў пра здарэнне з Рустамавым? Ён яшчэ не разумеў, што здарылася, але адчуваў — нешта сур'ёзнае. Але ж факт і тое, што Карповіч сказаў праўду — марна салдаты гэтулькі зямлі перакапалі.

## РАЗДЗЕЛ 11

Машыны нячутна адышлі да лесу, па ўзлеску паспрабавалі зайсці на вышыню, але за ёю, аказалася, цёк невялічкі крынічны ручаёк. На карце на яго і ўвагі не звернеш. А на самай справе крыніцы так размылі і забалоцілі лагчыну, што з машынамі не патнешся.

З-за гэтага давялося машыны выводзіць на вышыню па полі, спадзеючыся толькі на тое, што непрыяцель не заўважыць гэтага. Цяпер, калі пачалася перадыслакацыя, павольны ранішні досвітак здаўся вельмі кароткім і імклівым.

Ды і кусцікі на вышыні, якія здаваліся здалёку густымі і высокімі, былі рэдзенькія і маленькія. У іх з горам папалам магла прытаіцца пяхота, а машыны схаваць было немагчыма.

Карповіч успомніў той позірк капітана Раманава на яго і падумаў, што не выканаць загад нельга.

Карповіч з сумам паглядзеў на сваю першую вышыню, дзе столькі ўкладзена работы, дзе цяпер нічога нельга заўважыць і самому.

Ён прыняў адзінае на яго погляд правільнае рашэнне: пяхоце загадаў замаскіравацца, катэгарычна забараніў уставаць і перапаўзаць з месца на месца.

Машыны загадаў адвесці на другі схіл вышыні, замаскіраваць галінкамі і не рухацца без ягонае каманды. Але з-за гэтага ўзвод пазбаўляўся магутнае агнявое падтрымкі, якую маглі даць машыны.

Мабыць, недзе пераваліўся з-за небакраю, слізгануў па зямлі першы сонечны прамень. У лагчыне ля самае зямлі, быццам вадкасць, заварушыўся туман. І ў полі над кусцікамі мясцінамі слаба паплылі кволыя пасмачкі — нібы пара над зваранаю бульбаю. Прыкметны гэтыя пасмачкі былі, калі глядзець на іх, лежачы на зямлі. Усё роўна як ціхенькім, незаўважным агеньчыкам выгарала і слабенька дымілася высахлая восеньская трава.

Карповіч з ног да галавы вымак ад расы, пакуль сам праверыў, як замаскіраваўся ўзвод.

Ягоны камандны пункт размяшчаўся за ланцугом, бліжэй да вяршыні ўзгорка, каб бачыць сваю абарону і назіраць у поле, адкуль павінен паказацца «непрыяцель».

Карповіч стаміўся. Хацелася прытуліцца тварам да вільготнае травы. Карповіч не вытрымаў, ашмаргнуў з маладога бярозавага атожылка жменю тоненькіх галінак і мокрым лісцем выцер твар.

Цёплаю і мяккаю здавалася натомленаму целу сухая і жорсткая зямля. І як многа выпетралае травы, хоць, здалёку гледзячы, здаецца, што трава ўся зялёная, стракатая ад кветак. І кветак нямнога, але яны, ярка-жоўтыя, ружовыя, здалёк кідаюцца ў вочы, і таму здаецца, што так пышна цвіце яшчэ зямля.

Апошнія яркія колеры...

— Таварыш лейтэнант, ротны...

Сувязіст падаў трубку.

— Я кола-два! Прыём.

— Ніякіх акопаў і ніякага капання! — загадаў капітан Раманаў. Ён крычаў у трубку, і таму здавалася, што ён пад'ехаў бліжэй да размяшчэння ўзвода. Слухаючы ягоныя забароны і пра тую кару, якая спасцігне, калі ён не выканае загад, Карповіч прыўзняўся на локці, агледзеў абарону. Узвод замаскіраваўся няблага.

— Кола! Я памятаю загад і тое, што павінен яго выканаць! Прыём.

Карповіч адказаў рэзка, з пачуццём свае годнасці. Нібы ён нічога не разумее, пачне акопвацца, калі на дварэ стала відна, як удзень. Добра, што і адну вышыню перакапаў.

— Выконвайце! — закончыў размову капітан Раманаў.

Карповічу ўжо не хацелася ляжаць ціха, заплюшчыўшы вочы. Ён узяў бінокль і пачаў узірацца ў поле.

Мірна пакуль што было ў полі. Толькі ўдалечыні гэты самы малы туманок, які віўся над зямлёю, мабыць, згушчаўся. І таму далечыня засланілася сіняватаю смугою. Здавалася, што і няма гэтае смугі, што гэта так выглядае бясконцая палявая далячынь. Але Карповіч памятаў, што далечыня не бясконцая, што яна абмежавана вострым зубчастым берагам лесу.

Ад таго лесу за падманліваю сінечаю і можна незаўважна пераехаць палавіну недаступнага і страшнага сваёю адкрытасцю поля.

Цяпер Карповіч разумеў, чаму падганяў яго камандзір роты. Наступленне абавязкова пачнецца раніцою, зараз.

Стралок-зянітчык, віхрасты, самавіты салдат Манкевіч, які выконваў пры Карповічу ролю пасыльнога і ахоўніка паветранае прасторы і які дасюль нібыта і драмаў, соладка выцягнуўшыся на зямлі, прыпадняўся, нават прысеў, як суслік, які пачуў небяспеку...

Карповіч задраў галаву і заціх таксама, як і салдат, навастрыўшы вушы. Зірнуў у поле. Нічога не відаць і нічога не чуваць.

— Ідуць, родненькія! — шырока, на ўвесь рот усміхнуўся Манкевіч.

І тады Карповіч таксама пачуў густы, напорысты гул. Але ў полі нічога не перамянілася.

Манкевіч заўважыў, што лейтэнант не разумее, што здарылася, растлумачыў:

— Самалёты! — І гучна скамандаваў: — Паветра!

Карповіч ужо і сам здагадаўся, адкуль гэты гул. Ад яго гатова была раскалоцца зямля, захадзіла, нібы хвалі ў шторм, паветра над зямлёю. Карповіч затуліў рукамі вушы, бо здалося, што не вытрымаюць перапонкі.

А Манкевіч з радасцю, усміхаючыся, як лепшым сваім знаёмым, глядзеў на самалёты. Вочы яго прыжмурваліся, усё роўна, як ён лавіў у прыцэл адзін з іх, той, што заходзіў на пікіраванне.

У ранішнім паветры, пазалочаныя раннім сонцам, быццам гіганцкія рыбіны, купаліся самалёты. Лёгка і імкліва машыны пераварочваліся ў паветры і пабліскалі белымі жыватамі, як акулы на здабычу, зрываліся яны да зямлі і зноў узмывалі ў паветра...

Здавалася, не будзе гэтаму канца і нельга вытрымаць усё, што тварылася над зямлёю.

Але гул гэтак жа імкліва, як і наляцеў, пачаў аддаляцца, засталося ад яго ўдалечыні толькі роўнае напружанае гудзенне, а потым і цішыня, у якую ўжо не верылася і якое не магло застацца над зямлёю.

Потым пачулася далёкае гудзенне, але ўжо на зямлі, у полі за тумановаю смугою.

— Ну, што ж яны маўчаць?

Карповіч глянуў на Манкевіча, які сцяўся і зморшчыў твар, нібы ў яго забалелі зубы, і чакаў нечага. І дачакаўся. Паветра суха лопнула, скаланулася, зрушыла зямля і дала трэшчыну.

У полі, закрыўшы ранішнюю намітку сінечы, устала сцяна гіганцкіх чорных кустоў.

Манкевіч сцяўся і прытуліўся да зямлі.

Не ўспелі апасці на зямлю кусты першых выбухаў, як зноў скаланулася паветра, уздыбіўшы новыя. А по-

тым у полі нічога нельга было разабраць, толькі скаланалі зямлю выбухі, і яна калацілася, як калоціцца балота.

Страшнае відовішча!

Але самае дзіўнае, што чорная сцяна выбухаў набліжалася. Спачатку здавалася, што гэта распаўзаецца чорны дым. Але, прыгледзеўшыся, Карповіч заўважыў, што выбухі падыходзяць бліжэй да іхняе абароны, знішчаючы ўсё па дарозе.

Над зямлёю пацямнела, неба зацягнулася чорнаю наміткаю.

Карповіч убачыў, што і многія салдаты з ягонага ўзвода трывожна паварочваюць галовы і пазіраюць сюды, на камандны пункт, быццам чакаюць, калі ён дасць каманду адступаць.

Манкевіч таксама трывожна пазіраў то на чорную сцяну выбухаў, якія калацілі зямлю, быццам землятрус, то на камандзіра.

Карповіч усміхнуўся. Тое першае ўражанне, якое зрабілі на яго самалёты і першыя артылерыйскія залпы, прайшло. Ён крыкнуў Манкевічу:

— Гэта называецца агнявы вал! А пяхота наступае ўслед за ім! Мы таксама пападзём калі-небудзь у такое наступленне.

Выбухі набліжаліся. На нейкі момант здалося, што артылерысты памыліліся, чорная сцяна смерці насунецца на пазіцыі, якія займаюць салдаты. Нават здрадлівая думка мільгнула: ■ можа, артылерысты і не ведаюць, што ягоны ўзвод змяніў пазіцыю, і тое месца, дзе ён зараз, на карце ў артылерыстаў — зона абстрэлу? Успомніліся тыя акопы, якія былі выкапаны за ноч. Можна ўспець дабегчы яшчэ да іх...

Карповіч аж прыўзняўся на локці, нібы мог падняцца і даць каманду.

Выбухі нечакана сціхлі. Толькі чорна і цяжка, нібы вялізныя мядзведзі, варушыўся, расплываўся дым.

А за дымам, блізка ўжо, былі відаць густыя ланцугі пяхоты. Удалечыні прыкметны машыны, якія ішлі ўслед за дэсантам ад узгорка да ўзгорка, ад лагчынкі да лагчынкі.

Карповіч падумаў, што і ротны недзе назірае за наступленнем. Капітан Раманаў нібыта толькі і чакаў, каб пра яго ўспомніў Карповіч. Сувязіст паклікаў:

— Таварыш лейтэнант, ротны...

Карповіч усміхнуўся, успомніўшы, як пад час налёту сувязіст ляжаў на зямлі, прыціснуўшы да вуха трубку.

Карповіч адказаў камандзіру роты.

Хрыплаваты, ужо сарваны голас Раманава крычаў:

— Без майго сігналу не страляць! Зразумеў? Не страляць! Не страляць, пакуль не падставяць нам флангі! Зразумеў?

Карповіч разумеў хваляванне камандзіра роты. Удар на прарыў праціўнікам быў засяроджаны на тое месца, дзе ноччу займаў абарону Карповічаў узвод і дзе цяпер знарок перабягалі па траншэі пакінутыя там салдаты, ствараючы ўражанне, што ідуць апошнія падрыхтаванні да адпору атакі. Калі праціўнік нічога не заўважыць, то падставіць флангі пад агонь...

Ланцуг набліжаўся да вышыні. Несупынна трашчалі аўтаматы, было відаць, як некаторыя салдаты пачалі расшпільваць гранатныя сумкі.

З каманднага пункта капітана Раманава ўзляцелі ўгору тры чырвоныя ракеты.

І адразу ж з правага боку ўдарыў густы аўтаматна-кулямётны агонь, і Карповіч, спяшаючыся, каб не адстаць, махнуў рукою, таксама даў каманду:

— Узвод, агонь!

Кусты на вышыні ажылі, запаласкалі вогненнымі струменямі.

Па радыёстанцыі Карповіч даў каманду машынам выйсці на агнявы рубеж. І праз некалькі хвілін густа забубнілі вежавыя кулямёты.

Для наступаўшых такі паварот быў нечаканы. Знішчальны агонь па флангах прыціскаў да зямлі. Ланцуг змяшаўся ў кучу, салдаты пачалі залягаць і акопвацца.

У неба ўзляцела чырвоная і белая ракеты, і Карповіч молада і весела, на поўныя грудзі закрычаў, падхапіўшыся з зямлі:

— Узвод! Наперад, у атаку!

Адначасова ў контратаку перайшлі з правага флангу і той запасны ўзвод, які камбат на ўсякі выпадак сканцэнтраваў непадалёку ад старых пазіцый Карповічавага ўзвода...

## РАЗДЗЕЛ 12

Тым часам, калі ішла артылерыйская падрыхтоўка, а пяхота следам за агнявым валам набліжалася да абароны «праціўніка», лейтэнант Вялічка стаяў ля ўзлеску ля сваіх машын, замаскіраваных у кустах і гатовых у любое імгненне кінуцца на дапамогу туды, куды загадае камбат. Тое, што ён застаўся камандаваць рэзервным узводам, Вялічка лічыў не за пакаранне, а за ўзнагароду.

Вялічка дакладваў пра разведку не толькі камбату, але і камандзіру палка, выказаў меркаванне, што праціўнік не будзе чакаць галоўнага ўдару па такой моцнай абароне.

Дакладваючы, Вялічка меў права ганарыцца, таму што начальнік разведкі не мог нічога і падобнага далажыць, толькі ўстаўляў сваё:

— Згодна нашым назіранням, звесткі пацвярджаюцца...

— І нашы назіральнікі схіляюцца да такога вываду...

Камандзір палка не вытрымаў:

— Перастаньце падтакваць, калі самі нічога не змаглі разведаць!

Начальнік разведкі пачырванеў і больш не ўстаўляў сваіх падтакванняў, пакуль Вялічка не скончыў.

Цяпер Вялічка бачыў, што наступленне ідзе, арыентуючыся на ягоныя звесткі.

З узгорачка добра было відаць, як імкліва ішоў ланцуг услед за сцяною выбухаў да таго часу, пакуль не прапала яна.

Першае адчуванне трывогі з'явілася ў Вялічкі, калі ён, назіраючы ў бінокль, зразумеў, што па ланцугу не адкрыты агонь у той час, калі ён стаў дасягальны для кулямётаў. Пры такой насычанасці ланцуга нельга не пачаць страляць, не мае ніякага сэнсу падпускаць упрытык да самых траншэяў.

Тады нібы хто ўзяў за руку і павёў бінокль управа, на непрыкметную вышыньку злева ад тае, дзе ноччу рабіў разведку Вялічка. З-за ўзгорка віднелася вежа баявое машыны. Уважліва павёўшы біноклем па кустах, Вялічка спрабаваў угледзець людзей, хоць чалавека ў адзенні ахоўнага колеру на такой адлегласці не ўбачыш. Ды не было патрэбы і бачыць чалавека. На сонцы паблісквала зброя.

Ударная група ўваходзіла ў засаду, пад флангавы агонь.

Выратаваць становішча мог толькі цуд, але цудаў не бывае не толькі на вайне, але і на манеўрах...

Выйсце адно: ударыць збоку па вышыні, дзе толькі што заўважыў салдатаў, не даць ім адкрыць флангавы агонь.

Вялічка быў ужо ў машыне, даў каманду заводзіць маторы.

Ён нутром адчуваў, што толькі ён адзін можа выратаваць наступленне. А інакш усё задуманае і падрыхтаванае ім рассыплецца, як сухое лісце па ветры.

Не даць, не выпусціць удачы!

Дакладваць камандзіру батальёна — толькі траціць дарагі час.

— За мной! Наперад!

Тры машыны, як стрэлы, сарваліся з месца і, выцягнуўшыся кароценькаю калонаю, паляцелі па полі. Захапляюча і трывожна глядзець, як імчацца баявыя машыны,— быццам не кранаюцца гусеніцамі долу, быццам нішто іх не можа спыніць!

Калі праехаць крыху ўздоўж лесу, а потым ірвануць напрасткі цераз поле, можна ўспець і нечакана ўдарыць па праціўніку з тылу. Сама вышыня закрывае манеўр, дапамагалі і альховыя кусцікі, якімі зарос невялікі ручаёк.

Ціха, нядобра ціха было пакуль што ў полі.

Машына нечакана збавіла ход, механік па перагаворным трывожна паведаміў:

— Таварыш лейтэнант, наперадзе...

Вялічка і сам бачыў, што наперадзе нешырокі раўчук. Нават каб наперадзе было мора, то і яно б не спыніла яго — не выпусціць бы з рук удачу.

— Поўны наперад! Наперад!

Як сцебанутая пугаю, машына рванулася, затрубіла маторам, гатовая пераляцець цераз перашкоду.

Вялічка ўспеў адчуць, што машына лёгка правалілася ўніз. У той жа час страшная сіла хапіла лейтэнанта і кінула цераз ручай. Апякло шчаку, і вострым пякучым болем пранізала бок...

Самлеў Вялічка, мабыць, на нейкую хвіліну, усхапіўся, уграз амаль па калена, правёў рукою па шчацэ. На руцэ засталася гразь, перамяшаная з крывёю. Ад таго, што неасцярожна паварушыў рукою, кальнула ў бок, перацяло дыханне.

Машына сядзела па самыя люкі ў гразі, смярдзела глеем.

За вышынёю было яшчэ ціха.

Кінуцца яшчэ туды!..

Але адразу ж позірк яго спыніўся на механіку, які нерухома ляжаў на беразе ручая. Вецер паварушваў

яго бялявыя валасы. Танкашлем ляжаў пад галавою, а на гразі выразна азначыліся разоркі, якія пакінулі ногі механіка, калі яго выцягвалі на бераг.

Цяпер канец. Смерць механіка закрэслівала калі не ўсё жыццё, то ўсю Вялічкаву службовую кар'еру.

Вялічка сеў на зямлю.

Другая машына таксама ўгразла. Трэцяя стаяла на тупкім, і камандзір з аператарам беглі да другой. Сам жа аператар з другой на Вялічкавай машыне бінтаваў твар свайму калегу-аператару. Той сядзеў, адкінуўшыся плячыма да вежы, стагнаў і курчыўся ад болю, а белы бінт, якім Шаранок забінтоўваў яму твар, чырванеў ад крыві.

Кончыўшы бінтаваць, Шаранок угледзеў Вялічку, здзіўлена спытаўся:

— А вы дзе былі? Ой, зараз перавяжу вас!

Шаранок саскочыў з машыны.

— Што з Яцковым? — запытаўся Вялічка пра механіка.

— Жывы, таварыш лейтэнант, жывы. Дыхае.— Шаранок калісьці вучыўся на фельчара, але не давучыўся.— А Федзя ўсю люльку расхвастаў сабе. Федзя, ты не гаруй, нос у цябе быў, як лямеш у плузе, а цяпер якраз нармальным стане,— пажартаваў Шаранок, але аператар нічога не адказаў, толькі стагнаў ад болю.

З палёгкаю, паволі, як цэдзячы скрозь зубы паветра, Вялічка ўздыхнуў, павярнуўся да камандзіра другога аддзялення, які падбег да яго:

— Вyears... бярыце камандаванне. Далажыце камбату і тэрмінова медыцынскую дапамогу... Арганізуйце выратаванне машын... Камандуйце, таварыш сержант...

Больш гаварыць не хапіла духу, а ўздыхнуць немагчыма было ад болю. Ад гэтага болю пачынала званіць у вушах, туманіцца ў галаве.

Вялічка паволі адкінуўся плячыма на зямлю, Шаранок нечым пякучым праціраў рану яму на шчацэ.

Трацячы прытомнасць, Вялічка яшчэ пачуў пераможнае чужое «ўра!».

## РАЗДЗЕЛ 13

Афіцэры сабраліся на маленькай палянцы. Трымаліся гуртамі, свае са сваімі з кожнага падраздзялення. Сабраліся разам былыя «праціўнікі». Асобна курылі і перагаворваліся старшыя афіцэры.

Маладзейшыя жартавалі, штурхаліся, але стрымана, без хлапчукоўскае безагляднае весялосці.

Карповіч стаяў разам з Каленчуком, Каласовым і капітанам Раманавым. Калянчук пазіраў навокал сваімі добрымі вачыма і ўсміхаўся. Каласоў задаволена пакурваў цыгарэту, патупваў туды-сюды. Капітан Раманаў, чыста паголены, здаваўся яшчэ больш худзейшым і жылістым. Гледзячы на яго, Карповіч адчуў, што сам ён пахудзеў за тыдзень несупынных маршаў, баёў, стрэльбаў, якім, здавалася, не будзе канца.

Толькі сёння першы дзень зроблены перадых, першы дзень можна было памыцца ў рацэ, пагаліцца.

Самае дзіўнае, што амаль ніхто не ўспамінаў пра мінулыя дні вучэнняў, ніхто не расказваў, як удала выканаў той ці іншы манеўр... Усё роўна як згаварыўшыся, афіцэры гаварылі пра ўсё, акрамя гэтага. Можа таму, што чакалі генерала, які павінен падвесці папярэднія вынікі вучэнняў, і ніхто не хацеў загадзя хваліцца.

— Вернемся дадому — першага ж вечара вазьму венічак — і ў парылачку, укладуся на палку і грэцца буду, і ўспамінаць дарожкі франтавыя. Пайшлі разам, Калянчук, Карповіч,— марыў і запрашаў з сабою Каласоў, быццам проста адсюль збіраўся ісці ў лазню.

— Я цябе, Каласоў, начальнікам каравула адпраўлю, от будзе табе і парылачка,— пажартаваў капітан Раманаў.

— Не, нас нельга ў нарад. Наша рота забяспечыла зрыў варожага наступлення. Пра нас павінны памятаць, як пра герояў.

— Ну, не думай, што на табе свет клінам сышоўся і на адной роце ўсе вучэнні трымаліся,— з мяккаю ўсмешкаю перапыніў Каласова Калянчук.— Калі хочаш, і нагняй атрымаеш...

Карповіч не ўмешваўся ў гаворку. Не звыкся ён са сваімі саслужыўцамі. Ды і думкі былі не пра жарцікі, а пра той разбор вучэнняў, які павінен адбыцца на гэтай паляне. Карповіч не сумняваўся, што абавязкова будзе адзначана іхняя рота, ягоны ўзвод, які гэтулькі перакапаў зямлі і сумеў так удала падстроіць ворагу пастку.

Карповіч спрабаваў нават уявіць, як гэта будзе сказана.

— Строіцца, таварышы афіцэры! Пабатальённа, у адну шарэнгу — станавісь!

Не знаёмы Карповічу шустры падпалкоўнік у палявой форме і з белым падкаўнерыкам даў каманду і подбегам кінуўся насустрач генералу, які выходзіў з «газіка».

Генерал быў высокі ростам, худы, з пасівелымі скронямі, твар парэзаны глыбокімі маршчынамі.

— Таварыш генерал, афіцэры пастроены для разбору вучэнняў!

Генерал павярнуўся да афіцэраў, прывітаўся:

— Здравія жалаю, таварышы афіцэры!

— Здравія жалаем, таварыш генерал!

Потым генерал прайшоў уздоўж строю, загаварыў:

— Таварышы афіцэры! Падпалкоўнік тут крыху няправільна далажыў. Гэта не разбор вучэнняў. Разбор будзе зроблены пасля таго, як мы вернемся ў казар-

мы. Вучэнні яшчэ працягваюцца. Застаўся яшчэ адзін этап — марш у раён свайго размяшчэння. Таму нельга нікому расслабляцца, думаючы, што вучэнні скончыліся. Сабраў я вас, каб выказаць свае першыя, агульныя ўражанні, пра тое, што ўжо зараз відавочна. А гэта — значны рост вайсковага ўмельства. Умовы былі вельмі жорсткія, напружанне вялікае. І тым больш радуюць вынікі стрэльбаў, праведзеных у такіх цяжкіх умовах. Наступаючыя цікава падрыхтавалі наступленне, асабовы склад паказаў уменне весці наступленне ўслед за агнявым валам. Вялікае майстэрства паказалі і войскі ў абароне. На рубяжы першага батальёна камандаваннем былі ўмела прыняты захады, каб наступаўшыя трапілі пад флангавы агонь... Добра справіліся са сваім заданнем сапёрныя падраздзяленні, артылерыя і авіяцыя...

Генерал прыпыніўся і задумаўся.

— Аднак былі і непрыемнасці. Лейтэнант Вялічка самавольна прыняў рашэнне атакаваць. Пашкодзіў машыну, сам трапіў у шпіталь і два яго салдаты таксама. А магло кончыцца і горш... Хаця той жа Вялічка бліскуча правёў разведку, ды і рашэнне атакаваць было правільным. Гэта гаворыць пра тое, што афіцэр ён тактычна граматны, перспектыўны, але... Былі і яшчэ непрыемнасці, праўда, больш дробныя. Не буду псаваць вам настрой. Тым болей, паўтараю, што ўвогуле падраздзяленні паказалі высокую баяздольнасць. Мне хочацца сарыентаваць вас на ўдалае завяршэнне апошняга этапу вучэнняў, пажадаць вам поспехаў.

Генерал зірнуў на гадзіннік, развітаўся з афіцэрамі, і хутка ягоны «газік» знік за паваротам дарогі.

— Таварышы афіцэры! Зараз вярнуцца ў падраздзяленні і падрыхтавацца да маршу,— загадаў падпалкоўнік.

Да калоны ішлі разам. Маўчалі. Капітан Раманаў, Калянчук і Каласоў таму, што прывыклі да падобных

разбораў. Карповіч радаваўся, што нікому нічога не сказаў пра свае ранейшыя думкі пра славу.

— Вялічка даскакаўся,— сказаў Каласоў.

— Нічога страшнага. Рашэнне прыняў правільнае, граматны, перспектыўны афіцэр! — усміхнуўся Калянчук.

— Усё нічога... А за тое, што людзей пад удар паставіў, пад суд аддаваць трэба,— коратка азваўся Раманаў.

— Гэта яшчэ не гаворыць пра тое, што таварыш Раманаў некалі не будзе прызначаны начальнікам штаба ў той батальён, якім будзе камандаваць Вялічка...

— ...тады капітан Раманаў адмовіцца ад павышэння,— у лад Каленчуку дадаў Каласоў, і капітан Раманаў весела замахнуўся на яго танкашлемам.

Пад вечар лейтэнант Карповіч зноў стаяў у люку ў пабялелым ад пылу камбінезоне, далёка ад тае палянкі, куды прыязджаў генерал. На карце ў лейтэнанта Карповіча ляжаў звілісты чырвоны ланцужок новага маршруту. Цяпер яму было смешна не толькі з таго, як хацелася пакрасавацца ў люку перад людзьмі, калі думалася, што ўсе толькі і глядзяць на яго. Смешна і з таго, як думалася, што ён са сваім узводам зрабіў ледзь не подзвіг...

Калі на адным са скрыжаванняў Карповіч убачыў зноў ля матацыкла акуратненькую і самаўпэўненую постаць Ласцова, то не адчуў да яго ні злосці, ні тым больш зайздрасці, і нават варухнулася ў душы адчуванне, падобнае да шкадавання.

...Калона спынілася. Паволі, крышку няўклюдна з'язджалі машыны на абочыну і спыняліся.

У навушніках, да роўнага гудзення якіх Карповіч прывык, прагучала каманда капітана Раманава:

— Спешыцца! Памыцца і падрыхтавацца да пастраення!

Гэтая нечаканая каманда крыху прагнала стомленасць і абыякавасць. У гонар чаго трэба было спыняцца ў лесе досвіткам, мыцца і строіцца?

Збоч дарогі віднелася невялічкае азерца з парыжэлым стрэлалістам над вадою і з патаптанаю ля берагоў асакою. Вада стаяла спакойная, шэрая, як ртуць.

Карповіч раздзеўся да пояса, плюхнуў у твар сцюдзёнаю вадою. І салдаты, пабачыўшы ваду, заварушыліся, пачалі раздзявацца да пояса. А худы, загарэлы, як негр, гранатамётчык з дзіўным прозвішчам Шляпа стаяў на беразе з каскаю ў руцэ і гукаў:

— Каму душ Шляпы? Каму душ Шляпы?

Тым, хто падыходзіў, выліваў на спіну каску вады.

Карповіч таксама падышоў да Шляпы:

— Два сеансы!

Пад рогат салдатаў дзве каскі вады былі выліты Карповічу на спіну.

Потым ад камандзірскае машыны пачулася каманда «Строіцца!», і калі Карповіч падышоў са сваім узводам, там ужо стаяў паходнаю калонаю першы ўзвод.

Прайшоўшы метраў сто па ўтравянелай лясавой дарозе, рота выйшла на ўзлесак.

За нейкі кіламетр ад лесу, сярод зялёнага поля, высіўся над наваколлем курган. Над ім у сонечным высокім святле гарэлі чатыры гранёныя штыкі.

І цішыня панавала над полем і над курганам.

Без каманды падцягнулася калона, сціхлі размовы, стаў цвярдзейшы крок.

Паволі, моўчкі, ланцужком узыходзіла рота на вяршыню кургана. З вяршыні адкрываліся блізкія, родныя зажураныя беларускія краявіды: густая лясавая сінь, акуратныя чорныя загоны палёў і светлая зеляніна пакошаў. Нібы жылкамі злучаліся палі звілістымі сця-

жынкамі і палявымі дарогамі. А паміж палёў у лагчынах і на ўзгорках прыціхлыя, засмучаныя восеньскаю жаўцізною ўзлескі... І сціснулася сэрца, зашчымела ад вялікага пачуцця любові да роднае зямлі, якую гэтак жа сама любілі і тыя, каго цяпер няма на свеце, хто загінуў за тое, каб яна была вольнаю назаўсёды, праз вякі і праз пакаленні людзей.

Гарэлі на сонцы чатыры штыкі, як сімвал незабыўнае памяці і веры.

Прыглушана чуліся салдацкія крокі, паблісквала зброя, быццам гэта прыйшла з далёкага сорак першага шматпакутная пяхота былое 100-й дывізіі паглядзець на родныя прасторы...

Потым салдацкая калона знікла ў лесе, пачуўся далёкі гул матораў — і стала ціха.

Сонечнае святло тым часам лягло на траву, а потым мякка і светла прытулілася да палёў.



## НА ВАРТАВОЙ СЦЯЖЫНЕ

Радавы Калюгін спачатку нічога не зразумеў, спрасонку не пазнаў нават голасу памочніка начальніка каравула, але каманду пачуў дакладна:

— Каравул — у ружжо!

Калюгін падхапіўся і праз некалькі секунд ужо стаяў з аўтаматам у страі, убачыў, што ў каравульным памяшканні стаіць дзяжурны па часці і глядзіць на гадзіннік.

Як толькі каравул пастроіўся, дзяжурны па часці даў уводную — нападзенне на каравульнае памяшкан-

не. Калюгін кінуўся да зараней вызначанага яму акна, пры якім была яго пазіцыя...

Дзяжурны коратка разабраў дзеянні каравула па камандзе «ў ружжо», ацаніў іх на «добра».

Пасля пад'ёму Калюгін не заснуў. Хутка было заступаць на пост.

Сяргей Калюгін ведаў, што рана ці позна, а давядзецца трапіць яму на пяты пост, пра які расказвалася ў салдат шмат страшных гісторый: то быццам — адразу пасля вайны — з паста бясследна знікалі вартавыя, то прыходзіла на пост рысь і аднойчы скочыла на вартавога. Таго ўратавала, што карабін з прымкнутым штыком вісеў на плячы, і рысь сама напаролася на штык. А то панадзіўся быў на пост мядзведзь. Ходзіць услед за вартавым па кустах. Вартавы спыніцца — мядзведзь таксама стане. Вартавы далей — і мядзведзь назіркам, бытта выбірае, калі зручней кінуцца... Не вытрымае вартавы, стрэліць па ім, а калі прыедуць на пост паднятыя па трывозе каравульныя, няма ні забітага мядзведзя, ні ягоных слядоў...

Калюгін прыкмеціў, што салдаты другога года службы пасміхоўваліся з жахлівых расказаў пра пяты пост, і таксама не надта верыў пачутаму. Калюгін разумеў, што салдацкі фальклор, які ёсць у кожным падраздзяленні і які памнажаецца кожным вайсковым наборам, мае мараль на розныя выпадкі ў салдацкім жыцці, падцвярджае, як патрэбна і дысцыпліна, і вытрымка, і пільнасць, і знаходлівасць, і салдацкая вывучка.

Урэшце, чаго было палохацца Сяргею Калюгіну, дужаму маладому хлопцу, які да войска працаваў у бульбаводчым звяне трактарыстам, гуляў нават у футбольнай зборнай камандзе раёна?

За год службы Калюгін стаў прызнаным кулямётчыкам, якога камандзіры не раз ставілі ў прыклад

іншым. Ды і да заступлення ў каравул Калюгін падрыхтаваўся як мае быць, дасканала вывучыў табель паста, пастрыгся, памыў форму, адпрасаваў яе — хоць на спатканне ідзі.

Першыя дні, як трапіў у войска, Калюгін, калі меў вольны час, прыходзіў паглядзець і паслухаць развод каравула.

Каравул на плац выводзіў камандзір падраздзялення, яшчэ раз правяраў гатоўнасць да нясення службы, рабіў інструктаж, пакуль не паказваўся здалёку дзяжурны па часці. Начальнік каравула даваў каманду каравулу, аркестр пачынаў іграць «Сустрэчны марш».

Дзяжурны правяраў падрыхтоўку каравула, падцягнуты, сабраны, дакладны ў кожным руху, і гэтая ягоная сабранасць перадавалася каравульным, яны таксама стараліся адказваць коратка, дакладна.

Пасля праверкі каравула дзяжурны камандаваў аркестру іграць «Збор».

Нешта суровае, мужнае ёсць у разводзе каравула, у замёрлых падобных адна на адну салдацкіх постацях. Незвычайнасць і трывожнасць чуваць у пругкай, мускулістай музыцы духавога аркестра, у глухіх ударах барабана, па якім б'е нечакана маладзенькі і стройны выхаванец аркестра. І разам з тым нешта няўмольнае ёсць у барабанных ударах, якія адбіваюць такт страявому кроку, калі адыходзіць з плаца строй каравула, калі сціхае ў вечаровай цішыні трубны голас медзі і чуваць толькі моцны, роўны салдацкі крок.

Строй каравула спыняецца перад каравульным гарадком. Потым абодва каравулы, стары і новы, строяцца адзін перад адным, абменьваюцца рапартамі начальнікі каравулаў:

— Таварыш лейтэнант, новы каравул на змену прыбыў. Начальнік каравула лейтэнант Гладышаў.

— Таварыш лейтэнант, стары каравул да змены гатовы. Начальнік каравула лейтэнант Міцькін.

Развод і змена каравула, музыка, строгасць і дакладнасць каманд неяк супакойвалі, надавалі ўпэўненасці. З гэтаю ўпэўненасцю ў самім сабе Калюгін правёў дзве гадзіны перад адпачынкам, яшчэ раз схадзіў на каравульны гарадок да макета пятага паста. Нічога незвычайнага на макеце не было: няправільны пяцікутнік з агароджы калючага дроту ў два рады, між якімі пралягаў маршрут патрулявання. Вакол агароджы, у сярэдзіне яе,— лес, які на макеце абазначаны сухімі галінкамі і мохам. Невялічкія гурбанкі абазначалі склады.

Калі надышоў час адпачываць, Калюгін адразу ж заснуў моцным сном...

Калюгін ляжаў на тапчане ў ціхім і цёплым пакоі для адпачынку, што, як і ўся каравулка, прапах тым асаблівым духам, якім пахнуць усе вайсковыя памяшканні, якія не пустуюць, але і не маюць пастаяннага жыльца. Калюгін уявіў увесь пакой, дзе адпачывала змена каравула, якой заступаць на пасты.

Ля дзвярэй вешалка: пафарбаваная прыбітая да сцяны дошка, на якой шмат кручкоў, каб хапіла на ўсе кажухі, якія віселі тут зімою, а летам на брызентавыя плашчы з капюшонамі. Уздоўж сцен такім чынам, што заставаўся шырокі праход пасярэдзіне, стаяць тапчаны, зробленыя з металічных вугольнікаў і тоўстае фанеры, абцягнутае дэрмацінам, востры пах якога перабіваў трывалы і даўні пах кажухоў, якім назаўсёды прапахла каравулка, які стаяў тут нават і цяпер, калі на вешалцы віселі пабялелыя ад дажджу плашчы.

Калюгін, мабыць, выспаўся, а таму не засыналася. Пачаў муляць падсумак з магазінамі, які саслізгнуў пад бок і цёпла там прыгрэўся.

На жорсткім шыракаватым тапчане Калюгін адчуваў сябе вялікім і дужым, як ніхто на свеце, нейкім асаблі-

вым, лепшым за іншых. З адчуваннем упэўненасці ў самім сабе Калюгін і падняўся па камандзе, слухаў, стоячы ў страі, інструктаж заступаючым на пост.

На ноч аціх вецер, які звечара гнаў па надвячоркавым небе лёгкія, як цені, воблакі, і не было глухое чорнае цемры, як гэта здараецца ў першыя вераснёвыя ночы, калі кончылася і пара зоркападаў, і жнівеньскага цяпла, калі адвячоркамі чужым шэрым колерам глядзіць ужо на зямлю неба, з-за чаго і пачынае здавацца, што хутка пачнецца холад. Холаду яшчэ не было, не было і глухое цемры. Месяцава святло, мабыць, аднекуль звысака клалася на неба, і хоць не было відно самога месяца, але яно не давала запанаваць непрагляднасці над зямлёю.

Ля асветленага куляўлоўнага шчыта каравульныя, якім ісці на пасты пешшу, пад наглядам начальніка каравула, і па камандзе зараджалі зброю, прымыкалі штык-нажы і далучалі магазіны да аўтаматаў.

Разводзячым чацвёртага і пятага паста быў сяржант Галубок, белавалосы, крыху павольны, маўклівы камандзір другога аддзялення першага ўзвода. Ён прыпыніўся, паглядзеў, як зараджаюць зброю, потым скамандаваў:

— Шагам марш!

Ля варот каравульнага гарадка стаяў «газік» з брызентаваю будаю над кузавам.

— Да машыны! — коратка загадаў Галубок, пачакаў, пакуль Калюгін і каравульны чацвёртага паста, салдат другога года службы Садыкаў, сталі ля задняга борта.— На месцы!

Калюгін і Садыкаў селі пры самай кабіне побач, заціснуўшы аўтаматы між каленяў.

— На пяты пост? — запытаўся Садыкаў.— Харошы пост. Ніякіх праверак. Харошы.

Садыкаў яшчэ не разварушыўся пасля сну. Калюгін стрымаўся, не пачаў распытваць пра службу на пятым

пасту, хаця цяпер, адзін на адзін, перад самым заступленнем і закарцела распытацца падрабязна. Калюгін толькі ўсміхнуўся сам з сябе і прыадчыніў брызентавае акенца.

Машына выехала за тэрыторыю часці, імчала па сухой белаватай сыпанцы, скіравала ўлева і неўзабаве выехала да стрэльбішча, дзе над участковымі пунктамі кіравання свяціліся адзінокія ліхтары.

Машына спынілася, не даехаўшы да першага пункта, грукнулі дзверцы, і сяржант Галубок спакойна скамандаваў:

— Да машыны!

Пачакаў, пакуль яны злезуць.

— Направа! Справа па аднаму — зараджай!

Садыкаў ступіў крок наперад, зняў з пляча аўтамат, спачатку прымкнуў штык-нож, далучыў магазін, паставіў аўтамат на засцерагальнік і далажыў:

— Зброя зараджана і пастаўлена на засцерагальнік.

Калюгін таксама зарадзіў аўтамат.

— Налева! За мной — шагам марш!

Як прайшлі метраў сто, пачуўся вокліч вартавога:

— Стой! Хто ідзе?

...Калі вярнуліся да машыны, разрадзілі зброю ўжо ў кузаве, зменены з паста яфрэйтар Бабкоў, чарнявенькі, шустры механік з трэцяга аддзялення запытаўся:

— На пяты пост? Даўно пара цябе туды, а то ўсё хваляць — Калюгін ды Калюгін... На пятым пасту і Калюгін першую змену прастаіць з патронам у ствале.

Бабкову хацелася пагаварыць. Ён намаўчаўся за дзве гадзіны. Калюгіна раззлавала, што Бабкоў нібыта загадзя радуецца таму, што Калюгін спалохаецца і што гэта выкрыюць. Бабкову быццам лягчэй стане ад гэтага.

5 Зак. 3752

— Ты па сабе мераеш? Ты мо і на чацвёртым пасту з патронам у ствале ходзіш? — сакануў яму Калюгін.

Бабкоў як і не пачуў, гаварыў сваё, насмешлівае і здзеклівае.

— Галінка як шарганецца ці птушка шалпане — аж валасы на галаве заварушацца, здасца, што падкрадаецца нехта да цябе. Рука сама затворную раму назад шмаргане. Пакуль дзве гадзіны праходзіш — усе страхоцці пра пост успомніш, наробішся, як вагон разгрузіш. Толькі пад канец не забудзь патрон са ствала дастаць, а то Галубок такі служака, што не прамоўчыць, даложыць памначкару.

Бабкоў і думкі не дапускаў, што на пятым пасту першы раз хоць хто стаіць без патрона ў ствале. Але толькі некаторыя, хто забыўся перад зменаю патрон дастаць, папаліся. Усе роўныя смельчакі.

— Не, Бабкоў, я не твайго заводу.

— Заўтра пабачым.

Бабкоў здзекліва змоўк.

Калюгін з прыкрасцю падумаў, што нанесла на ягоную галаву перад заступленнем на пост такога чалавека.

Машына неўзабаве з'ехала на лесавую дарогу, зашоргалі па брызенце галіны. Потым машына спынілася. Гэтак жа спакойна, як на стрэльбішчы, Галубок даў каманду спешыцца.

Машына стаяла на невялікай палянцы, на якой можна было завярнуцца. Адразу ж ахінула здароваю лесавою вільгаццю. У лесе было цямней, цішэй, чым у полі, толькі недзе высока слаба шумелі верхавіны, як не ад ветру — а дыхалі магутныя дрэвы.

Галубок загадаў зарадзіць зброю, павёў змену за сабою. Калюгін азірнуўся на машыну: з-за дрэў толькі слаба свяціліся два маленькія агеньчыкі падфарнікаў.

Сцяжынка завярнула ўправа. Наперадзе засвятлелася, стала бачна агароджа з калючага дроту. Лес не падступаўся да самае агароджы.

Як толькі выйшлі на светлае, пачуўся вокліч:

— Стой! Хто ідзе?

— Разводзячы са зменаю,— адказаў Галубкоў.

— Разводзячы да мяне, астатнія на месцы!

Галубок пайшоў да вартавога. Вартавы, які быў прытуліўся да слупка агароджы, выйшаў насустрач разводзячаму.

Потым, па камандзе Галубка, і Калюгін рушыў да паста.

Вартавы ўзяў аўтамат «на рэмень», калі падышоў да яго Калюгін.

Галубок скамандаваў:

— Смірна! — І да Калюгіна: — Радавы Калюгін, на пост шагам — марш!

Вартавы саступіў са свайго месца крок управа, і Калюгін стаў побач з ім.

— Вартавы, здаць пост!

Вартавы, павярнуўшы галаву да Калюгіна, зрабіў славесную здачу паста.

Калюгін павярнуўся тварам да разводзячага:

— Таварыш сержант, радавы Сямёнчык пост нумар пяць здаў!

— Таварыш сержант, радавы Калюгін пост нумар пяць прыняў!

— Радавы Сямёнчык, з паста шагам — марш!

Калюгін пастаяў, паглядзеў услед змене, якая паволі, у калоне па аднаму пайшла па сцяжынцы і знікла за паваротам.

Вартавы Калюгін узяў аўтамат напагатоў, падышоў да варотцаў, памацаў, як яны зачынены, і паволі памераў па маршруце, не зважаючы на тое, што нешта здрадліва зашчымела ў грудзях ад таго, што застаўся адзін, агароджаны з двух бакоў калючым дротам, за

які нельга выйсці, што б не здарылася, пакуль не прыедзе змена.

Удалечыні заціхаў матор машыны.

Лес быў яловы. Толькі мясцінамі яліны расступаліся, давалі месца асінніку і бярэзніку. Асіннік мякка і лёгка шумеў. Пад восень, як упалі першыя сухія лісцікі,— дрэвы шумяць без перастанку ўдзень і ўночы, ёсць ці няма ветру. І прашумяць гэтак журботна, пакуль не ападзе долу, аплаканая дажджамі, цяжкая іхняя прыгажосць. Тут, ля бярэзніку і асінніку, здавалася не гэтак панура.

На тэрыторыі, якая была абгароджана дротам, рос малады густы ельнік. За ім не відаць было складоў, ахова якіх называлася нават у гэтую мірную ноч суровымі словамі — выкананне баявое задачы. На час варты Калюгін быў асобаю, недатыкальнасць якое ахоўвалася законам. У мірны час ён меў два магазіны з баявымі патронамі.

Далей сцяжына пайшла ў лагчыну. Стала цямней, здалося, што лес падступіўся бліжэй да агароджы. Гэта табе не макет, дзе лес абазначаны мохам і наўтыканымі сухімі галінкамі. Ды і маршрут здаўся бясконца доўгім. Калюгін прыпыніўся ля варот, праз якія быў уезд на склады, праверыў замок і пломбу, пайшоў шпарчэй.

Калі вярнуўся да таго месца, дзе заступаў на пост, зірнуў на гадзіннік: ішоў зусім мала часу, але ў плечы аж цёпла стала.

На другі круг Калюгін пайшоў павальней. Не было ранейшае ўпэўненасці і спакою. Міжволі ён прыглядаўся да лесу і меркаваў, адкуль лягчэй падкрадацца да вартавога. Аказалася, што хоць і выцераблены лес абапал, а мясціны такія былі. Сям-там падняліся на высечцы кусцікі, за якімі можна было прытаіцца.

Калюгін нават прыпыніўся і прыгледзеўся да высакаватага крушынавага куста. Таму, што доўга прыгля-

даўся, здалося, што куст варухнуўся, нават не сам куст, а адна галінка — як хто адхіліў яе рукою і неасцярожна адпусціў.

Калюгін аж здрыгануўся, што гэтак гучна пстрыкнуў у цішыні засцерагальнік аўтамата, які рука сама сабою пераняла на «агонь». Перавёў дыханне, азірнуўся навокал і стрымаўся, не адвёў затворную раму і не даслаў патрон у ствол. Не здымаючы руку з аўтамата, пайшоў наперад, бліжэй да куста. За кустом нікога не было. З палёгкаю ўздыхнуў і пайшоў далей. Крыху лягчэй і смялей стала, што перамог сябе.

Пасля трэцяга круга Калюгін адчуў сябе зусім упэўнена. І па баках ён пачаў пазіраць ленавата — не, дарэмна верылася, што ён не такі, як астатнія.

Ля варот Калюгін пастаяў, прыслухаўся. Роўны лесавы пошум цяпер не перашкаджаў слухаць. На шашы, быццам здалёку, з-за свету, шумелі машыны, толькі зрэдку, як перагаворваліся, коратка абзываліся сігналамі. Машынны шум быў нядоўгі, усё роўна, як марская хваля накочвалася і адкочвалася з камяністага берага. Гэтыя жывыя гукі супакойвалі, пачынала думацца пра казарму...

Калюгін аж сцепануўся ад кароткага блізкага шоргату галін, зноў пстрыкнуў засцерагальнікам, прыпаў на калена за слупком агароджы. Усім целам адчуваў, які тонкі слупок, як нельга схавацца за ім. Вочы тым часам напружана глядзелі ў лес, туды, дзе нехта шаснуў галлём, як гэта бывае, калі чалавек перабягае ад куста да куста. Нічога не відаць было за яловымі шатамі.

Калюгін староннім вокам адтуль, з цемры, зірнуў на сябе, вялікага, асветленага ліхтаром. Як непатрэбна было гэтае святло! Але асветленая паласа і не давала зараз нікому падкрасціся да дроту. На гэтай паласе вартавому можна каго хочаш спыніць аўтаматным

агнём. Аўтамат у руках цяпер здаваўся самаю блізкаю жывою істотаю.

Калюгін нарэшце заўважыў слабы водсвет у цемры, як бытта нечае вялікае вока глядзела на яго, цікавала за кожным рухам. Мякка, горача апала ў грудзях сэрца. Дакладным рухам Калюгін наставіў аўтамат туды, правёў пальцам па засцерагальніку — ці на аўтаматычны агонь пастаўлены, але затворную раму было страшна адцягнуць, каб загнаць у ствол першы патрон,— здавалася, на ўвесь лес кляцне яна. Хацелася, каб першым варухнуўся т о й. Прыйшло нейкае паляўнічае супакаенне, якое бывае, калі высачыў звера. У душы нават успыхнула ўрачыстае прадчуванне перамогі.

Невядома, колькі гэтак праседзеў Калюгін. Здранцвелі рукі, перасохла ў роце. Калюгін апусціў аўтамат, расслабіў рукі. Невядомае вока гэтак жа роўна глядзела на яго з-за куста. Ніякага руху там не прыкмячалася. Калюгін паварушыўся, устаў. Страляць пакуль што не было прычыны, але і стаяць на месцы больш нельга. З жахам Калюгін падумаў, што, пакуль ён сядзеў тут, можна было з другога боку даўно пранікнуць на склады!..

Калюгін ступіў наперад.

Пад кустом нешта шорхнула. Мяккі абрыс птушкі слізгануў паўз лес і знік.

Больш нішто не варушылася ў кустах і ніхто не кідаўся ні на Калюгіна, ні наўцёкі. Цяпер Калюгін ведаў, адкуль быў той шоргат, але ўсё роўна не спыняўся, шпарыў па маршруце, спыніўся толькі, як абляцеў наўкруга. Дрыжалі рукі і ногі, нават усё ўсярэдзіне трымцела.

Калюгін пачаў прыглядацца да таго месца, адкуль на яго глядзела невядомае вока. Ступіў крок наперад, убок, крыху нахіліўся — і пад кустом зноў бліснула, толькі не гэтак грозна і не гэтак таямніча: магчыма,

пад кустом адсвечвала ў святле ліхтара парожняя кансервавая бляшанка.

Цяпер Калюгін пачаў яшчэ ўважлівей прыслухоўвацца да лесу. Акрамя ягонага роўнага пошуму, жылі ў начы і карацейшыя гукі. Нешта тоненька піскала, а то незнаёмым голасам і ўскрыквала ў лесе. Нават спаважныя ніжнія яловыя лапы ні з таго ні з сяго раптам пагойдваліся, і Калюгін ведаў, што гэта не звер ці чалавек кратае іх, а нячутны вецер завіхраецца на высечку. Пасля перажытага страху лес здаваўся раднейшым.

Во было б, каб усчаў страляніну! Калюгіна аж у жар кінула ад думкі, як ён мог «праславіцца». Такое ў салдацкім гурце не забываецца. Ды крыху і прыкра было ад тае свае самаўпэўненасці, ад пераканання, што ён не такі, як усе, лепшы. Цяпер прыйшла другая, сталая мужчынская ўпэўненасць. І нават пра Бабкова, які некалі быў напалохаўся на гэтым пасту і зычыў гэтага Калюгіну, не думалася звысака. У чымсьці Калюгін разумеў яго і спачуваў, хоць і не мог дараваць тое зласлівасці, з якою Бабкоў радаваўся, што і яшчэ нехта спалохаецца.

Насупраць асінніку Калюгін пастаяў, прыслухаўся: нешта капашылася ў лісці. Калюгін не ўтрываў, падняў камень і запусціў туды. Птушка выхапілася на крыло, паляцела ўздоўж высечкі, шырока раскінуўшы крылле і звесіўшы доўгую дзюбу. Такіх птушак Калюгін бачыў аднойчы дома, у калгасным садзе восенню.

Яшчэ здалёку Калюгін зразумеў, што змена чакае яго, зірнуў на гадзіннік — гэтак хутка праляцеў час!

Роўным і спакойным, нават крыху стомленым голасам ён здаў пост, паволі пайшоў апошнім у калоне да машыны. Потым па камандзе Галубка нетаропка разрадзіў зброю — хай ведае разводзячы, што ў ствале няма патрона! Але Галубок, як і звычайна, уважліва

праверыў, ці разраджана зброя, даў каманду садзіцца ў машыну.

Толькі ў машыне, прытуліўшыся плячыма да борта, Калюгін адчуў, што стаміўся, што, як дадому, хочацца ў каравулку, дзе цёпла і светла, дзе сябры-салдаты і дзе перад заступленнем на пост ёсць такія мяккія, абцягнутыя па фанеры новым дэрмацінам, тапчаны.



## ЗА БЕЛЫМ СНЕГАМ

Касцюкевіч усё яшчэ не мог прывыкнуць да гэтых вялікіх абшараў пустое зямлі, парослае маленькім рэдзенькім быльнягом, бедным пабялелым мятлючком і нізенькімі густымі кусцікамі, якія асабліва дружна браліся расці ў лагчынах. Было нешта страшнае ў гэтай пустэльнасці, нейкая асуджанасць на адзіноту... Невысокія, амаль аднолькавыя ўзгорачкі, і толькі ўдалечыні прывідная зубчатая аблямовачка лесу, да якога, быццам у той казцы,— не даехаць і не дайсці. Магло

здацца, што нешта таямнічае і незвычайнае робіцца там, удалечыні, на гэтай мёртвай прасторы, якая называецца палігонам. Касцюкевіч ведаў, што нічога незвычайнага там няма, ведаў, што варта толькі раз праехаць па палігоне — і ўсё стане прывычным і зразумелым. Розныя там Змяіныя вышынькі, парослыя густым арэшнікам, мішэнныя рубяжы, на якіх стаяць у неглыбокіх бетаніраваных ямках пад'ёмнікі, цягнуцца да лябёдак тоненькія сталёвыя тросікі. На гэтых рубяжах валяюцца пасівелыя ад дажджоў кавалкі драўляных рэек, абрыўкі мешкавіны, валяюцца пакалечаныя ржавыя балванкі вучэбных снарадаў і цёмна зеляннеюцца старыя аўтаматныя і кулямётныя гільзы. Рубяжы гэтыя ажываюць, снуюць на іх апературы, калі рыхтуюцца вучэнні з баявою стральбою, а гэта не так і часта. А так стральба звычайна ідзе на дырэктрысах.

Змяіныя вышыні былі на другім палігоне, куды яны ездзілі з «вучэбкі», але Касцюкевіч памятаў, што і той палігон таксама некалі здаваўся яму бясконцым і чужым, а цяпер успамінаецца такім знаёмым і ўтульным.

У «вучэбцы» яму было цяжкавата — і прывыкаць да вялікага гурту, і ўваходзіць у строгі, разлічаны па гадзінах распарадак дня. Трэба было не толькі ўсвойваць салдацкія азы, але і вывучаць тэхніку. А ў Касцюкевіча, мабыць, не было тэхнічнае стрункі, не адчуваў ён машыну. Нечым хітрым і самастойным, незразумелаю жывою істотаю здавалася яна разам з усімі сваімі хітрымі сістэмамі. Касцюкевіч стараўся вучыць будову механізмаў, але не мог уявіць іх у рабоце, зразумець іхнюю жалезную логіку. Таму, мабыць, і здавалася, што машына самастойна можа рабіць сваю работу і зусім не падпарадкоўвацца яму, нібы разумее, што ён пабойваецца яе.

Пакуль ішлі класныя заняткі, пакуль Касцюкевіч меў настойлівасць вывучаць, запамінаць, калі нават і

не разумеў усяго, вучоба ішла нармальна. Пачалося мучэнне, як сталі асвойваць машыну на палігоне, на трасах з перашкодамі. І калі раней Касцюкевіч толькі адчуваў, што ўсе гэтыя жалезныя механізмы, заведзеныя па нейкай сваёй логіцы, непадуладны яму, то цяпер і адчуў гэта. Машына не магла скрануцца з месца, глох матор або, наадварот, роў не сваім голасам, калі Касцюкевіч залішне «газаваў», то ўключалася не тая перадача, звінелі шэсцерні ў каробцы і інструктар траціў цярпенне і шлёпаў Касцюкевіча па танкашлеме... А колькі «сюрпрызаў» мела машына!

І Касцюкевічу даводзілася ўсё, нават самыя лёгкія прыёмы кіравання, асвойваць настойліваю трэніроўкаю. Ад свайго няўмення, ад глухаты да тэхнікі аж самому рабілася праціўна. І бачачы, што ён стараецца, інструктары таксама прымірыліся — памылка выйшла, не адчувае чалавек тэхніку, але мяняць было штонебудзь позна.

Нават пасля таго, як Касцюкевіч няблага здаў экзамены, атрымаў пасведчанне механіка-вадзіцеля і лычкі малодшага сержанта, прыбыў у вайсковую часць, прыняў у сваё распараджэнне сапраўдную баявую машыну, чысценькую і дагледжаную папярэднікам, правераную і адрэгуляваную, гатовую ў любую мінуту паслухмяна завесціся і выехаць з бокса, а калі на тое патрэба, падмінаць пад вузенькія імклівыя тракі без перапынку сотні кіламетраў, не надта і выбіраючы дарогу,— нават і пасля гэтага Касцюкевіч адчуваў нейкую сваю непаўнацэннасць. Гэта зразумелі і адчулі і сябры і камандзіры, хоць стараліся і не падаваць выгляду.

Цяпер, седзячы ў машыне на сваім вадзіцельскім месцы, худы і няскладны, нехлямяжы ў старым рабочым камбінезоне з прапаленым ля вогнішча рукавом, гледзячы праз заляпаныя граззю трыплексы на шэрыя познявосеньскія палігонныя далягляды, на яшчэ тры баявыя машыны, якія стаялі збоч і якія ён павінен

вартаваць, слухаючы, як глуха гудзе вецер у незачахлёным гарматным ствале,— Касцюкевіч аж сцяўся ад сораму, калі ўспомніў, як і сёння на ваджэнні, на тым самым праклятым калейным мосце, які і да гэтага часу не «даўся» яму, зноў спалохаўся, калі адчуў, як саскочыла адна гусеніца з каляіны. У паніцы нават не чуў, што крычаў яму ротны па радыёстанцыі, учапіўся рукамі ў штурвал, газаваў, не чуў, як раве матор, а толькі як скрыгочуць па бетоне тракі, аж калоціцца і трымціць увесь бранявы корпус — потым з жахам адчуў, што машына паляцела ўніз, перавярнулася, мабыць, закрычаў немым голасам... Машына не перавярнулася, стаяла бокам: адна гусеніца на зямлі, другая на калейным мосце. Тую, што на калейным мосце, сарвала з вядучае зорачкі, і цяпер, каб сцягнуць машыну на зямлю, трэба было спачатку разбіць гусеніцу...

Бледны, спалоханы яшчэ, Касцюкевіч слухаў камандзіра і маўчаў. Ведаў ён, ведаў, што на калейным мосце лепш не чапаць за руль, не трэба газаваць. Яшчэ ў «вучэбцы» трэніравалі правільна накіроўваць машыну на мост, ісці на яго на другой перадачы — і машына сама паволі пяройдзе цераз перашкоду. Правіла гэтае для навічкоў, ■ вопытныя механікі з ходу пераходзілі цераз калейны мост нават і на чацвёртай перадачы, толькі крыху збаўлялі абароты. Вопытныя механікі маглі і на мосце паварушыць за штурвал, але так, што машына толькі крышачку-крышачку скіроўвала ўбок і не скідалася з каляіны.

Хлопцы прамучыліся амаль гадзіну, пакуль знялі машыну з моста, ніхто не папракаў яго за сарваную трэніроўку перад начным ваджэннем, якое будзе праверадь нампатэх палка. Ён прытвараўся, што яму ўсё роўна, што ён прывык, і не здзівіўся, калі яго пакінулі вартаваць машыны — у палку пасля абеду механікі будуць мець гадзіну-другую на адпачынак.

Зараз Касцюкевічу здалося, што сябры і камандзіры ведаюць не толькі пра яго глухату да тэхнікі, але і тое, што ён панічна палохаецца і крычыць ад страху ў машыне, калі тая пачынае з'язджаць з моста! Таму і камандзір не надта крычыць, і не дапякаюць жарцікамі хлопцы, таму так завіхаліся яны ля машыны, разбівалі гусеніцу, дазвалялі яму стаяць збоч і нічога не рабіць. Касцюкевіча аж у жар кінула ад гэтае здагадкі — ён уявіў, як бы сам глядзеў на такога чалавека!

Касцюкевіч прыадчыніў люк, дастаў з кішэні пачак з цыгарэтамі і разам з ім яшчэ не пакамечаны, толькі ўчора атрыманы ліст ад маці. У пісьме яна нязграбна і непісьменна радавалася, што калі ён у войску кіруе такою машынаю, як танк, то і ў калгасе яму некалі дадуць трактар, а механізатары цяпер зарабляюць больш і за свінарак і за даярак. Касцюкевіч схаваў пісьмо, нібы хто мог прачытаць яго і па ім здагадацца, як у сваім нядаўнім пісьме, быццам і сціплым, але крыху ганарлівым, пісаў ён пра сваю пасаду і паслаў каляровую фатаграфію з сержанцкімі пагонамі на плячах. Маці, вядома ж, хвалілася суседзям і пісьмом і фатаграфіяй, бо пакуль хадзіў у школу, на бацькоўскіх сходах яго больш «скланялі» за вучобу, чым хвалілі, а ні сілаю, ні спрытам, ні прыгажосцю ён не вылучаўся. Цяпер толькі можна і пахваліцца, калі ён салдат, калі на такой машыне.

Касцюкевіч рашуча адчыніў люк, падняў сядзенне. Твар апякло халоднаю імжою, дыхнула пясчанаю зямлёю, сіверам, мокраю травою. Касцюкевіч не закурыў, сунуў пачак назад у кішэню: ён цяпер ведаў, што трэба зрабіць, каб адчуць сябе раўнапраўным сярод салдат.

Двума пальцамі ён адначасова націскаў кнопкі запуску — і неастылы матор лёгка, як уздыхнуў, завёўся, ад эжэктара патыхнула едкім цёплым водарам саляркавага дыму. Касцюкевіч адрэгуляваў матор на работу на халастых абаротах, уключыў другую перадачу, ірва-

нуў з месца, аж паляцела веерам гразь з-пад гусеніц, і цярэспаля памчаў да калейнага моста. На хаду, на трэцяй хуткасці, апусціўся пад браню, зачыніў люк, прыціснуўся плячыма да спінкі сядзення, упёрся рукамі ў кароткія рабрыстыя ручкі штурвала і, не збаўляючы абароты, з адчайнаю радасцю, з пераможаным ужо страхам, здавалася, узляцеў на мост, каб віхрам прамчацца па ім!

І толькі пры ўз'ездзе на мост, калі перад машыны падняўся ўгору, а ў трыплексах на імгненне стала пуста і праз іх зірнула ва ўпор нізкае чорна-каламутнае неба, рухомае, быццам злавесны чорны дым, у грудзях нешта ёкнула, упала сэрца. Здалося, машына пайшла наўскасяк улева. Не памятаючы, што рабіць, не збаўляючы абаротаў, Касцюкевіч варухнуў штурвал управа, адчуў, як круцянулася машына, заскрыгаталі на бетоне тракі, машына нырнула ўніз, штосьці трэснула ззаду на дэсантных люках. У Касцюкевіча, здалося, раскалолася галава, апякло лоб, і ён, мабыць, на нейкі час страціў прытомнасць...

Першае, што ён адчуў потым, гэта клейкую цеплыню на твары і саленаваты прысмак у роце. Калі правёў рукою па твары і паглядзеў на яе, то ўбачыў, што рука ў крыві, зірнуў на трыплекс і зразумеў, што пабіў лоб аб яго, абмацаў пальцамі ранку — яна была невялікая: асноўны ўдар прыйшоўся праз танкашлем, і гэта ўратавала.

Касцюкевіч расшпіліў камбінезон, дастаў з кішэні чыстую хусцінку, выцер твар, прыклаў яе да ранкі і прыціснуў танкашлемам, адчыніў люк і вылез на браню.

Ад таго ягонага павароту ўправа машыну развярнула ўпоперак моста, і яна саскочыла з моста ў яму, у рэдзенькую глыбокую гразь.

Машына была цэлая, толькі з кармавых люкаў сарвала запасныя тракі.

Агледзеўшыся, што машына цэлая, і крыху супакоіўшыся, Касцюкевіч з палёгкаю ўздыхнуў. Можна спакойна паехаць назад — і ніхто нічога не будзе ведаць, бо ад усяе яго смеласці засталіся на бетоне толькі белыя, з сіняватым металічным адценнем пісягі ды гразь на траках машыны.

Нейкі раптам спустошаны, быццам раздушаны машынаю, Касцюкевіч млява вярнуўся на сваё месца, яшчэ дрыжачымі ад хвалявання і перапалоху рукамі выбіў перадачу, націснуў на кнопкі запуску, не здзівіўся і не зарадаваўся, што матор завёўся. Яму раптам падумалася: а што, каб яго прыдушыла ці прыбіла ў машыне, і да вечара ні адна б жывая душа не ведала пра гэта, і дайшоў бы ён тут, на гэтым бязлюдным палігоне! Якому чорту лысаму і што збіраўся ён даказаць? Даслужыць ён год, які застаўся, вернецца дадому, і ніхто там нічога не ўведае ні пра гэты праклятвы мост, ні пра ягонае няўмельства і страхі. Не спадзе з галавы карона, калі хто і пасмяецца, лепш сцярпець насмешку, чым на той свет трапіць без перасадкі.

Касцюкевіч сядзеў нерухома, глядзеў, як падалі і раставалі на камбінезоне незвычайна бухматыя сняжынкі. Яны спачатку меншалі, быццам сціскаліся, потым і зусім знікалі, і ад кожнае спачатку заставалася толькі кропелька, а потым усяго чорны петнячок на мацёры. І які салодкі, халаднаваты і малады быў пах у гэтага снегу. Касцюкевіч яшчэ ніколі не чуў такога паху і не спазнаў такога шчасця бачыць, як роўна і хораша ідзе над зямлёю снег. І за радасцю і палёгкаю, што ўсё так добра скончылася, здаецца, і не засталося ў душы ні сораму, ні злосці, якая была на калейны мост за тое, што ён нібы заступіў Касцюкевічу дарогу да далейшага жыцця.

Касцюкевіч уключыў перадачу, паддаў абаротаў матору, чакаў, што машына лёгка выскачыць з гразі на роўнае поле, але нечакана, калі быў адпушчаны фрык-

цыён, матор натруджана тонка завыў, усю машыну закалаціла, зазвінела браня ад udараў аб бетонныя апоры моста. Здалося, што рассыплецца сталёвая каробка. Не зразумеўшы, што здарылася, спалохана Касцюкевіч выхапіў фрыкцыён, збавіў абароты, і зноў матор завуркатаў роўна, і машыну перастала калаціць.

Касцюкевіч падняў сядзенне, каб можна было бачыць гусеніцу, зноў асцярожна адпусціў фрыкцыён, прыбавіў абаротаў: машына сядзела на жываце і гусеніцы недзе пад гразёю слаба чапляліся за зямлю, кармавыя люкі стукалі аб апоры.

З цікаўнасцю глядзеў Касцюкевіч, як лёгка мільгаюць белым металам у гразі тракі, быццам машына сіліцца паплысці. Выключыў перадачу і падумаў, што хлопцы, як прыедуць, выбавяць машыну на сухое за дзве хвіліны, узяўшы на буксір. Камандзір пакрычыць крыху, як і заўсёды... Касцюкевіч уявіў усё гэта, і з нечаканаю злосцю, з лютасцю, з жаданнем, каб рассыпалася, разляцелася на кавалачкі ўся бранявая шкарлупа, газаваў, рэзка выжымаў і адпускаў счапленне. І нічога не было больш чуваць у мёртвай прасторы поля, акрамя дзікага трубнага крыку магутнага танкавага рухавіка. Але і гэты магутны крык прыпадаў да зямлі, глух, прыдушаны шэрым сутоннем цяжкага, густога снегападу.

Калі злосць прайшла, калі заглушыў матор, у вушах у Касцюкевіча зазвінела ад цішыні, у якой калыхаўся, забельваў далечыню снег, раставаў на цёплай яшчэ і вільготнай зямлі. І гэтая цішыня навокал, і тая дабрыня і спакой над зямлёю ў гэту часіну, адчуванне значнасці, вечнасці ўсяго гэтага нібы яшчэ больш падкрэслілі нікчэмнасць Касцюкевіча.

Бездапаможна азіраючыся па баках, быццам спадзеючыся знайсці недзе паратунак, Касцюкевіч вылез з машыны, прычыніў люк, пастаяў, паглядзеў навокал. Браня надматорнага люка замакрэла ад расталага сне-

гу, бы ў машыны ўпацеў лоб, а ўсю астатнюю браню і нізенькую круглую вежу бела прыкрываў снег.

Касцюкевіч пайшоў прэч, нібы толькі што выракся сам сябе. На мокрай зямлі заставаліся выразныя сляды ад новых кірзавых ботаў, і наперадзе ў яго калыхалася, як забыццё, белая густая пеляна, якую павесіла цішыня пасля таго, як заглох матор машыны.

І чым далей адыходзіўся Касцюкевіч, тым няўпэўней рабіўся крок, выразней рабілася адчуванне, што сябе ўсё роўна не абмануць ні цяпер, ні ў будучым, не ўтаіць ні ад кога, што ты баязлівец.

Калі Касцюкевіч спыніўся, азірнуўся, за снегавою беллю, здавалася, далёка-далёка ўбачыў і такі невысокі горб моста, і нізенькую машыну з высока паднятым угору гарматным ствалом, быццам машына дражнілася пераможна — што, хлопча, з носам?

Касцюкевіч круцянуўся і пайшоў назад, яшчэ не ведаў, што канкрэтна будзе рабіць, але тое, што цяпер не адступіцца, было ясна. І таму не мітусіліся ў галаве думкі, а пакуль падышоў да машыны, успомніў, што трэба рабіць у такіх выпадках.

Праз колькі хвілін Касцюкевіч з сякераю ў руцэ адышоўся да невялічкага астраўка хвойніку, спусціў на зямлю ладную сасёнку, ацерабіў ад галля, адсек тонкую вершалінку, ускінуў адзін канец на плячо, цягнучы другі па зямлі, сагнуўшыся, хістаючыся ад цяжару, прывалок бервяно да машыны, доўга сядзеў на ім, аддыхваўся. Потым дастаў з машыны рыдлёўку, скінуў куртку і танкашлем. І больш не заўважаў ні снегу, ні стомленасці, не заўважаў, колькі прайшло часу, гразнучы ў ліпкай гразі, адкопваў спераду гусеніцы, каб можна было падкласці пад іх бервяно. Калі зрабіў падкоп, паклаў ля кожнае гусеніцы тросік самавыратавання, падкаціў да іх упоперак бервяно, прымацаваў яго тросікамі да гусеніц. Потым улез у машыну, дыхаў на рукі, трымаў іх пад пахамі, пакуль адагрэліся, завёў

матор, уключыў першую перадачу і рэдуктар паніжаных хуткасцей. Асцярожна прыбаўляючы абароты, адпусціў фрыкцыён, адчуў, як варухнуліся гусеніцы, як абаперліся яны спераду на бервяно, як машына пачала падымацца, і гразь неахвотна адпускала яе, потым чмокнула, адпусціла браню, і машына лягчэй пайшла наперад. Касцюкевіч і не заўважыў, што чуе кожны рух машыны, бы сваё цела.

Калі машына выпаўзла на цвёрдае, калі бервяно было недзе ля кармавых люкаў, Касцюкевіч спыніўся, лёгка і ўпэўнена саскочыў на зямлю. Ударамі абуха сякеры збіў з гусеніц тросікі, паволі падышоў да лужыны, памыў іх, памыў рыдлёўку, паклаў інструменты ў дэсантны адсек. Вымыў рукі, спачатку ў лужыне, потым чыстым снегам, узятым з брані, снегам адмыў ад крыві твар, апрануўся і сеў у машыну, паўкругам разварнуўся і зноў выйшаў да моста. Спакойна, але зацята, за метраў трыццаць выраўняў машыну, як некалі вучылі інструктары і расказвалі сябры, адкінуўся да спінкі сядзення, нібы прыцэліўся на мост, не апусціўся пад браню і не зачыніў люк, хоць гэта было ў яго залатое правіла. Пад бранёю, як і перавернецца машына, галава цэлая будзе. Ён глядзеў, як успаўзае на мост гусеніца, і — самае дзіўнае — не адчуваў ніякага страху, бо і сам мост здаўся не такім высокім, і каляя даволі шырокая. Нават захацелася паспрабаваць паварушыць за штурвал, пакіраваць. Калі машына сышла з моста і Касцюкевіч азірнуўся назад, то ўбачыў на белым снезе дзве роўненькія стужачкі гусенічнага следу, усміхнуўся стрымана і з палёгкаю, як скінуў з сябе вялікі цяжар. Другі раз ён паспрабаваў на мосце паварушыць за штурвал і адчуў, як машына ледзь прыкметна мяняла кірунак. Потым паспрабаваў пераязджаць мост і з зачыненым люкам, толькі ўсміхнуўся, калі зірнула ў трымплексы снегавая бель. Некалькі разоў пераехаў мост і на большай хуткасці — нестала хвалявання, бо

была пераадолена галоўная перашкода ў ім самім, ён адчуваў у сабе невядомую дасюль унутраную сілу.

Ён не гнаў машыну да стаянкі на поўнай хуткасці, як звычайна зрабіў бы гэта, ехаў паволі, адкінуўшыся да спінкі сядзення і адчуваў, што машына таксама стомленая, як і ён сам.

На стаянцы, калі заглушыў матор, адчуў, як тупа баліць галава, нават паварочваць шыяй трэба асцярожна.

Касцюкевіч адняў шыперку, адкінуў спінку сядзення, лёг, адчуваў, як ад разагрэтага матора пацяклі па твары цёплыя паветраныя струмені...

Калі зашарэла на прыцемак, перастаў ісці снег, нечакана праяснілася неба, нізкае і халаднавата-зялёнае, як падсвечанае мёртвым святлом сігнальнае ракеты. А зямля была белая.

Прыехалі на «лятучцы» механікі, нампатэх роты, камандзір.

Касцюкевіч асцярожна, баючыся спатыкнуцца ці паслізнуцца, бо ад кожнага неасцярожнага руху стукала болем у галаву, дайшоў да «лятучкі», улез у яе, далажыў камандзіру, што ўсё ў парадку, сеў на варштат, узяў між каленяў прыемна-цёплы кацялок са стравою. Еў прагна, не адчуваў, што да яго прыглядаюцца, потым толькі заўважыў пільны камандзірскі позірк.

Камандзір роты, малады яшчэ худатвары капітан з чырвонымі ад ветру павекамі, запытаў:

— Што з вамі, Касцюкевіч? Што з галавою?

— А так, таварыш капітан, абадраўся,— і каб пацвердзіць сказанае, што няма нічога сур'ёзнага, Касцюкевіч весела круцянуў галавою і аж падціснуў ад болю вусны. І капітан заўважыў гэта.

— Вячэрайце, і вас завязуць у медсанбат.

— Таварыш капітан, не трэба, чэснае слова! Я застануся!..

Касцюкевіч паставіў кацялок, усхапіўся на ногі,— ён і падумаць не мог, што цяпер яго могуць зняць з ваджэння.

І, мабыць, на твары ў яго было і такое жаданне, і нешта новае, невядомае дасюль капітану, што той уважліва прыгледзеўся да салдата з такім па-мужчынску спакойным позіркам, як у чалавека, які ведае, чаго ёнварты. Гэта быццам бы і не той самы механік, які б не стаў напрошвацца на начное ваджэнне, бо і ўдзень не можа справіцца з машынаю. Таго капітан і сам бы з радасцю зняў, каб толькі прычына, з праверачных заняткаў, але той застаўся недзе ў мінулым, за белым снегам.

Капітан кіўнуў галавою, каб салдат канчаў вячэраць, і выйшаў з машыны — праверыць, ці ўсё гатова да начных заняткаў...



## НАЧНЫ МАРШРУТ

Непраглядная чарната, быццам густая цягучая вадкасць, затапіла дрэвы. У лесе не было чуваць ні гуку ні шолаху. Толькі часам з цемры старая яліна працягвала сваю калючую шырокую лапу і гладзіла па твары. Тады Грышкоў аж сцепаўся ад нечакана халоднага дотыку.

Ён крыху адстаў — на нейкі там крок — ад свайго напарніка Барзова, не бачыў яго ў цемені, нават шоргат падкаваных салдацкіх ботаў па зямлі чуўся нібыта зда-

ля, здавалася, што Барзоў недзе далёка наперадзе. Тады Грышкоў прыбаўляў ходу і натыкаўся на Барзова, які гучным шэптам лічыў крокі.

Барзоў спыняўся, свяціў ліхтарыкам на лісцік паперы з накрэсленым на ім маршрутам, правяраў па компасе, ці правільна ідуць яны, і ўсміхаўся, пазіраючы на Грышкова. Грышкоў не падаваў і выгляду, што ён заўважае гэтыя ўхмылкі, прытвараўся, што ўважліва прыглядаецца да компаса, да зялёных фасфарычных кропачак на цыферблаце і на хісткую, рухомую кропачку на магнітнай стрэлцы. Грышкоў здагадаўся, што ўвесь іхні маршрут разлічаны на лесавыя дарогі, што, каб не збіцца з яго, галоўнае не праваroніць, дзе мяняецца кірунак. Там абавязкова будзе перакрыжаванне, ці развілка, ці паваротка. Грышкоў ведаў і тое, што маршрут доўгі, каб праверыць і як арыентуецца салдат, і як хутка ён умее хадзіць ноччу. Грышкоў не баяўся, што ён прыстане, не баяўся, што і заблудзяцца яны ў лесе, бо Барзоў не горш за яго, Грышкова, умеў хадзіць па азімуце. А тое, што маёр даў і азімут і компас Барзову, гаварыла само за сябе: маёр ведаў, што Грышкоў чужы чалавек у лесе, маёр ужо не хацеў пакінуць Грышкова ў разведцы.

Калі не шанцуе чалавеку, то не шанцуе заўсёды. Грышкоў мірыўся з тым, што не быць яму ні пагранічнікам, ні дэсантнікам — малы ростам, шчупленькі. Хоць бы трапіць у танкавыя войскі. Дарма, што ён маленькі, але ён натрэніраваны, як гімнаст, і яму, маломy, было б зручна ў танку. Ды не — ні ў танкісты, ні ў матросы. Трапіў Грышкоў у звычайную пяхоту і змірыўся, што служыць яму мотастралком, але з'явілася нечаканая новая надзея ў яго. Зборамі маладых салдат камандаваў начальнік разведкі, сухенькі, невысокі маёр з вострым носікам на худзенькім загарэлым твары, з белымі ад сівізны валасамі, у фуражцы з маленькім казырком, які прыкрываў белы, стары і некалі, мабыць,

страшны шрам. Хадзіў маёр неспадзявана хутка і нячутна, нібы не дакранаўся ботамі да зямлі. І яшчэ любіў маёр насіць не плашч, а плашч-накідку, якая, бы кавалерыйская бурка, трапятала на ім на ветры ад імклівае хады. Было штосьці рамантычнае, прывабнае не толькі ў абліччы маёра, а і ў тым, як гаворыць ён, як маўчыць, толькі крышку жмурыць на субяседніка зялёныя вочы, нібы ўсміхаецца.

На занятках па фізпадрыхтоўцы, гледзячы, як Грышкоў лёгка выконвае практыкаванні на брусах і на турніку, маёр прыветна ўсміхнуўся і сказаў: «Такія хлопцы мне ў разведку патрэбны!»

Тады ўвесь «каранцін» — так называлі старослужачыя зборы навабранцаў — займеў для Грышкова новы сэнс. Грышкоў, як толькі ставала сілы, «выкладваўся» на занятках, стаў лепшым салдатам на зборах і ўжо і сам паверыў, што быць яму разведчыкам. Яго аж дрыжыкі праціналі ад думкі, што праз нейкі тыдзень ён будзе звацца разведчыкам!

Але як беднаму жаніцца, то і ноч кароткая. На зборы прыслалі пяцёх чалавек, спецыяльна для разведкі, спартсменаў, з іх хоць і зараз малюй партрэт разведчыка. Ды новенькія і адчувалі сябе як разведчыкі, і хоць непрыкметна, але звысака пазіралі на сваіх таварышаў па зборах.

Пасля ж таго, як сёння маёр вывеў групу на начныя заняткі, паставіў Грышкова на пару з новенькім, кандыдатам у майстры спорту, сібіраком Барзовым, Грышкоў зразумеў, што не быць яму ў разведцы — не зраўняеш жа яго з Барзовым.

Вось таму і ішоў Грышкоў ззаду ў Барзова, і не баяўся лесу, можа, таму, што здаваўся ён усяго толькі вялікаю прастораю, на якой густа растуць дрэвы і кусты, а жывыя істоты ў ім толькі ён, Грышкоў, Барзоў ды яшчэ чатыры пары маладых салдат, якія таксама ідуць зараз недзе ў гэтым жа лесе, можа, зусім побач,

адгароджаныя глухою цёмнаю сцяною лесу, які ўсё ж ціхенька і ленавата шумеў увышыні вяршынямі, якіх, мабыць, не затапіла густая чарната, і яны маглі варушыцца на ветры.

Грышкоў усё ж лічыў крокі, нейкі хітры механізм у галаве вёў падлік беспамылкова і бясстрасна, і думкі не перашкаджалі яму.

Што ж, няхай і пяхота! Можна і ў батальёне быць шафёрам, вазіць мінамётчыкаў ці яшчэ каго... Грышкоў нават павесялеў ад таго, што ўявіў сябе ў кабіне на маршы, калі абганяе запыленых і стомленых разведчыкаў...

Грышкоў не пачуў, калі спыніўся Барзоў і наляцеў на яго, хацеў спытаць, што такое, але рука Барзова моцна сціснула Грышкова за плячук. Грышкоў адчуў, што Барзоў ледзь прыкметна дрыжыць усім целам. У той жа час і ў яго самога варухнуліся на галаве валасы: з лесу набліжаліся маленькія злавесныя агеньчыкі. Яны бясшумна падбіраліся да дарогі.

Барзоў зняў руку з пляча ў Грышкова і ступіў два крокі назад, як хацеў схавацца.

У Грышкова мільганула думка — узлесці на дрэва, ён нават азірнуўся, каб нагледзець дрэва, але з месца не крануўся: страшна нават варухнуцца ў гэтай злавеснай цішыні.

Грышкоў не памятае, колькі стаялі так, пакуль, нарэшце, Барзоў не адпусціў плячо Грышкова і невядома нашто ўключыў ліхтарык. Вузкі праменьчык белага святла высвяціў з цемры толькі чорныя ствалы дрэў, голы куст арэшніку, махнуўся ўздоўж па дарозе, парослай доўгаю рэдзенькаю і скудлачанаю па-восеньску травою. На імгненне здалося, што цяпер яны ўдвух сталі бачны ўсяму свету, захацелася хутчэй зноў знікнуць у цемры. Але пры святле зрабілася і сорамна адзін перад адным за перапалох.

Барзоў патушыў ліхтарык і асцярожна пайшоў па

дарозе, быццам чакаў, што агеньчыкі вось-вось кінуцца на яго з цемені. Грышкоў пайшоў за ім, успомніў, як ціснуў Барзоў яго за плячо, зразумеў, што той быў таксама напалохаўся, можа, больш і за Грышкова, хоць такі і дужы. Ад гэтага ў Грышкова раптам абудзілася адчайная смеласць.

— Стой! — напаўголасу, але цвёрда сказаў ён Барзову.

Барзоў спыніўся. Ён нібы зразумеў, што хоча Грышкоў, можа, і сам адчуў, што проста так нельга прайсці збоч.

— З маршруту саб'ёмся,— невядома чаму сказаў Барзоў.

— Пастой тут, папільнуй маршрут,— нейкая вясёласць і гарачая ўпартасць захлынулі Грышкова.

— Ну, ты!..— Барзоў пагрозліва бліснуў ліхтарыкам у вочы Грышкову, абцасам правёў упоперак дарогі разорку, зірнуў на компас і на агеньчыкі. Грышкоў усміхнуўся з гэтае яго арыентацыі: агеньчыкі зусім побач ад дарогі.

Па лесе ішлі поруч. Барзоў не выключыў ліхтарыка, свяціў перад сабою. Маўчалі. Барзоў быў гараджанін і не ведаў лесу, гэтак жа, як яго не ведаў і Грышкоў, бо жыў на палявой Случчыне і лес бачыў толькі праездам.

Агеньчыкі былі не так і блізка, як здавалася з дарогі. Пачаўся часты сасоннік, усланы ігліцаю, з палянкамі зялёненькага маленькага моху ў лагчынцы. Пад узгорак пайшоў сасоннік, таксама не стары яшчэ, з сухімі ніжнімі галінкамі. Пад нагамі затрашчаў верас. Запахла горкім дымам, зашчыпала ўваччу. Агеньчыкі былі ўжо блізка, і ніякія не зялёныя, звычайныя чырвоныя агеньчыкі, і нікуды яны не рухаліся.

На самым узгорку тлеўся верас. Часам галінкі ўспыхвалі невялічкім слабым полымем, і тады здавалася, што агеньчыкі перабягаюць туды-сюды.

Далей, за ўзгоркам, штосьці дымнавата чырванелася, варушыліся шырокія невыразныя цені. І адтуль, з дымнае чырвані, нібы перад захадам у спякотныя летнія дні, дыхнула не толькі дымнаю гаркатою, але і моцным сухім цяплом, як ад напаленае, каб пячы хлеб, печы.

Барзоў прыбавіў кроку, і Грышкоў успяваў за ім подбегам.

Верас сухімі абсмаленымі галінкамі, як кіпцюрамі, драпаў за халявы кірзавых ботаў.

На тым баку ўзгорка між рэдкага сасонніку гарэў верас. Полымя раптоўна ўспыхвала і ярка, молада гуляла па цэлай лапіне, потым прападала, агонь усхопліваўся ў іншым месцы. Нібыта лясны пажар, як вайсковае падраздзяленне, кароткімі перабежкамі падбіраўся ад невялікае лясное паляны туды, дзе за верасам і рэдкім сасоннікам пачынаецца густы лес, з сухім, як порах, ніжнім галлём. Калі пажар дабярэцца да яго, дастаткова будзе і маленькага ветрыку, які павяваў ад палянкі, каб дрэвы ўспыхнулі траскучымі факеламі. Тады разагрэтае паветра закруціцца ў шалёным спякотным віхры, панясе іскры і вуголле,— загуляе пажар, загудзе, дыхне такою спёкаю, што і не падступіцца!

Пакуль жа агонь толькі нясмела хапаўся за адзінокія ніжнія галінкі. Яны адгаралі і падалі ў верас, а той затоена дыміўся шызым дымам, свяціўся чырвоным вуголлем.

Здавалася, што лес моўчкі, зацята супраціўляецца агню, а той злосна, але яшчэ бяссільна кідаецца на яго, і заціхае, адступаецца тады, як старонні вопытны зводнік, з паляны дыхае ветрык, падбадзёрвае агонь, і той з новаю сілаю ўсхопліваецца і бяжыць па сухім верасовым лісці, чапляецца за голле...

— Футы-нуты! — з палёгкаю сказаў Барзоў, выключыў ліхтарык.

Грышкоў таксама з палёгкаю засмяяўся — чалавеку заўсёды бывае лёгка і радасна, калі ён перамагае страх.

— А мы пужнуліся былі, га! — весела сказаў Грышкоў да Барзова.— От каб хто глянуў, га?

Грышкоў засмяяўся ўголас у гэтым, цяпер здавалася, знаёмым і бяспечным лесе.

Барзоў не засмяяўся, толькі крышку скрывіў твар: ён не збіраўся раўняцца з Грышковым, болей таго, палохацца разам з ім.

Барзоў пстрыкнуў ліхтарыкам, пасвяціў на гадзіннік, незадаволена кінуў:

— Хопіць, пайшлі. Час ідзе!

— А пажар? Лес жа загарыцца!

Грышкоў бачыў кінафільмы пра пажар і цяпер выразна ўявіў, як насохшы верас успыхне не толькі сваімі маленькімі лісцікамі, а і голлем, тады агню не спыніць, тады ад яго пойдзе верхавы пажар.

Барзоў спыніўся, хвіліну памаўчаў: ён нават і не думаў пра гэта. Каб хоць сам дадумаўся... А так выходзіла, што Грышкоў настояў на тым, каб прыйсці сюды, і тут заставайся зноў жа па ягонай прапанове тушыць пажар.

— А ты што, ляснік? Табе камандзір паставіў задачу. У цябе ёсць загад камандзіра! — цвёрда і з палёгкаю паўтарыў Барзоў: цяпер у яго была падстава спрачацца. Але спрачацца ён з нейкім там Грышковым не збіраўся.

— Тупай следам,— коратка кінуў Барзоў і паволі пайшоў прэч, свецячы сабе пад ногі ліхтарыкам. Ва ўсёй яго натрэніраванай постаці адчувалася перавага і ўпэўненасць у тым, што інакш і быць не можа, што Грышкоў абавязкова пабяжыць следам і не пасмее застацца ў лесе адзін.

Грышкоў на нейкае імгненне ўкамянеў, здзіўлены пагардлівасцю Барзова, ён не мог і ўявіць, што чалавек

так можа пагарджаць другім! Але гэты другі быў ён сам, Грышкоў, ні ў чым не вінаваты перад Барзовым!..

Калі прайшло ўтрапенне, Грышкоў памкнуўся кінуцца ўслед за Барзовым. Ён не ведаў, што б рабіў з ім, не думаў, што Барзову ён, як кацяня сабаку. Але святло ліхтарыка пакалыхвалася слабаю плямінкаю недзе далёка між дрэў, было відаць, як яно спынілася. Барзоў, мабыць, чакаў, што Грышкоў будзе даганяць яго.

Цяпер Грышкоў ведаў, што, калі б яму давялося і памерці тут, ён не пайшоў бы даганяць Барзова, хоць і ўсумніўся ў тым, што мае права застацца тут, што трэба тушыць пажар замест таго, каб выконваць пастаўленую камандзірам задачу.

Грышкоў наламаў яловых лапак і рушыў да верасу, да агню, са злосцю і задавальненнем лупіў і лупіў з-за пляча па агеньчыках і вуголлі, нібы хацеў упляскаць яго ў зямлю.

Ён не разагнуўся да таго часу, пакуль не знясілеў, не задыхаўся, пачаў кашляць ад едкага дыму, а з воч пацяклі слёзы. Тады Грышкоў прыпыніўся, выцер рукавом пот з ілба, з задавальненнем агледзеў зробленае. Ён спадзяваўся ўбачыць патушаную паласу верасу, якая адмяжуе агонь ад лесу, але там, дзе ён пачынаў работу, цяпер як ні ў чым і не было, зрэдку весела ўспыхвала полымя.

Ля самага агню Грышкоў адчуў, як угрэлася паветра, нават горача было ў цела ад адзення, у ногі ад ботаў, цяжка дыхаць ад гарачыні і ад дыму. На потных руках чорным слоем наліп попел, і твар, мабыць, быў гэтакі ж самы.

Грышкоў са страхам адчуў, што работа яго марная, што ён перад гэтым агнём, у гэтым лесе штосьці маленькае і слабенькае, як маленькаю і слабенькаю здаецца чалавеку мурашка.

З адчаем і сумам падумалася Грышкову, што трэба было адразу бегчы за дапамогаю да людзей. Цяпер ён не ведаў, куды ісці, і страшна нават ступіць з асветленага ў лес.

Грышкоў зразумеў, што колькі яму тут ні працуй,— агню не перамагчы, а Барзоў прыйдзе з маршрута, дaложыць маёру... Грышкоў уявіў, як прыедуць сюды, убачаць яго тут!..

Грышкоў паволі, як зацкаваны сабакамі звярок, агледзеўся навокал, шукаў выйсце. Чырвона свяціліся ў цемры вугольчыкі, слаба хісталіся чырванаватыя цені ад полымя, якое ўспыхнула ў розных месцах... Вакол была чужая і халодная цемень.

Грышкоў аж сцепануў плячыма.

Ён ведаў, што па лесе ісці надаўгад нельга, так з лесу не выйсці. Трэба каб хоць які арыенцір... Арыенцір...

У памяці засталася нейкая заметка. Арыенцір... Грышкоў зноў пачаў збіваць лапкамі полымя, рабіў гэтую работу міжволі. І зноў аж горача зрабілася сэрцу ад думкі пра тое, што яго будуць шукаць, як прапажу, як недарэку якога-небудзь!

Ля ног у Грышкова суха трэснула на агні яловая галінка, быццам стрэліла, вугалёк падскочыў угору і пакінуў за сабою дымны тоненькі след, які застаецца і за ракетаю ў месячным небе пры ціхім надвор'і.

Грышкоў з палёгкаю ўсміхнуўся: увесь час, як і выйшлі яны, уначы чуліся стрэлы, кулямётныя і аўтаматныя чэргі са стрэльбішча. І пакуль яны ішлі з Барзовым, страляніна заставалася ўвесь час злева. Грышкоў здагадаўся, што ішлі яны лесам уздоўж стрэльбішча і павінны павярнуць управа, бо ўлева выйшлі б у мішэннае поле, пад кулі.

Каб не памыліцца і не збіцца з кірунку, Грышкоў пайшоў на стрэлы напрамкі па лесе, натыкаючыся на дрэвы, спатыкаючыся на ламачча, за якое цяпер, у

цемені, на кожным кроку чапляліся ногі. Але страшней за ўсё былі вострыя галіны, якія ўпіраліся то ў грудзі, то ў бакі, то цалялі ў твар, нібы хацелі выпараць вочы. Дрэвы неяк знарок меркавалі кальнуць балючай. Грышкоў засланіў вочы сагнутаю ў локці рукою, ішоў крыху рубам, спяшаўся, хутка стаміўся, але яму здавалася, што ідзе ён даўно, а страляніна не набліжалася, пачала закрадвацца трывога — а ці правільна ён прыняў рашэнне?

Калі пад нагамі адчулася сцяжынка, Грышкоў спыніўся, перавёў дыханне, пайшоў вобмацкам па сцяжынцы — яна павінна была весці на край лесу, да стрэльбішча. Сцяжынка хоць і блудзіла крыху, але страляніна рабілася мацнейшаю, ды і пад нагамі станавілася тупчэй.

Лес кончыўся нечакана. За шчыльным ельнікам расхінулася чорнае глухое поле. Але цемень яго была не такая страшная, як лесавая, таму што на полі ў радок свяціліся чырвоныя ліхтары. Нняркае чырвонае святло нібыта саграваля асеннюю ноч, ад яго неяк адразу на душы ў Грышкова зрабілася спакайней і ўтульней, хоць ён і не ўспеў здагадацца, куды прыйшоў.

Нечакана па ўсім полі замаргалі, забегалі слабенькія агеньчыкі. Адразу ж поле ажыло ад злосных кароткіх сполахаў полымя з аўтаматных і кулямётных ствалоў, фасфарычныя, незямныя светлячкі трасірных куль перакрэслілі цемень — і адзін за адным патухалі мігатлівыя агеньчыкі ў полі.

Страляніна пачала пакрысе аціхаць, і нечакана апошняя даўгаватая чарга трасірных куль снапом вогненных струменяў прабіла начную чарнату, ударылася аб нябачную перашкоду, іскрыста і казачна рассыпалася ўбакі і ўгору. Адна куля доўга, калі ўжо астатнія патухлі, усё яшчэ ляцела ў неба — бы хацела вырвацца ў Сусвет зямная зорка.

Чырвоныя ліхтары патухлі, замест іх засвяціліся белыя, прагучаў сігнал адбою, запалілася святло на галоўнай вежы ў кіраўніка стральбы.

Грышкоў ужо ведаў, што гэта стрэльбішча іхняй часці, на якім сам ён страляў не раз, але ўсё яшчэ стаяў, зачараваны відовішчам начное стральбы. Зусім побач было і перакрыжаванне, з якога маёр адправіў іх па маршруту, і да казармы падаць рукою...

Грышкоў паўз лес выйшаў на дарогу і пабег да вежы кіраўніка стральбы — адтуль можна было паведаміць пра пажар. Ён з ходу ўзбег па металічнай лесвіцы на другі паверх і толькі там прыпыніўся, каб сабрацца з духам. З вышыні ён агледзеўся навокал. Зусім побач свяціўся агнямі гарадок, за лесам відneліся рэдкія агеньчыкі вёскі, а ў лесе добра была відаць чырвоная пляма агню, нібы там распалілі вялікае вогнішча. Ад таго, што такім невялічкім і добра бачным быў адсюль той лесавы пажар, які так напалохаў Грышкова, ад таго, што лес, у які пусціў іх ноччу маёр, быў невялікі, свойскі лес, спачатку невыразная трывога варухнулася ў сэрцы, потым стала зразумела, што пажар гэты даўно бачылі, што дарэмна яго, Грышкова, геройства. Пасмяяцца можна толькі і з яго, і з усіх тых страхаў, якія былі там, у лесе!

Нібы аглушаны гэтым, Грышкоў усё ж зайшоў на пульт, прыпыніўся на дарозе, пакуль кіраўнік пстрыкаў тумблерамі са светленькімі фасфарычнымі галоўкамі.

— Слухаю вас,— павярнуўся да Грышкова незнаёмы старшы лейтэнант.

Грышкоў дакладваў і чуў свой голас здаля, сам здзівіўся, як гэта ўсё простае і звычайнае, пра што ён гаворыць, і з-за гэтага аж няёмка, што адрываеш старшага лейтэнанта ад работы. Грышкоў чакаў, што старшы лейтэнант засмяецца ці перапыніць яго і не даслухае да канца. Але старшы лейтэнант не перапыніў,

не ўсміхнуўся. У святле ад пульта твар яго здаваўся бледным, з цёмнымі пятнякамі пад вачыма — старшы лейтэнант быў стомлены, і яго і на самай справе не цікавіла тое, што расказваў салдат.

— Мы пазванілі дзяжурнаму... Наступная рота будзеісці на стральбу, зойдзе і патушыць агонь. Туды, мабыць, трасеры рыкашэтам залятаюць, летам штодня гарыць,— неахвотна растлумачыў Грышкову старшы лейтэнант, і раптам ажывіўся: — А вы, радавы, з каранціна? Вас што, па аднаму Цімохін у лес пускае?

Невядома было, чаму больш здзівіўся старшы лейтэнант: ці таму, што Грышкоў з каранціна, ці таму, што ён адзін быў у лесе.

— Не, напарнік пайшоў па маршруце, не захацеў аставацца,— адказаў Грышкоў і адчуў, што чырванее. Такім недарэчным цяпер самому здалося тое пажаратушэнне.

Старшы лейтэнант раптам ажывіўся, уважліва прыгледзеўся да Грышкова, і з твару ў яго зляцела і стомленасць і абыякавасць.

— Вы без компаса? Як выйшлі сюды, не заблудзіліся? Па страляніне? Не пабаяліся адзін застацца ў лесе? Страшнавата было? — старшы лейтэнант пытаўся і сам адказаў на пытанні, устаў, падышоў да Грышкова бліжэй, нечакана рухавы, спрытны, усміхаўся. І ад гэтае юнацкае ўсмешкі бы памаладзеў на многа год.

— Хочаце да мяне, у гаўбічную, ва ўпраўленне? Мне трэба такія хлопцы. Як ваша прозвішча?

Грышкоў ад нечаканасці разгубіўся і не мог сказаць. Ён толькі ўважліва прыгледзеўся да старшага лейтэнанта — ці не жартуе той, і неспадзявана і для самога сябе адказаў з гонарам і спакойна:

— Куды загадаюць, туды і пайду служыць.

— Правільна, салдат,— гэта ўжо мой клопат,— засмяяўся старшы лейтэнант, і Грышкоў таксама засмяяў-

ся, быццам удала прайшоў цяжкі кавалак дарогі, а тая, што наперадзе, хоць і не лягчэйшая, але знаёмая.

— Дарогу да маёра ведаеце? Не спазняецеся? У мяне тут матацыкліст унізе дзяжурыць, падвязе,— зноў сур'ёзна пацікавіўся старшы лейтэнант.

Грышкоў зірнуў на гадзіннік, часу ў яго хапала, каб прыйсці да маёра раней, чым вернуцца хлопцы з маршрута.

— Дзякую, таварыш старшы лейтэнант. Пяшочкам дайду! — Грышкоў адчуваў, што ўсміхаецца, і не мог стрымацца.— Дазвольце ісці?

— Ідзіце! — старшы лейтэнант павярнуўся да пульта.

Грышкоў усё яшчэ ўсміхаўся, сыходзячы па гулкай металічнай лесвіцы, і яму падабалася слухаць свае цвёрдыя ў начной цішыні крокі. Ён прыпыніўся на лесвіцы, з задавальненнем нетаропка закурыў, з асалодаю ўдыхаў гаркавы вострапахучы дымок ад цыгарэты. Палюбаваўся на яшчэ адзін заход стральбы на стрэльбішчы, і потым цвёрдым размашыстым крокам пакрочыў па дарозе да маёра. Ён не думаў зараней пра тое, як будзе дакладваць, бо апраўдвацца не было патрэбы, бо цяпер ён адчуваў чаго варты сам і разумеў, што гэта толькі пачатак, што гэта толькі вучнёўства, а ўсё сапраўднае салдацкае жыццё наперадзе.

І яно па сіле яму.



## ВЯРТАННЕ ДА СВАЙГО ЛЕСУ

Мужчына зразумеў, што заблудзіўся. Невысокага росту, у вылінялай старой штармовачцы і лыжнай шапачцы, ён прыпыніўся на прасецы.

Пачынала вечарэць. Мужчына ведаў, што восенню цямнее хутка. І гэты морак, што лёгка апаў на лес, хутка пагусцее, ператворыцца ў глухую чарнату восеньскае ночы. Мужчына прыбавіў ходу, захваляваўся, як і заўсёды хвалюцца людзі, калі разумеюць, што заблудзіліся, і спяшаюцца замест таго, каб спыніцца,

разгледзецца, падумаць, і таму яшчэ больш абмарочваюцца і пачынаюць блудзіць безнадзейна. Так і мужчына. Ён яшчэ да прыцемак адчуў, што страціў арыентацыю. Адчуў, як адчуваюць гэта вопытныя лесавікі. Але мужчына не быў вопытным лесавіком, адразу разгубіўся, а калі спахапіўся, што нельга ў такіх выпадках мітусіцца, было позна.

І цяпер, прайшоўшы шпарка добры кіламетр, ён спыніўся.

Прыцемак пагусцеў, а таму здалося, што пачаўся гусцейшы лес. І, значыць, ідзе ён не з лесу, а ў глыбіню яго. Мужчына зняў шапачку, выцер спацелы твар, азірнуўся навокал.

З аднаго боку да прасекі падступаўся малады шчыльны ельнік, а з другога боку шумеў голлем і рэдкім лісцем бярэзнік. Прасека была старая, зарослая кустамі і травою. У густым восеньскім пошуме нядобра парыпвала непадалёку надламанае дрэва. Хутчэй за ўсё асіна, якая падгніла і скардзілася ветру на свой лёс. Ад гэтага мёртвага парыпвання мужчына сцепануў плячыма і пайшоў далей, каб не чуць яго. І без таго было на душы, хоць закрычы, пагукай каго. Але, дарослы чалавек, ён ведаў, што нікога не дагукаешся, нікуды не дабяжыш. У памяці ўсплылі недарэчныя і жахлівыя расказы пра людзей, якія заблудзіліся... Мужчына не верыў тым росказням, але на душы зрабілася нядобра. Ён даўно, ад самага дзяцінства, не жыў у лесе і адвык ад яго, даўно гарадскі чалавек, эканаміст будаўнічага ўпраўлення Віктар Андрэевіч Молік, на думку адных, занадта хітры, на думку другіх — бесхрыбетны чалавек, які ніколі не запярэчыць начальству, а ўвогуле — неблагі і няшкодны. Сам Віктар Андрэевіч лічыў, што яму проста зайздросцяць за тое, што ўмее жыць і з начальствам, і з падначаленымі.

Мабыць з-за таго, што хацелася пачуць хаця які жывы гук, звязаны з чалавекам, з-за таго, што ўвесь

час прыслухоўваўся, здалося, што справа загудзела машына. Віктар Андрэевіч кінуўся напрасткі па ельніку, бег, пакуль не зачапіўся кішэняю штармоўкі за востры і моцны яловы сук. Адсопся, зразумеў, што абмануўся.

Цяпер хоць злуй на самога сябе, хоць смейся за тое, што і гэтага разу захацеў быць хітрэйшым за ўсіх: хоць заехаць далёка ад горада, але назбіраць грыбоў у гэтую сухую і няўдалую восень. І заехаў, дзе быў гадоў пятнаццаць назад, ды і тое не ўлетку, не ўвосень, а калі ўсё завалена снегам.

Вядома, ён нічога не пазнаў у гэтым лесе, хаця тады здавалася, што запомніў на ўсё жыццё невялікую палянку недалёка ад узлеску, захінутую з аднаго боку рэдзенькім і бездапаможным на ветры бярэзнікам, а з другога — кудлатым сасоннікам...

Цяпер, стоячы між густога ельніку, Віктар Андрэевіч раптам успомніў твар свайго механіка: чырвоны ад марозу і ветру са снегам твар, які павярнуўся да яго ў скупым паўзмроку машыны.

Той крыху насмешлівы і хітраваты позірк не пастарэў і не змяніўся.

І Віктар Андрэевіч азірнуўся, нібы механік і зараз быў побач і бачыў наскрозь Віктара Андрэевіча, як тады бачыў і разумеў сержанта-першагодка Віктара Моліка.

Віктар Андрэевіч агледзеўся навокал яшчэ раз. Цемра апускалася на зямлю. Не заставалася спадзявання, што будуць відны зоркі. Ды каб і былі яны, наўрад ці змог бы зарыентавацца па іх і выйсці з лесу цяпер Віктар Андрэевіч. Самае правільнае — застацца на начлег. Чыстаму, нават і незагарэламу за лета гарадскому мужчыну, які даўно прывык спаць толькі ў пасцелях, да душа кожнае раніцы, да шклянкі кефіру перад сном, цяпер мусілася ўспомніць тое, што некалі ведаў.

Віктар Андрэевіч прайшоў наперад, прадраўся скрозь малады ельнік і спыніўся перад дзвюма старымі ялінамі, якія кашлата стаялі ў акружэнні маладое гушчэчы. Трэцяя яліна была спілавана. Ад яе засталося няспаленае галлё ў лаўжах і два ладныя палены з вершаліны.

Віктар Андрэевіч разведаў, што яму было патрэбна. Падцягнуў да ялін палены, потым пахадзіў па лесе, наламаў яловых лапак. У маладым ельніку накруціў пучкоў з сухіх яловых галінак. Пад аблюбаванымі ялінамі расклаў невялікае вогнішча, потым паднёс, падкінуў галля з лаўжа. Вогнішча запалала высока і ярка, гучна пастрэльваючы і падкідаючы ў паветра яркія іскры.

Пры святле вогнішча мужчына наслаў амаль у калена лапак пад ялінамі, а з самых большых і густых зрабіў нешта накшталт сценкі за пасцеллю. Перад сценкаю і гарэла вогнішча.

Ад работы мужчына ўгрэўся, расшпіліў штармоўку. Пад ёю была яшчэ лёгенькая, але цёплая футравая куртачка. Апрануў яе, дарэчы, як і ведаў, што давядзецца начаваць у лесе. Зрэзаў з лазовага кусціка дубчык, завастрыў яго і толькі тады прысеў да вогнішча, дастаў поліэтыленавы мяшочак, у якім была ежа. Ад таго, што гэтак добра ўладкаваўся, Віктар Андрэевіч задаволена ўсміхнуўся, як і заўсёды задаволены сабою, азірнуўся, быццам мог быць тут ягоны механік і можна было сказаць яму — ну, бачыў?

Хлебны водар перамог і пах дыму, і свежа наламаных яловых лапак. Віктар Андрэевіч накалоў на завостраны дубчык некалькі кружочкаў каўбасы, уткнуў дубчык у зямлю так, каб каўбаса падпякалася ў духу над вугольчыкамі, укінуў у рот кавалак хлеба. Такім смачным хлеб здаўся яму толькі раз у жыцці, упершыню даўно, у гэтым жа самым лесе...

Падраздзяленне выйшла па трывозе сакавіцкім вечарам. Таго году амаль усю зіму стаялі адлігі, не было ні вялікага марозу, ні снегу, ні мяцеліц. Не хацелася верыць, што пасля таго, як пачало хадзіць вышэй сонца і на прыгрэвах на шыферным даху зачарнеліся першыя плямы ад падталага снегу, паспрабуе паказаць сябе зіма.

Мокры снег паваліў у абед, а потым падхапіўся вецер. Пад вечар гуляла такая завіруха, што не выехаць, не выйсці.

Камандзір мотапяхотнага аддзялення Віктар Молік, або проста Віця, стаяў у люку, як дзед-мароз, праціраў акуляры, на якія наліпала снегу. Ён упершыню выходзіў на зімовыя вучэнні.

На ноч узяўся мароз. Вецер павярнуўся з поўначы. Снег стаў сухім і калючым. Віктар уссунуў акуляры на танкашлем. Яны перашкаджалі церці шчокі, можна было абмарозіцца.

Рушыўшы надвячоркам, калона спынілася толькі апоўначы. Спынілася ў адкрытым полі, і хутка машыны сталі падобнымі на снегавыя гурбы.

Было катэгарычна забаронена заводзіць матогы і выходзіць з машын. Механік пазнімаў шыперкі, у машыне спачатку было цёпла і ўтульна.

— Давайце адпачываць, таварыш сержант, пакуль у машыне цёпла,— прапанаваў ён Віктару.

Адкінуўшы спінку сядзенняў, Віктар з механікам умасціліся і заснулі, прыгрэўшыся. Віктар не скідаў танкашлема і не выключаў радыёстанцыю.

Аднак пабудзіў яго не голас камандзіра, а холад. Цяпло ў бранявой шкарлупіне трымалася нядоўга. Нават праз цёплы камбінезон дабраўся ад брані металічны холад.

У вежы неспакойна пакручваўся аператар-наводчык. Пачуўшы, што Віктар прачнуўся, ён сказаў:

— І вам халаднавата, таварыш сержант?

Віктар нічога не адказаў. Са сну была стомленая і цяжкая галава, як учадзеўшы.

Механік спаў, хоць і яго дабіраў холад. Ён пакручваўся, нібы яму нешта мулялася, але не прачынаўся.

— Вы бярыце прыклад з Качыеру, таварыш сержант. Ён будзе спаць, хоць і на снег яго вынесі,— зноў паспрабаваў загаварыць наводчык.

— Ён за штурвалам, а ты спаў усю дарогу ў цяпле,— адказаў Віктар. Гаварыць не хацелася. Каб спаць.

Ночы, здавалася, не будзе канца. Віктар то драмаў, то зноў прачынаўся, варушыўся, каб хоць крыху сагрэцца.

Ён прачнуўся ад моцнага стуку па брані. Адчыніў люк. Ля ягонае машыны стаяла машына камандзіра роты. Грукаў па брані незнаёмы Віктару афіцэр.

— Сержант Шэлехаў, паступаеце ў распараджэнне старшага лейтэнанта Кузняцова! — крыкнуў камандзір роты.— Зразумеў?

— Так точна, таварыш капітан!

Камандзір роты крануў за плячо свайго механіка, і машына прапала ў снегавой каламуці.

— Сержант, заставайцеся на месцы. Я паеду ў вежы,— па-гаспадарску распарадзіўся старшы лейтэнант.

Праз хвіліну аператар задаволена ўмасціўся ў дэсантным аддзяленні. Качыеру, зачыніўшы шыперкі, уключыў падагравальнік і рыхтаваўся заводзіць матор.

Віктар тады зарадаваўся, што нарэшце скончылася сядзенне ў халоднай машыне. Хоць можна будзе адагрэцца.

Віктар не камандаваў. Чуў у навушніках мяккі, спакойны, нібыта крыху насмешлівы, голас незнаёмага яму афіцэра, які перагаворваўся з механікам.

Было прыемна сядзець пад бранёю. Віктар не зайздросціў афіцэру, які тырчаў у вежавым люку.

Спачатку Віктар спрабаваў сачыць за маршрутам. З поля яны выехалі на гравійку, імчалі па ёй хвілін дваццаць, як даганялі каго, потым скіравалі ўправа, у лес, ехалі па вузкіх лесавых дарогах, у зацішку, бо мяцеліца гуляла высока над вершалінамі.

У машыне стала цёпла, і Віктар незаўважна задрамаў.

Прахапіўся ён ад таго, што машына скаланулася і правалілася ўніз на нешта мяккае, спынілася.

— Давай! Давай! — ужо не спакойным, а злосным голасам крычаў старшы лейтэнант механіку.

Матор роў на поўных абаротах. Запахла прыпаленым фрыкцыёнам.

Віктар адчыніў люк.

Машына стаяла паміж невысокіх кусцікаў лазы і алешніку. Над зямлёю ўсё раскашавала мяцеліца. Адразу ж ударыў у нос гнілы нясцерпны балотны смурод.

Балота задаволена пабульквала.

— Адкуль тут балота ў чыстым полі? Чорт ведае што! — старшы лейтэнант хваляваўся.

Віктар не слухаў, што далей гаворыць афіцэр, крыкнуў апаратару:

— Пасевіч — на выхад за мною. Качыеру — дабавіць абароты, каб не заглохла машына.

Афіцэр ужо стаяў ля машыны.

— Тут, глядзі, без цягача і не вылезеш,— сказаў Пасевіч.

— Якога цягача? У нас ні хвіліны ў запасе!

Зрывалася нейкае важнае заданне, якім спачатку быў задаволены і ганарыўся афіцэр. Ён не мог дапусціць, каб заданне сарвалася:

— Няма чаго балакаць! Ламаць галлё і класці пад гусеніцы!

Старшы лейтэнант быў энергічны, але, відаць, не меў да баявых машын ніякага дачынення.

— Таварыш старшы лейтэнант, галлё не дапаможа,— сказаў Качыеру.— Трэба...

— Выконвайце загад!

Старшы лейтэнант быў яшчэ і самалюбівы.

Пакуль ламалі галлё, Качыеру дастаў з дэсантнага аддзялення сякеру і высек некалькі алешынак.

Як толькі Качыеру сеў за штурвал і гусеніцы скрануліся з месца, нават і старшаму лейтэнанту стала зразумела, што галлё не дапаможа — яно лёгка падтоптвалася гусеніцамі і выграбалася за машынаю.

Віктар не ўспеў заўважыць, калі афіцэр з альховым калом аказаўся з боку машыны і пачаў падпіхаць галлё пад гусеніцу. Віктар убачыў, як даўгаваты кол, трапіўшы, мабыць, на гусеніцу між апорнымі каткамі, ірвануўся з рук старшага лейтэнанта, той хацеў не выпусціць яго, але не астоеўся, спатыкнуўся і потырч паляцеў наперад, ударыўся галавою аб востры рог брані над гусеніцаю і трапіў бы пад яе, каб Качыеру не ўспеў «выхапіць» фрыкцыён.

Калі Віктар падбег да афіцэра, той так і ляжаў нерухома, сціснуўшы галаву рукамі.

Утрох яны нейкі момант стаялі над афіцэрам, баючыся зачапіць яго, чакалі, што ён сам хоць паварушыцца, скажа што ці застогне. Афіцэр ляжаў нерухома.

Пасевіч чамусьці адступіўся ад яго на два крокі, нават і пры скупым святле фар Віктар убачыў, як пабялеў твар механіка.

І аператар, і механік глядзелі на яго, на камандзіра. Цяпер яны забыліся, што служаць па другому году, што камандзір іхні «салага».

Неяк міжволі апусціўся Віктар на калені, перавярнуў тварам угору нечакана цяжкага старшага лейтэнанта, дрыжачымі рукамі расшпіліў камбінезон. Віктар спачатку нічога не чуў, акрамя гарачага стуку крыві ў скронях. Потым слаба пачуў, як б'ецца ў грудзях у афіцэра сэрца.

Ніколі не забудзецца пачуццё пяшчоты да таго незнаёмага чалавека, які застаўся жывым, і разуменне свае адказнасці за яго жыццё.

— Разаслаць тэнт, асцярожна пакласці раненага! — загадаў Віктар.

Пакуль салдаты рассцілалі брызент, клалі на яго афіцэра, накрывалі, каб не замятала снегам, Віктар вырашыў: далажыць, што здарылася, і хутчэй дабірацца да бальніцы. У вежы ён знайшоў пакінутую афіцэрам сумку, адчыніў яе. Баючыся, каб не заблудзіцца, афіцэр адзначаў на карце больш адметныя элементы пройдзенага маршруту. Віктар пазнаў і гравійку, і паварот у лесе ля яе, што памятаў яшчэ і ён. Апошняя кропка стаяла на ўзлеску, перад выхадам на поле, пасярод якога значыліся кусцікі, тыя самыя, дзе цяпер стаяла машына. Яны трапілі на старыя тарфяныя кар'еры, зарослыя кустамі. Вочы прабеглі па карце: да бліжэйшае вёскі кіламетры з чатыры, да мястэчка, дзе можа быць бальніца, кіламетраў з сем. Да гравійкі ад кустоў кіламетр полем. Паглядзеўшы на карту, Віктар ведаў ужо, што па радыёсувязі звязацца са сваімі нельга. Заставалася ратаваць афіцэра і спяшаць да сваіх.

— Качыеру, нам патрэбна машына. Што можна зрабіць? — запытаўся Віктар.

З выгляду ён быў спакойны. І гэтая спакойнасць і ўпэўненасць перадалася салдатам.

— Паспрабаваць падкласці бярвенне...

— Не марудзьце!

Праз хвілін колькі яны ўтрох прыладжвалі тросікамі самаратавання да гусеніц тры таўставатыя альховыя жэрдкі. Калі Качыеру даў задні ход, машына, абапіраючыся на жэрдкі, нечакана лёгка выпаўзла на тупкае.

Асцярожна, каб не турбаваць лішне, паклалі старшага лейтэнанта ў дэсантнае аддзяленне. Ранены на

некалькі секунд ачуняў, цяжкім, непаслухмяным позіркам паглядзеў на Віктара, прашаптаў:

— Па-дурному ўсё... Да раніцы паведамі, што нічога не выйшла...

Дзверы бальніцы адчыніла пажылая медсястра, разгублена глядзела на салдат, залепленых снегам, мокрых, няўклюдных, як мядзведзі. Бітыя валёнкі пакідалі на фарбаванай падлозе чорныя плямы балотнае руды.

Вельмі ж маладзенькія і стомленыя здаваліся ёй салдаты, якія з'явіліся ў гэтую ноч з раненым таварышам, які нерухома ляжаў на кушэтцы.

На некалькі секунд медсястра нахілілася над раненым, памацала пульс. Потым падышла да тэлефона і хуценька набрала нумар, доўга трымала трубку, скупа паведаміла, што салдаты прывезлі раненага.

Праз хвілін колькі ў прыёмную ўвайшоў доктар, малады мужчына з худым тварам і гарбаносы, апрануты ў кароткую белую куртку на футравай падкладцы. Ён, не распранаючыся, нахіліўся над афіцэрам, палічыў пульс, агледзеў галаву, прысеў да тэлефона, хуткімі рукамі набраў нумар, коратка гаварыў з некім на другім канцы провада пра тое, што машына трэба тэрмінова, сказаў нешта па-латыні.

Віктар моўчкі чакаў, гледзячы на доктара, і той зразумеў, чаго чакае салдат.

— Будзе жыць. Магчыма сатрасенне. Жыць будзе,— адказаў доктар, дастаў і прыкурыў цыгарэту.

Чырвонымі, непаслухмянымі ад холаду рукамі Віктар напісаў на лісточку нумар свае часці, адрас, прозвішча афіцэра і сваё прозвішча.

— Вы ж перадыхнеце хоць,— прапанавала медсястра.

Віктар бачыў, як жаласна глядзіць яна на іх. Ён кінуў вокам на гадзіннік. Пачатак пятае. Да раніцы трэба было далажыць, што афіцэр не выканаў заданне.

— Нам пара,— коратка адказаў Віктар.— Дзякуем вам за дапамогу.

Віктар бачыў, што, не зважаючы на мяцеліцу, выйшаў услед і стаяў на ганку доктар.

Часу да раніцы заставалася мала, але і гнаць машыну на поўную хуткасць не выпадала. У такой цемры і снегавой каламуце лёгка было праскочыць хоць адзін паварот і заблудзіцца. Таму Віктар замяраў адлегласць на карце цыркулем, сачыў за кіламетражом, каб не праехаць лішне. Лягчэй ехалася, пакуль памятаў прыкметы: кусцікі ў полі, узлесак.

Праехалі добрую палавіну шляху. Пачаўся самы цяжкі кавалак маршруту, са шматлікімі паваротамі. І на адным з гэтых паваротаў Віктар памыліўся. Заблудзіліся. Віктар толькі прыкладна ведаў раён, дзе знаходзіліся.

Машына спынілася. Віктар, абмецены снегам, як гурба, сеў на сваё месца. Вось тады і азірнуўся на яго Качыеру — хітрымі гэтакімі вачыма, нібы толькі ён адзін ведаў, што можна зрабіць, бо Віктар да гэтага не дадумаецца.

Віктар ва ўпор паглядзеў на яго. Віктар чакаў. Ён разумеў, што нельга яму і чаканнем выпрошваць параду ў падначаленага. Але ён стаміўся і сапраўды не ведаў, што рабіць. Ён быў маладым камандзірам, які толькі прыйшоў з «вучэбкі».

— Ноччу не выберамся, таварыш сержант. Каб не заехаць у якое балота, трэба чакаць дня.

Механік гаварыў праўду. Трэба чакаць раніцы. Віктар маўчаў. Вочы заплюшчваліся, расслаблялася цела. Але ж загад...

Віктар страсянуў галавою, адганяючы дрымоту. Ён не ведаў, што трэба рабіць, але добра разумеў адно — з прапановаю механіка нельга згаджацца. Успомнілася, як нядаўна падпарадкоўваліся яму салдаты, калі адчувалі, што ён ведае, што трэба рабіць. Трэба, каб і цяпер яны адчулі ягоную ўпэўненасць.

— Не, Качыеру,— адказаў Віктар.

Ён агледзеўся. Праз адчынены люк залятаді сняжынкі, зеленавата свяцілася вочка падсветкі на прыборным шчытку механіка, пакалыхвалася стрэлка тахометра. Віктар аж усміхнуўся ад здагадкі — радыёстанцыя! Цяпер, як праехалі ладны кавалак дарогі, можна было паспрабаваць звязацца са сваімі па радыёстанцыі, пра якую ён і забыўся. Віктар падключыўся, уключыў радыёстанцыю, назваў свае пазыўныя. У навушніках роўна шумела, і Віктар, здавалася, адчуў, як не далятаюць да сваіх нябачныя, ускалыхнутыя ягоным перадатчыкам радыёхвалі. Але неспадзявана нешта пстрыкнула, пачуўся нечакана блізкі голас камандзіра роты:

— Я — вецер. Прыём.

Коратка, заікаючыся ад хвалявання, Віктар далажыў, што здарылася са старшым лейтэнантам, свае каардынаты і прызнаўся, што заблудзіўся.

Механік не ўсміхаўся, прыслухоўваўся да перагавораў.

Нанёсшы на карту новы маршрут, Віктар загадаў ехаць.

Штаб прытуліўся ў невялікім лясочку, на ўзлеску, за маладым, густым бярэзнікам. Далей, углыб, ішоў сасновы лес. І там, за соснамі, у адным месцы гарэла вогнішча, агеньчык якога слаба мітусіўся за снегавым мроівам.

Патрулі паказалі штабную машыну.

У машыне нечакана ярка свяціла лямпачка. За раскладным столікам сядзеў у камбінезоне без шапкі начальнік штаба. Самога камандзіра не было.

Стоячы пры дзвярах, Віктар коратка далажыў, што было. Начальнік штаба толькі незадаволена закрахтаў, бы гэта Віктар быў вінаваты, што сарвалася аперацыя. Віктар пра яе нічога і не ведаў. Начальнік штаба запісаў, дзе і калі пакінуў Віктар афіцэра, зірнуў на карту, перавёў вочы на мокрага і стомленага сяржанта:

— Вы самі прывялі адтуль машыну? Маладзец! Не елі? Не адпачывалі? Перадайце на кухні мой загад, каб накармілі, потым адпачываць.

На кухні кіпела ўжо ў катлах вада, а повар, у куфайцы і белым хвартуху, шырока расставіўшы ногі, сек на калодцы кансервавыя бляшанкі з тушонкаю. Ставіў бляшанку на калодку і адным дакладным ударам распалавіньваў яе, браў і вытрасаў мяса ў кацёл. Ён угледзеў Віктара, спыніўся. Віктар толькі хацеў перадаць загад начальніка штаба, але повар сам запытаўся:

— Што, з разведкі? Галодны?

— Нас трое.

Повар моўчкі рассек напал дзве бляшанкі, падаў іх Віктару, дастаў са скрынкі баханку хлеба. Хлеб быў яшчэ ў руках у повара, а Віктар пачуў, як ён пахне, і ад гэтага паху нават лёгенька закружылася галава...

Потым яны елі ўтрох ля таго самага вогнішча, якое заўважыў Віктар. Там на насланых пад сценкаю лапках адпачывалі батальённыя сувязісты. Грэлі іх дзве сухастоіны, пакладзеныя канцамі адна на адну.

Павячэраўшы, Віктар Андрэевіч устаў, падклаў галля ў вогнішча, падцягнуў палены і паклаў на агонь накрыж канцамі.

У зацішку пад сценкаю было душна. Мужчына ведаў, што не змерзне, пакуль будзе гарэць вогнішча.

А ноч тым часам легла на лес, і нават вецер крыху аціх, не так шумеў у вышыні. Зрэдку нешта пакрыквала, уздыхала. Віктар Андрэевіч ведаў, што гэта звычайныя

лесавыя гукі. Ці недзе шоргае галіна, ці парыпваюць, труцчыся адно аб адно дрэвы, якія растуць поруч і наперагонкі цягнуцца ўгору, да сонца.

Ноччу Віктар Андрэевіч некалькі разоў прачынаўся, падсоўваў палены, каб не затухала вогнішча, а пад раніцу заснуў так моцна, што, і самому на ўздзіў, праспаў да добрага світання. Калі прачнуўся, здзіўлена азірнуўся навокал: то была зіма, снег, а гэта восень... Усміхнуўся, што зблытаў успамін з явою.

Але на душы было гэтакае ж самае, як і тады, на вучэннях, адчуванне мужчынскага спакою, упэўненасці ў самім сабе і незалежнасці, чаго ўжо даўно не адчуваў Віктар Андрэевіч, удачлівы, спрытны ў жыцці чалавек, якому цяпер крыху было не па сабе, быццам ён правінаваціўся ў нечым перад тым самім сабою — сяржантам.

Віктар Андрэевіч паснедаў, затушыў вогнішча і праз гадзіну выйшаў да дарогі. І там жа, непадалёку ад яе, у маладым рэдкім ельніку ў лагчыне, дзе было больш вільгаці, нарэзаў паўкошыка рыжыкаў.

Потым сеў у спадарожную машыну да горада. Але каб убачыў яго хто са знаёмых, то не пазнаў бы: ён не загаворваў да шафёра, не хваліўся грыбною ўдачаю і не быў, як звычайна, задаволены, а сядзеў прыціхлы і сумнаваты.

Дома здзівіліся гэтай ягонай маўклівасці і стрыманасці, вырашылі, што ён проста вельмі стаміўся...



## РАЗВІТАННЕ

Снег не растаў. Прыхоплены марозікам, ляжаў ужо другі дзень. А яшчэ толькі палавіна кастрычніка — і гэтакі дачасны холад. Перад тым, як пайсці снегу, ішлі дажджы, цёплыя, дробныя. За адзін дзень захададала, пайшоў снег з дажджом, а пад вечар падняўся вецер, пачаў хвастаць снегавымі мокрымі хвалямі. Неяк адразу зрабіўся каламутным, шэрым далягляд. Слаба відаць былі выгоністыя кучаравыя сосны на ўзлеску, пасівелыя ад снегавое замеці.

Ад гэтага каламутнага неба і шэрае тугі балела сэрца.

Маёр Іваноў быў упэўнены, што сэрца баліць з-за дрэннага надвор'я. Іншае прычыны не было. Усё падрахавана ў ягоным жыцці, пастаўлены подпісы, пячаткі, падшыты дакументы, у якіх і службовыя характарыстыкі за ўсе гады службы, і пералічаны ўсе ягоныя хваробы. Маёр нават дзівіўся, што чалавек яшчэ можа жыць, маючы гэтулькі хвароб. Калі верыць дактарам, то можна ўявіць сябе старою аўтамашынаю, яшчэ тых, ваенных часоў, убачыць на ёй усе драпіны, сляды ад удараў, тугія палосы электразварачных швоў... Не верылася, што стаў ён гэтакаю старою развалінаю, прынамсі, хоць не відаць усім гэтыя шрамы і паломкі, і не скажаш, глянуўшы на яго, што старая ён разваліна...

Крыху палягчала на сэрцы, калі ўзяўся марозік на двары, мінула самая халепа.

І маёр падняўся рана, ціхенька заварыў на кухні чай, зрабіў бутэрброд. Ціхенька ён апрануўся, абуў боты, выйшаў на лесвічную пляцоўку, чысціў іх спачатку шчоткаю, потым кавалачкам шынельнага сукна. Апрануў шынель, узяў у руку папругу з партупеяй, патрымаў і павесіў назад на цвік на вешалцы — знарок убіты вешаць папругу.

Збіраўся ён, як і многа гадоў, нават не думаючы пра тое, што рабіць.

Маёр паволі ішоў па асветленай заасфальтаванай дарозе, якая вяла да салдацкае сталоўкі, пабудаванае, калі глядзець на яе зверху, як самалёт — і крылле ёсць, і фюзеляж, і хвост.

На абодва бакі дарогі, перад сталоўкаю, стаялі дзве казармы. Маёр прыпыніўся ўражаны — колькі разоў вось гэтак ён прыходзіў сюды, да свае казармы, па гэтых асфальтаваных дарогах і не задумваўся, што і сталоўка, і казармы тыя самыя. Гэтулькі часу прайшло, прашумела над імі! Цэлае жыццё, ягонае жыццё! Гэта тут ён, маладзенькі хлопчык, стаяў ноччу на пасту. Тою

самаю ноччу, калі пачалася вайна... Маёру нават здалося, што зараз ён зойдзе ў казарму, падымецца на другі паверх і там, пры акне, убачыць на ложку таго маладзенькага радавога Іванова.

Маёр усміхнуўся, завярнуўся і пайшоў да другое, да свае казармы, дзе ён служыў, пакуль і не звольніўся ў запас.

Маёр акуратна выцер ногі, прытрымаў, каб не ляпнулі моцна, дзверы, зайшоў у калідор.

Днявальны, які стаяў пры тумбачцы, выцягнуўся, казырнуў. Маёр кінуў руку да казырка, працягнуў яе салдату. Той неяк разгублена тыцнуў маёру сваю руку.

— Добрае раніцы, Садыкаў.

— Добрае раніцы, таварыш маёр.

Маёр усміхнуўся: цяпер яго няма чаго называць таварышам маёрам, ужо лепш імя і імя па бацьку... Яму хацелася пагаварыць з салдатам, якому маёр усё яшчэ здаваўся начальнікам — па прывычцы.

Маёр зайшоў у штаб, запаліў святло, расшпіліў шынель, але спахапіўся, што распранацца не варта. Зірнуў на свой стол. Стол быў акуратна прыбраны. Маёр ніколі не пакідаў пустым стол. На ім ляжалі стосікам кнігі. Цяпер жа толькі акуратна высілася чорная вазачка з алоўкамі і шарыкавымі ручкамі. Не было на стале крыху старамоднага чарнільнага прыбора і ручак з пёрамі — маёр пісаў старамоднымі канцылярскімі прыладамі, у кабінеце не прызнаваў ніякіх аўтаручак.

Маёр асцярожна прысеў да стала, правёў рукою па халаднаватай гладкай ягонай паверхні, зірнуў на вешалку — на тым самым кручку, дзе некалі вешаў ён сваю, вісела чужая плашч-накідка.

На століку поруч акуратненька стаялі два тэлефонныя апараты. Маёр дастаў цыгарэту, размяў яе ў пальцах, прыкурыў — і ў штабным пакоі моцна, чыста і прывычна запахла дымам. Маёр успомніў, што ні пісар, ні камбат, ні новы начальнік штаба не курылі.

Маёр усміхнуўся, заўважыўшы на сцяне складзены яшчэ некалі ім графік дзяжурства афіцэраў.

Маёр аж здрыгануўся, калі адчыніліся дзверы.

— Вінават...— збянтэжыўся, стоячы ў дзвярах пісар Рамашка. Ён не чакаў сустрэць каго ў штабе, быў у расшпіленай куртцы. Разгубленасць была кароткаю, пісар хуценька зачыніў дзверы.

Маёр усміхнуўся — ён заўважыў, што пісар не чакаў яго тут. Ды чаго было ісці сюды яму? Маёр устаў, азірнуўся навокал — чаго ён тут і якое мае права прыходзіць сюды, у штаб?

І зноў нешта вострае, гарачае варухнулася ў грудзях, як у той дзень, на плацу, перад усім палком, калі падышоў да схіленага сцяга, апусціўся на калена і пацалаваў халаднаватае чырвонае палотнішча. Чаго вяртацца, развітаўшыся са сцягам?

Маёр Іваноў зашпіліў шынель, выключыў святло і выйшаў са штаба. Спяшаючыся ішоў з тэрыторыі часці — не хацелася, каб хто спаткаў яго з афіцэраў, і дадому ішоў не тратуарам, а па шашы. Што падумаюць, калі сустрэнуць яго тут, у форме? Чаго ён ходзіць? І сам маёр не мог растлумачыць, чаго ён падняўся, чаго прыйшоў быў у казарму. На ўсё свой час... Цяпер у яго пачыналася другое жыццё... Другое. Маёр не мог уявіць сабе таго, другога жыцця. Ды яго і не будзе, бо ў чалавека яно адно, значыць, пражыў ты, маёр Іваноў, сваё жыццё, засталося дажываць. І не было часу прыпыніцца, азірнуцца, падумаць. Другі адлік пачаўся ў ягоным жыцці з тае самае часіны, як чырвонаармеец Іваноў прыняў першы свой бой...

Іхні батальён займаў абарону на могілках, якія былі воддаль вёскі, на ўзгорку; за ўзгоркам ляжала невялікая лагчына, парослая рэдкімі кустамі алешніку, высокім асотам і крапівою. А далей пачыналіся пера-

лескі рэдкага каржакаватага хвойніку, які з узгорка здаваўся выратавальнаю пушчаю, у якой можна схавацца, адарвацца ад ворага. Рэдкі той лес не быў выратаваннем, гэта давялося потым спазнаць Іванову. Ды і батальёна іхняга на той час ужо не было — вялі бой астаткі батальёна. Канчаліся боепрыпасы. Дрэвы на могілках пазрэзваны асколкамі, павываросчваны з карэннем. Сувязі з палком не было, загінуў камбат, камандаваў абаронаю палітрук другое роты, паранены кулямётнаю чаргою ў ногі. Сувязныя, якія пайшлі, каб наладзіць сувязь са штабам палка, не вярнуліся, не падыходзіла ні падмацаванне, ні боепрыпасаў не падвозілі. І не было загаду адысці. Было відавочна, што група зраненых салдат з адзіным станкавым кулямётам і вінтоўкамі, на якую засталося менш чым па дзесятку патронаў, не зможа адбіць і аднае атакі. Але немцы не атакавалі, пакінулі скрыжаванне дарог у спакоі. З вышыні відаць было, як на небакраі рухаліся іхнія калоны, абышоўшы збоку нашу абарону, і такім чынам, выходзіла, што марна стаялі байцы насмерць. Гэтак думалася Іванову. Потым ужо, калі прайшоў многія франтавыя вёрсты вайны, ён ведаў, як гэта многа значыла, што прытрымалі яны ворага на цэлага паўдня, якую немагчымую задачу выканалі, бо спазнаў дарагую цану часу ў франтавых умовах, зразумеў і той сэнс, які мела іхняя абарона — даць арганізавана адысці на новыя пазіцыі асноўным сілам.

Тады на могілках ім пачало здавацца, што пра іх забыліся немцы. І лёгка было, што пакінулі ў спакоі, і жудасна ад таго, што ішлі і ішлі далей, у тыл...

Атака пачалася нечакана і страшна: з лагчыны выйшлі і, здавалася, не спяшаючыся пайшлі на пазіцыі два танкі. За імі тулячыся падбягалі аўтаматчыкі. Здаецца, ціха стала на ўсёй зямлі, толькі маторы танкавыя панура і цяжка вуркаталі, ад іх вывіваліся дымкі. Іваноў спачатку, як зачараваны, глядзеў на танкі — неяк

не верылася, што гэта смерць іхняя гэтак паволі і бясхрыўдна набліжаецца ў летняй спякоце. Ён азірнуўся па баках, на свой неглыбокі акопчык у пясчанай зямлі, паглядзеў на вінтоўку, што ляжала на брустверы і здавалася цяпер не грознаю зброяй, а цацкаю. Па ручцы затвора, нібыта спяшалася схавацца, паўзла божая кароўка, тая самая божая кароўка, якую яны дзецьмі бралі, садзілі на руку і прыгаворвалі: «Андрэйка-братка...» Успыхнула вострае жаданне зрабіцца гэтакім маленькім, як гэтая казюрка, знікнуць, прапасці з зямлі...

— Танкі! — роспачна крыкнуў нехта ў акопах, нібыта толькі цяпер заўважыў іх. Гэты крык рэзануў па душы, вярнуў да свядомасці — ратавацца! І, быццам пачуўшы крык, танкі з ходу адзін за адным выстралілі з гарматаў. Снарады зрабілі пералёт, глуха вухнулі за акопамі, нібыта напамінаючы, што назад дарогі не будзе. Танкі цяпер не здаваліся павольнымі і бяскрыўднымі — яны хутка, няўмольна набліжаліся, бухаючы з гармат і стракочучы з кулямётаў.

— Танкі! — зноў роспачна прагаласіў той самы голас, нібы чалавек прасіў паратунку топячыся.

Іваноў угледзеў, як некалькі чалавек выхапілася са сваіх акопаў і кінулася ўцякаць, уніз, у лагчыну, да лесу.

— Прыгатаваць гранаты! Агонь па пяхоце! — прагучаў голас палітрука.

Але Іваноў не слухаў ягонае каманды, падхапіўся і таксама пабег назад, у тыл. Ён нібы інстынктыўна адчуў блізкі выбух, упаў на зямлю. Зусім побач скаланулася зямля. Нешта горача пранізала левы плячук.

«Паранены!» — спалохана падумаў ён, ужо не адважваючыся паднімацца на ногі і бегчы, а паўзучы да ямы ад снараднага выбуху.

З варонкі ён бачыў, як пачала залягаць адрэзаная кулямётным агнём нямецкая пяхота, а потым заўважыў, як насустрач танкам, паўз зарослую піжмаю мяжу

папоўз палітрук. Іваноў пазнаў яго па забінтаваных нагах. Яму добра было відаць, як цяжка, няўклюдна поўз палітрук, закрыты ад танка мяжою. Нібыта хтосьці невядомы няўмольна зводзіў да аднае мясцінкі два шляхі: пабольны — параненага чалавека, металічны, смяротны — бранявое машыны. Танк не мог размінуцца з чалавекам, ён нібыта знарок ішоў на яго.

Болей нічога Іваноў не бачыў і не заўважаў — толькі палітрука і танк. Палітрук таксама ні разу не прыпыніўся, не падняўся і не паглядзеў, дзе танк, поўз, пакуль не аказаўся на шляху танка, прыўзняўся, зірнуў на яго скрозь зелле і прытаіўся. Танк ішоў на яго. Палітрук не падымаўся. Ужо можна было кідаць гранату ці бутэльку з гаручаю сумессю. Палітрук ляжаў. Здалося, што ён мёртвы і танк вось-вось наедзе на яго і раздушыць мёртвае цела. І тады рыўком адштурхнуўся ад зямлі, падкінуўся і кінуў бутэльку. Зырка ўспыхнула полымя на брані. Танк яшчэ некалькі метраў прасунуўся наперад, уз'ехаў на мяжу, на палітрука — і заклубіўся чорным дымам, з яго пасыпаліся танкісты.

Другі танк таксама стаяў, перакасіўшыся на правы бок.

Кароткімі чэргамі пастукваў станкач. Чуліся вінтовачныя стрэлы з акопаў, чутны былі гергатыя нямецкія каманды — пяхота адкочвалася назад, за перакрыжаванне, за ўзгорак.

Не страх, што палічаць яго баязліўцам, а сорам, пякучы сорам прымусіў Іванова паўзці да акопа. Мабыць, гэта быў самы страшны, самы доўгі шлях, тыя метраў пяцьдзесят ад варонкі да свайго акопа!

Ніхто не заўважыў ягонага спалоху.

Іваноў праз паўгадзіны разам з усімі пакідаў вышыню. Камандаваў групаю сержант. Цераз плячо ў яго вісела знаёмая Іванову палітрукова палявая сумка... Тады Іванову здавалася, што не мае ён права на дараванне, што, каб не ён і не тыя ўцекачы, палітрук не за-

гінуў бы. Бо на танк трэба было паўзці здароваму, а не раненаму, бязногаму, лічы, чалавеку. Многа смерці нагледзеўся за вайну Іваноў, сам поўзаў на танкі з гранатаю ў руках, хаваў сяброў, бачыў, як некаторыя маладыя не вытрымлівалі ў першым баі і спрабавалі ўцякаць, і стараўся быць побач з імі, каб падбадзёрыць, падтрымаць, дапамагчы перасіліць страх...

Маёр прамінуў КПП, завучана казырнуў у адказ дняўвальнаму, завярнуў на сваю сцежку пад соснамі — на вуліцы ў гарадку ўжо было людна, спяшаліся на работу жанкі, афіцэры ў свае падраздзяленні. Цяпер маёр разумеў, што не давала яму спакою: не толькі пераход да непрывычнага жыцця адстаўніком, а думкі пра сэнс пражытага ім жыцця. Ён ведаў, што і жонка, і нават знаёмыя спачувалі яму. Не ўдалася службовая кар'ера. Так і не заняў вышэйшага кіраўнічага паста, выйшаў на пенсію маёрам... А з ягонаю біяграфіяй франтавіка можна было скончыць і акадэмію, і да генерала даслужыцца. Ён не спрачаўся, хоць і не згаджаўся з гэтым. Іваноў ведаў другі сэнс свае кар'еры, вялікі і сапраўдны сэнс — вучыць салдата, быць пры ім кожны дзень, неадступна, нястомна... Маёр верыў, што, як давядзецца хоць каму з ягоных выхаванцаў трапіць у цяжкую сітуацыю, у якой аказаўся быў ён сам у тым страшным годзе, ён, іхні камандзір, будзе побач, не дасць памыліцца... І разам з гэтым страшна рабілася ад думкі, што тое можа паўтарыцца з гэтымі маладзенькімі, на парозе жыцця людзьмі!

Цяпер, калі завяршыўся вялікі круг ягонага жыцця, захацелася яшчэ раз вярнуцца да салдат, да тых, каму аддадзена было жыццё... Маёр усміхнуўся: дзе цяпер знайсці іх, тых ягоных салдат, якія раз'ехаліся па ўсёй краіне, з якіх ёсць ужо генералы, і адзін з іх знайшоў адрас маёра Іванова і напісаў пісьмо.

Маёр ціхенька зайшоў у кватэру, распрануўся, уссунуў на ногі тапачкі, зайшоў на кухню, стомлена прысеў на табурэтцы, паклаўшы на калені рукі.

Ён не пачуў, калі выйшла са спальні жонка, спынілася ля прыадчыненых у кухню дзвярэй і здзіўлена глядзела на мужа.

Маёр сядзеў нерухома, ссутуліўшыся па-старэчаму худымі плячыма, на якіх вялікаватаю здавалася гарчычнага колеру афіцэрская рубашка. Твар быў цёмны ад загару, які бывае толькі ў вясковых людзей, якія ўсё сваё жыццё робяць на зямлі.

На двары толькі-толькі пачынала днець.

## ЗМЕСТ

**Жук А.**

Ж85 Зоркі над палігонам. Аповесць, апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1977.

192 с. з іл.

...Узвод, якім камандуе лейтэнант Карповіч, герой аповесці «Зоркі над палігонам», трапляе ў складаныя ўмовы. Камандзіру трэба прыняць адзінае правільнае рашэнне, каб выйграць «бой».

Пра нялёгкую рамантыку вайсковай службы, пра станаўленне і ўзмужанне маладых людзей, якія апранулі вайсковую форму, расказваецца ў аповесці і ў апавяданнях, што ўвайшлі ў кнігу.

Ж $\frac{70803-114}{М\ 302(05)-77}$ 146-77 **Бел 2**

**Александр Александрович Жук**

ЗВЕЗДЫ НАД ПОЛИГОНОМ

**Для детей старшего школьного возраста**

**На белорусском языке**

Рэдактар **І. Б. Ідэльсон.** Мастак **Б. Б. Цітовіч.** Мастацкі рэдактар **В. І. Кліменка.** Тэхнічны рэдактар **З. Г. Сень.** Карэктар **Я. Ф. Харко.**

ІБ № 99

АТ 21026. Здадзена ў набор 15/XI 1976 г. Падп. да друку 22/IV 1977 г. Тыраж 10 000 экз. Фармат 84×100[1]/32. Папера афс. № 1. Ум. друк. арк. 9,36. Ул.-выд. арк. 8,47. Зак. 3752. Цана 44 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Мінск**
**«Мастацкая літаратура»**
**1977**



---

## КНІГІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ СЯРЭДНЯГА І СТАРЭЙШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ

---

*В. Вольскі*
ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ, Т. І.

*В. Вольскі*
ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ, Т. ІІ.

*А. Пальчэўскі*
СЦЕЖКІ
Аповесць